РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №30 (139), 27 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА.





# ЦІ ЎТРЫМАЕМ МЫ СВАЮ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ?

**Алег ТРУСАЎ,**
старшыня Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, народны дэпутат Беларусі

І зноў 27 ліпеня. Дзень незалежнасці нашай дзяржавы... Што прынясе нам гэты год, чарговы год існавання еўрапейскай дзяржавы, такой старажытнай і такой маладой, дзяржавы пад назваю Рэспубліка Беларусь? Эканамічную стабільнасць, з'яўленне паўнакроўнай нацыянальнай валюты, вывад чужаземных войскаў, узброеных ядзернай смерцю, росквіт нацыянальнай мовы і культуры, адраджэнне зганьбаваных бальшавікамі святыняў? А можа наадварот — пустыя паліцы магазінаў, натоўпы беспрацоўных перад Домам урада, розныя рэферэндумы аб двухмоўі, ліквідацыі нацыянальнай сімволікі і паступовае вяртанне да 1840 года, калі на карце Еўропы замест старадаўняй назвы Беларусь з'явілася абразлівае двухслоўе "Северо-Западный край"?

Пасля вынікаў першых на Беларусі прэзідэнцкіх выбараў і перамогі на іх майго земляка са Шклоўшчыны другі варыянт падзей, на жаль, мае значна болей шансаў для сваёй рэалізацыі, чым першы.

Аднак будзем рэалістамі: гісторыя заўжды паўтараецца толькі для тых, хто яе не ведае. І калі першы раз яна прыводзіць да трагедыі, то другі раз — толькі да фарсу.

Давайце яшчэ раз узгадаем, як каманда Кебіча некалькі гадоў пад рознымі соусамі праводзіла ідэю аб прэзідэнцкім кіраванні. Нават пайшлі на прыняцце новай Канстытуцыі, якая, дарэчы, стала гарантам нашай незалежнасці, мовы, сімволікі і самастойнага ладу жыцця. І менавіта Канстытуцыя дазволіла Станіславу Багданкевічу не падпісаць ганебную змову аб продажы Беларусі суседняй дзяржаве нават не за 30 паўнавартасных срэбных солідаў, а за некалькі вагонаў паперак з сутарэнняў Нацыянальнага банка Расіі. Без абяцаных рублёў прэзідэнцтва бумерангам пранеслася над урадам Кебіча. І здзейснілася тое, чаго не раз патрабавала парламенцкая апазіцыя — антынародны ўрад мусіў пайсці ў адстаўку.

Зараз наступае перыяд часовых людзей, "временщиков", як кажуць у суседняй Расіі. Але іх час нядоўгі, а намаганні марныя, бо праз год беларускі народ, які нарэшце падняўся з каленяў, сурова запатрабуе справаздачу ад тых, хто абяцаў яму зноў пабудаваць камунізм за два гады, са стабільнымі цэнамі, дзяржаўным кіраваннем эканомікай, ліквідацыяй беспрацоўя і злачыннасці. І ніякія рэферэндумы тут ужо не дапамогуць...

Іншая справа, што час безладдзя і пустых абяцанняў неабходна як мага хутчэй скараціць. І такая магчымасць ёсць. Гэта новыя выбары ў Вярхоўны Савет і мясцовыя Саветы. Да іх трэба рыхтавацца ўжо цяпер. Толькі агульныя намаганні ўсіх дэмакратычных партыяў і рухаў змогуць прывесці да кардынальных зменаў у нашым грамадстве. І не трэба нам ствараць пры жыцці нацыянальных герояў і апосталаў, дзяліць дэмакратычныя плыні на "сапраўдныя" і "несапраўдныя", вылучаць сярод іх "старэйшых" і "малодшых" братоў. Толькі раўнапраўны перадвыбарчы саюз на парытэтнай аснове дазволіць сілам дабра і прагрэсу атрымаць доўгачаканую перамогу і адсвяткаваць чарговую гадавіну нашай незалежнасці з большым аптымізмам і надзеяй.

## СІТУАЦЫЯ

# Я РАДА, ШТО ВЫЖЫЛА

Тамара Арцёмаўна Сініцына — равесніца "Вялікай Кастрычніцкай".

Яна невялічкага росту, хударлявая, а на фотаздымках трохгадовай даўнасці была круглатварай, чырвонашчокай. Вінавата цяжкая хвароба. У паліклініцы выпісалі нейкія лекі, але іх не было ў аптэцы. Прапанавалі замежныя прэпараты, як казалі, больш эфектыўныя. Толькі гэтая "эфектыўнасць" дала пабочны эфект на ўвесь арганізм. Асабліва адбілася "лячэнне" на страўніку. Тамара Арцёмаўна перанесла некалькі аперацый і ледзь-ледзь выжыла. За лічаныя месяцы яна жудасна схуднела, страціўшы некалькі дзесяткаў кілаграмаў.

— Ды што гэта я ўсё пра балячкі, — апраўдваецца Тамара Арцёмаўна. — Раскажу лепей пра сваё жыццё.

Старая жанчына накіроўваецца ў суседні пакойчык, вяртаецца з тоўстай папкай у руках. У ёй — шматлікія лісты, рукапісы, старыя, пажоўклыя ад часу фотаздымкі, ганаровыя граматы. Гэта — своеасаблівы сямейны архіў, гісторыя ў дакументах.

... Нарадзілася Тамара ў горадзе Быхаве, раённым цэнтры Магілёўскай вобласці. Тут і пражыла ўсё сваё жыццё. Маці — сялянка, бацька — афіцэр царскай арміі. (Пазней, у графе "Паходжанне" Тамара, набыўшы горкі вопыт, вымушана будзе пісаць: "З простых сялян").

Маці памерла рана, у дваццаць дзевятым годзе, пакінуўшы яшчэ і паўтарагадовага сына. Тата ажаніўся ў другі раз. Маладая жонка неўзабаве нарадзіла яму дзвюх дачок, але нядоўгім было сямейнае шчасце...

Наколькі памятае Тамара, яе бацька, Арцём Яўціхавіч, быў вельмі адукаваным чалавекам. Такіх няшмат было ў той час у маладой Савецкай рэспубліцы. Вось і запрасілі яго, былога афіцэра, на даволі адказную пасаду — узначальваць адну з гаспадарак раёна, калгас "Рэвалюцыя". Толькі бацька адмовіўся, маўляў, не здолее. А на самай справе, зразумела, — баяўся. І ўладкаваўся на працу простым калгаснікам. Але ж кіраваць Арцёму Яўціхавічу ўсё ж давялося, бо пазней яго прызначылі дырэктарам збожжанарыхтоўчай канторы. Але — не надоўга...

Знайшоўся чалавек, які паставіў "крыж" на далейшым жыцці Арцёма Сініцына, адрэкамендаваўшы ў мясцовым НКУСе бацьку Тамары як "ненадзейнага, з цёмным мінулым і крамольнымі думкамі". Цёплым летнім вечарам 32-га ў дзверы да Сініцыных пастукаліся. Людзі ў ваеннай форме павялі з дому бацьку, як потым аказалася, назаўсёды. У тую ноч шмат хто з быхаўчукоў вымушаны быў памяняць свой ложак на жорсткія нары мясцовай турмы.

На этапе Арцёма Яўціхавіча адправілі ў Магілёў. Падчас развітання на Быхаўскім чыгуначным вакзале Тамара апошні раз у жыцці пабачылася з бацькам. Прарываючыся з яблыкамі ў хустцы праз узброеных канваіраў з сабакамі, яна толькі і паспела абмяняцца з бацькам некалькімі словамі, але неўзабаве была збіта з ног і апынулася на зямлі. Яблыкі тата так і не атрымаў. Яны, чырвоныя і наліўныя, рассыпаліся па пыльнай прывакзальнай плошчы...

Мачыха Тамары ледзь не штодня вазіла перадачы ў Магілёў. Аднойчы, калі яна ў чарговы раз прыехала ў адведкі, ёй сказалі, што такога арыштаванага ў турме няма.

І па сёння Тамара Арцёмаўна не ведае, дзе пахаваны яе бацька. Але ўшанаваць памяць роднага чалавека яна лічыла сваім абавязкам. Таму праз колькі гадоў на мясцовых могілках, над Дняпром, дзе пахавана маці, з'явіўся помнік, на якім было выгравіраванае і бацькава імя.

Аднойчы, калі наведвала "магілу" бацькі, давялося ёй сустрэцца з чалавекам, што напісаў данос на яго. Схаладнелы, ляжаў ён на пагорку ў труне, абшытай чорным аксамітам. Адзін з мужчын, што стаялі ля яго, крануў яе за плячо: "Глядзі, зямля прымае таго, хто вінаваты ў смерці твайго бацькі".

Праз колькі часу, асцерагаючыся рэпрэсій, мачыха з'ехала кудысьці ў Расію. Ад сям'і Сініцыных адвярнуліся ўсе сваякі. Далейшае выхаванне малых — дзвюх сястрычак і брацiка — цалкам ўсклалася на плечы пятнаццацігадовай дзяўчынкі.

Каб мець хоць нейкую спецыяльнасць, Тамара пасля заканчэння сямігодкі, на "выдатна" здаўшы іспыты, паступае ў Магілёўскі педагагічны тэхнікум на завочныя аднагадовыя настаўніцкія курсы. Толькі і сюды даляцелі звесткі аб сям'і "ворага народа". Адна за адной на імя дырэктара тэхнікума дасылаліся тэлеграмы з Быхаўскага гаркама з патрабаваннем неадкладнага выкаранення "імперыялістычных элементаў". Але кіраўніцтва тэхнікума працягвала дапамагаць Тамары і яе дзеткам прадуктамі, грашыма. Да заканчэння курсаў справілі дзяўчыне новае паліто. Дарэчы, дырэктар тэхнікума ўсё ж трапіў пад хвалю рэпрэсій 37-га...

Па размеркаванні Тамара прыехала настаўніцай пачатковых класаў у школу вёскі Ямнае, што за сем кіламетраў ад райцэнтра. Пасля дзяўчыну перавялі ў Быхаў. Неўзабаве і тут ў яе пачаліся цяжкасці. Тамару здымаюць з працы, а на яе месца прызначаюць малаадукаваную жонку начальніка гарадскога НКУСа. І засталася Тамара Арцёмаўна без працы, без грошай і з трыма малымі на руках.

Хадзіла па розных інстанцыях. Толькі ўсё — безвынікова. Але тут дапамаглі бацькі яе былых вучняў і бацькавы сябры, якія напісалі хадайніцтва ажно ў саму белакаменную, і яно, па чутках, трапіла ў рукі да Крупскай.

Дзяўчыну ўзнавілі на працы на наступны ж дзень. І сёння са слязамі на вачах яна ўспамінае той момант, калі зноў увайшла ў клас. Дзеці віталі сваю настаўніцу стоячы, школьны калідор быў запоўнены бацькамі вучняў. І ўсё ж... "Увага" недобразычліўцаў была перакінута на Максіма Невідзюка, камсамольскага лідэра, сябра Тамары, які вырашыў звязаць свой лёс з дачкой "ворага народа".

Тамара і Максім свой саюз так і не зарэгістравалі. Дзяўчына баялася сапсаваць свайму каханаму жыццё. Так і пражылі яны разам пяцьдзесят сем гадоў. (Пяць гадоў таму Максім Пракопавіч памёр.)

Дзеці сталі для Максіма роднымі, называючы яго "татам". Але хутка Максім вымушаны быў пайсці з камсамольскай працы і ўладкаваўся на Быхаўскі аэрадром простым слесарам, а потым і ўвогуле стаў рознарабочым.

Па Быхаве зноў пракацілася хваля рэпрэсій, але, на шчасце, яна абмінула сям'ю Сініцыных-Невідзюкоў. Але наперадзе была вайна...

Гэтая старонка з жыцця Тамары Арцёмаўны мала каму вядомая. Яе больш ведаюць як настаўніцу, што 34 гады аддала дзецям, як кавалера Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга, выдатніка народнай адукацыі. Званне "Заслужаны настаўнік" яна так і не атрымала.

... Вайна напаткала Тамару ў Быхаве. І не было куды ёй бегчы з чатырма малымі дзецьмі на руках (сыну быў тады толькі годзік). Максім адразу ж пайшоў на фронт.

Падчас нямецкай акупацыі маладая жанчына ўладкавалася працаваць на кухні ваеннага аэрадрома. Разам са знаёмай наладзіла сувязь з партызанскімі атрадамі NN425 і 125 пад камандаваннем Сухава і Грыцана, што размясціліся ў заднепроўскіх лясах. Жанчыны перадавалі харчаванне, медыкаменты. Выратавалі жыцці некалькіх ваеннапалонных, пераправіўшы іх у лес.

Але да немцаў трапілі запіскі з лесу, адрасаваныя Тамары. Яе схапілі. Але і тут пашчасціла: салдат, які вёў сувязную на допыт, аказаўся славянінам-палякам. Ён і загадаў ёй збіраць рэчы, дзяцей і ўцякаць у лес. Што сталася потым з тым салдатам, невядома...

Пасля гэтага Тамара Арцёмаўна яшчэ доўга служыла ў савецкай вайсковай частцы за лініяй фронту.

Калі скончылася вайна, жанчына звярнулася ў адпаведныя органы па дакументы, што пацвярджалі б яе дапамогу партызанам. Але яе і слухаць не пажадалі, адказаўшы: "Многа вас зараз такіх швэндаецца, бач, чаго захацелі".

З таго часу Тамара Арцёмаўна нікуды больш не звярталася.

Так і пражыла амаль пяцьдзесят гадоў, не маючы дакументаў аб сваім баявым мінулым. Яна не карысталася ні льготамі, ні надбаўкамі да пенсіі.

Але тры гады таму пра яе, нарэшце, узгадалі. Тамары Арцёмаўне загадалі зайсці з усімі паперамі ў райсабес, каб аформіць надбаўку да пенсіі. І, пагартаўшы пажоўклыя ад часу дакументы, чыноўнікі не паверылі сваім вачам: "І вы маўчалі столькі гадоў?" Падзівіліся-падзівіліся і адправілі... па кабінетах "для далейшага высвятлення абставін". Гэтым бы ўсё і скончылася, калі б выпадкова не завітала да Сініцынай журналістка раённай газеты "Маяк Прыдняпроўя" Ганна Разбітнёва. Праходзячы па вуліцы, яна звярнула ўвагу на цудоўны газон, на якім квітнелі чырвоныя макі. Пазнаёміўшыся з гаспадыняй, яна і даведалася пра партызанскае мінулае старой жанчыны, пра няўважлівае стаўленне да яе з боку мясцовага чыноўніцтва. Ганна прапанавала сваю дапамогу. З усімі неабходнымі паперамі яна накіравалася ў Мінск, у Дзяржаўны нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Супрацоўнікі архіва здзівіліся: "Як? Яна маўчала пяцьдзесят гадоў?!"

Пасля гэтага журналістка Ганна Разбітнёва патэлефанавала ў рэдакцыю "Культуры" і параіла мне прыехаць на Быхаўшчыну. І я быў рады сустрэцца з гераіняй гэтага артыкула і расказаць пра яе нашым чытачам... Хочацца спадзявацца, што прозвішча Тамары Арцёмаўны Сініцынай нарэшце з'явіцца ў спісах удзельнікаў партызанскага руху, што быхаўскія чыноўнікі не замучаюць амаль васьмідзесяцігадовую жанчыну, а дапамогуць ёй. Не дзеля яе — дзеля справядлівасці, дзеля нашага агульнага Будучага... І зробяць гэта хутка.

Гады ж бягуць, бягуць няўмольна. Асабліва для Тамары Арцёмаўны.

**Міхась РЭВУЦКІ,**
**наш спец. кар.**

Мінск — Быхаў

# ВАКЗАЛ ДЛЯ ДВАІХ

Толькі бліжэй да поўначы змог вырвацца з працы. Закапаўся ў паперах.

Я спрытна крочыў да роднага інтэрната праз плошчу Незалежнасці. Раптам пачуў ззаду:

— Гэй, ты, а дзе вуліца Маскоўская?

Звярталіся менавіта да мяне. Няўклюдна, ледзь перасоўваючы ногі, ішла да мяне дзяўчына. Падышла бліжэй. Вочы мутныя, тхне моцным перагарам. А твар юны і, калі прыгледзецца, прыгожы.

— Мне б на вакзал...

... Што яна робіць адна ў начным горадзе? Я хацеў быў ткнуць рукой у напрамку вакзала. Але нешта ўтрымала. Можа, шкадаванне — такая прыгожая... Барані Божа што здарыцца...

Да Маскоўскай даехалі на таксі, я разлічыўся апошнімі грашыма, што засталіся ад зарплаты... Хто яна такая і адкуль, даведаўся ўжо на бязлюднай чыгуначнай станцыі.

Марына ў сталіцы праездам. Сама аднекуль з-пад Оршы. І толькі-толькі скончыла восем класаў. Адразу ж, як наступілі канікулы, адправілася, не папярэдзіўшы нават бацькоў, разам са сваімі сябрамі ў турнэ па Беларусі. Без грошай у кішэні, спадзеючыся на выпадковы заробак (на які, можна толькі здагадвацца). Ды ёй ужо не прывыкаць. Не ўпершыню.

Толькі вось на гэты раз не пашэнціла. З цягніка, што ішоў на Брэст, Марыну зняла міліцыя. І накіравала яе ў прыёмнік-размеркавальнік, адкуль з даведкай-просьбай адпаведным органам "оказывать помощь и содействие при следовании к месту жительства", яе адпусцілі пад "чэснае слова", што адразу ж адправіцца дадому.

— А дзе ж ты павесялілася так? — пытаюся.

— Усё ў тым жа цягніку. Дзядзька адзін у купэ нас прытуліў. Ну, і для весялосці прапанаваў... Толькі, калі патруль па вагонах пайшоў, сябры ўцячы паспелі. І дзе яны, не ведаю... А я вось...

Яна даўно ўжо адчула сябе дарослай. Рана прызвычаілася да цыгарэт і спіртнога. І аддае перавагу не сямейнаму цяплу — шумным вакзалам. Чужыя людзі яе кормяць, пояць... бывае, прапануюць ложак. Марына тыднямі не бывае дома, — надакучылі папрокі "старых", надакучыла школа і зусім яшчэ "зялёныя" аднакласнікі. А таму па прыбыцці ў Оршу праз некаторы час зноў сарвецца ў дарогу. На гэты раз вырашыла ехаць ужо ў Расію...

Я пасадзіў Марыну ў сем гадзін раніцы на першую электрычку, што ішла да Оршы. З пахмелля аматарцы падарожжаў забалела галава, ёй вельмі хацелася піва і хаця б разок зацягнуцца цыгарэтай.

Толькі грошай на гэта ў мяне не было...

Ёй балела галава... Мне чамусьці забалела сэрца. Думаў пра яе сталых бацькоў, пра тое, што яшчэ адна наша суайчынніца саступіла з адвечнага жаночага шляху — дом, сям'я, мацярынства. І недзе, не знайшоўшы яе, застанецца адзінокім хлопец, прызначаны лёсам для цяпла і шчасця...

Яна паехала, а я стаяў на вакзале і, выпрасіўшы ў ранняга прахожага цыгарэту, паліў доўга і зацята — за сябе і за Марыну...

**Адам ДУБЧЫК**

АВАНСЦЭНА

# АД ТЭЛЕШОКА ДА ТЭЛЕШОПА

*Узяцца за гэтыя нататкі пра стан нацыянальнага дзяржаўнага тэлебачання прымусілі падзеі апошняга часу.*



У чарзе за параўнальна таннай каўбасой нечакана сышліся інтарэсы пакупнікоў і прадаўшчыцы — жанчыны сталага ўзросту:

— Ой, людцы мае! Бярыце паболей, — кажа кабета. — Бо калі ўключыш той тэлевізар ды паслухаеш нашага кіраўніка, дык вушы вянуць ад той маны. Усё ў нас добра. А жывем, як у вайну.

— Не кажы, даражэнькая, — падхапіла чарга. — Той сівы журналіст нават не пасаромеўся, калі яму проста ў вочы казалі, што ў нас самы лепшы ўрад на свеце...

І пайшло, і паехала ў той чарзе. Адразу яна раскалолася на свае "палітычныя" мікрапартыі і плыні. Адны "супраць", іншыя — "за". А трэція наогул глядзяць толькі футбол, ды адна бабулька прызналася, што ёй падабаецца проста Марыя.

На нацыянальным тэлеэкране ў тыя імгненні, замест усім надакучыўшых начных справаздач з сесій Вярхоўнага Савета, трансліравалася новая палітычная "мыльная опера" — шматсерыйны прэзідэнцкі марафон, дзе ролю любімага народам героя разыгрываў наш цяпер, здаецца, былы прэм'ер. Астатнія кандыдаты засталіся разам са сціплай масоўкай "з вуліцы". Да іх тэлебачанне ставілася як да няпрошаных гасцей.

Назіраючы за гэтым халуйскім відовішчам, думалася словамі з папулярнага дзіцячага мультфільма: "Ох, дарэмна мы іх кормім! Дарэмна!".

Выдаткі з дзяржаўнага бюджэту на ўтрыманне свайго "суверэннага" і "незалежнага" тэлебачання сёння складаюць суму за мільярд. Гэтыя грошы — з кішэні падаткаплацельшчыка, ад той працаздольнай часткі насельніцтва, на плечы якой ускладзены клопаты за ўсю сацыяльную сферу: ахову здароўя, адукацыю, пенсіі і да т.п. Можа, ў агульным артыкуле сацыяльных выдаткаў "тэлевізійны" мільярд і не вельмі кідаецца ў вочы. Але яго відавочна нізка прафесійнае, бескультурнай якасці ўвасабленне на тэлеэкране прымушае ўспомніць пра худы кашалёк урача, настаўніка, увогуле інтэлігента.

Як жа так сталася, што ў новых эканамічных умовах і афіцыйна дэклараванай дэмакратызацыі беларуская тэлежурналістыка працуе па меншай меры, як за часы Сталіна? Праўда, "бацька ўсіх народаў" паспеў застаць тэлебачанне толькі пад канец жыцця. Але здолеў падпісаць пастанову Саўміна Саюза, каб ужо праз месяц на хатніх экранах дэманстраваліся навінкі кінематографа і тэатральныя прэм'еры. Аднак пакінем у спакоі эпоху вялікага таталітарызму. Дый само тэлебачанне даўно забылася, што нараджалася яно ў рэчышчы нарматыўнай мастацкай культуры. А зараз імкнецца існаваць паводле іншых законаў. І на новым шляху найвастрэй стаіць пытанне пра яго самавызначэнне.

## У "НАС" І Ў "ІХ"

Вядома, што ў краінах з устойлівай дэмакратычнай традыцыяй электронную прэсу слушна асацыююць з так званай "чацвёртай уладай". Заходняя школа экраннай журналістыкі складвалася ва ўмовах жорсткай канкурэнтнай барацьбы на рынку ідэй. Тым не менш, згодна з Міжнародным прафесійным кодэксам, не сама інфармацыя лічыцца таварам, а інтэлектуальны патэнцыял рэпарцёра. І ён тады дорага каштуе, калі журналіст прыкладвае максімум намаганняў, каб глядач не заснуў ад нуды перад тэлеэкранам. З гэтай нагоды Маршал Маклюэн, заснавальнік распрацаванай у дэталях сістэмы заходняй прапаганды пад назвай "паблік рэлэйшнз", гадоў дзесяць таму заўважыў, што "трэцяя сусветная вайна пачалася. Гэта партызанская вайна інфармацыі, якая не прызнае розніцы паміж ваеннымі і цывільнымі асобамі". Сказана моцна, але ж па сутнасці: найперш — высокая прафесійная адказнасць за вынікі творчай працы.

Калі амерыканскі мультымільянер Тэд Тэрнер стварыў вядомую цяпер на ўвесь свет тэлекампанію "Сі-Эн-Эн", ён сфармуляваў тры асноўныя патрабаванні да супрацоўнікаў: прафесія, прафесія і яшчэ раз прафесія. Гэты, па-сучаснаму кажучы, фундатар ведаў, чаго хацеў за свае грошы. Калі ўвосень 93-га года амерыканскімі рэпарцёрамі вялася прамая трансляцыя падзей вакол расейскага Белага дома, міжволі ў галаву прыходзіла сумная думка. Усе сённяшнія разважанні пра найбліжэйшы лёс айчыннага тэлебачання зводзяцца да размоў пра застарэлае абсталяванне, пра недахоп матэрыяльных сродкаў, пра ціск над свабодай слова і думкі. Але ніхто не хоча і не спрабуе ацаніць сябе як прафесіяналаў.

За прыкладамі не трэба ездзіць да спадара Тэрнера. Узімку наведаў нашу краіну Біл Клінтан. Самалёт прызямліўся ў аэрапорце Мінск-2 раніцай. Радыёрэпарцёр М.Аўчарэнка вёў прамы рэпартаж з месца падзеі. Тэлебачанне адлюстравала яе толькі пад вечар.

Так-так, скажаце Вы, гэта ўсё наша безнадзейна састарэлая электронная тэхніка. Тут адначасова і праўда, і мана. Натуральна, яшчэ не сцёрліся з памяці прамыя трансляцыі, якія арганізоўвала беларускае тэлебачанне падчас кастрычніцкіх і першамайскіх парадаў з вуліц і плошчаў Мінска, з уключэннямі абласных гарадоў. Тады пад кантролем камуністычнага рэжыму, з тымі ж перасоўнымі тэлевізійнымі станцыямі, якія зараз іржавеюць у гаражах, ТБ імкнулася быць хуткім і аператыўным. Цяпер такога кантролю няма. Знікла і адчуванне рэпартажу. Куды прасцей прыкуць тэлекамеры да сталага месца ў зале парламента ці абслугоўваць з дапамогай ТЖК замежныя візіты кіраўнікоў у якія-небудзь Арабскія Эміраты. Глядзіш — і перападзе што-небудзь з панскага стала шэйха.

Вось на экране рэпарцёр Уладзімір Біцан. Няўжо гэта той самы журналіст, які ў снежні 1991 года за апоўначчу першым паведаміў з Віскулёў аб толькі што падпісаных белавежскіх пратаколах? Цяпер яго не пазнаць побач з выцягнутай на экран сцюардэсай "па імені Лажа", як назвала яе "Народная газета".

На Захадзе кажуць, што тэленавіны цяпер каштуюць вышэй, чым меса. У "іх" экранную хроніку падзяляюць на "гарачую" і "халодную". "Гарачая" — гэта тая, што закранае кола жыццёвых пытанняў сярэдняга чалавека. "Халодная" — тая, што можа цікавіць тады, калі знойдзена яркая, арыгінальная форма яе падачы.

Такая яна, цывілізаваная журналістыка. З не меншай, паміж іншым, чым у нас, ангажаванасцю інстытутамі кіравання грамадствам, аднак з іншымі — рацыянальна-аналітычнымі поглядамі на месца журналіста ў калідорах "чацвертай улады".

## ТЭХНАЛОГІЯ І ДУМКА

І зноў пра тэхнічныя сродкі. У нас распаўсюджаны погляды, што тэлебачанне было б іншым — сучасным, як любяць казаць, еўрапейскага ўзроўню, — калі б не абсталяванне. Уявім сабе на хвіліну, што разам з сённяшняй "самастойнасцю" ў выбары мастацка-ідэйных напрамкаў звалілася б у рукі майстроў мясцовага тэлевобразу тэхніка на мяжы фантастыкі. У інтэрв'ю "Народнай газеце" сакратар Камісіі па прамысловасці і паслугах насельніцтву Вярхоўнага Савета, дэпутат Уладзімір Новік піша пра тое, што псіхалогія беларускага народа ў гэтым выпадку была б надзейна абаронена ад разбурэння нацыянальнай свядомасці, таму што ў дзяржавы з'явіліся б новыя інструменты кантролю над інфармацыйнай прасторай. Цудоўна! Новая тэхніка не для таго, каб даць прастору творчай і інтэлектуальнай дзейнасці беларускага тэлебачання, каб адмовіцца, нарэшце, ад зняважлівага ўмяшальніцтва ў яго ўнутраныя справы.

За апошнія паўтары гады два разы Дзяржтэлебачанне перажывала змену сваёй структуры. З камітэту пры Саўміне ператварылася ў кампанію з падпарадкаваннем новаму дзяржаўнаму органу —Міністэрству інфармацыі, якое ўзнікла ні менш, ні больш, як па ўзоры гебельсаўскага, першага ў свеце падобнага ўтварэння. Са скасаваннем гэтага міністэрства Дзяржтэлерадыё зноў стала камітэтам. Адначасова перастаўляліся, тусаваліся кіруючыя кадры, юрыдычна "абгрунтоўваліся" звальненні з працы і новыя прыняцці на працу вялікай колькасці людзей, уключаючы абласныя структуры. Апошняе пераўтварэнне наогул выклікала, мякка кажучы, дзіўнае ўражанне. На працягу нейкага тыдня былі "ператрушаны" галоўныя рэдактары, дырэкцыя праграм, корпус намеснікаў старшыні камітэту. У выніку толькі намеснікаў стала аж пяцёра. А самы найпершы ў гарачыя дзянёчкі прэзідэнцкай гонкі перасеў з Дому ўрада ў кабінет па вуліцы Макаёнка, кажуць, што нават з цэлаахоўнікам. Напэўна, каб не забіла электрычным кабелем высокага напружання, бо за гэтымі "рэканструкцыямі" няма калі было падумаць пра ўзровень тэхнічнага забеспячэння тэлевяшчання.

Дый што там тэхніка! Змены былі настолькі імклівымі, што з поля этычных адносінаў у калектыве зніклі такія правілы, як, напрыклад, папярэдзіць чалавека пенсійнага ўзросту: маўляў, дзякуй Вам за добрасумленную трыццацігадовую працу на ніве дзесятай музы, але ж прабіў час. Не, сядзіць паважаны чалавек у апаратнай на мантажы, б'ецца над увасабленнем творчай задумы, змагаецца з нашым дапатопным абсталяваннем, а тут прыходзіць з рэдакцыі маладая дзяўчынка-адміністратар і кажа: "Усё, вы больш не галоўны рэдактар". Прыйшоў неяк адзін з намеснікаў на традыцыйны штотыднёвы "задзел", а тут кіруючы пасяджэннем прадстаўляе на яго месца іншага чалавека. Добра, што да інфарктаў справа не дайшла. Але як пасля такіх падзей быць з "творчым кліматам", з вырашэннем сапраўды наспеўшай праблемы натуральнай змены пакаленняў?! Дзе ўжо там да нюансаў звыклых чалавечых адносінаў, калі адсутнічае нават канцэпцыя нацыянальнай праграмы. Гэта пытанне набыло ўжо хранічны характар. Нікому не прыходзіць на розум, што новыя рэаліі жыцця патрабуюць не фармалізаваных законаў, не кантрольных механізмаў таго ці іншага ладу, а канструктыўнага перагляду традыцый, якія склаліся ў камандна-адміністрацыйнай сістэме. І, на жаль, захоўваюцца да сённяшняга дня.

**Ніна ФРАЛЬЦОВА**

*(Канец будзе)*

# МЫ БУДЗЕМ ПОЛІФАНІЧНЫЯ, ЯК ЛЕС

## Нататкі з імпрэзы Таварыства Вольных Літаратараў

Імпрэза, на якой прысутнічаў наш карэспандэнт, адбылася ў полацкай прыватнай галерэі "Рыса". Апрача маладых паэтаў, удзел у ёй бралі мастакі, музыкі, прадстаўнікі іншых творчых прафесій з розных рэгіёнаў Беларусі. Запрошаных гасцей сустракаў вялікі транспарант "Няхай жыве беларуская літаратура!". Сцены галерэі былі апранутыя ў выставу графікі і каліграфіі "ТВЛаўская рэтраспектыва", якую складалі малюнкі некаторых паэтаў ды іхніх сяброў-мастакоў, а таксама цытаты вядомых крытыкаў, што ўслаўляюць дзейнасць гэтай суполкі (У.Гніламёдаў, Ю.Залоска ды інш.). Запомніліся "Малюнкі, якім засталося жыць 10 дзён" Леры Сом, ілюстрацыі Рыты Цімохавай да кнігі У.Арлова "Там, за дзвярыма", "Рысасловы" Людкі Сільновай (аднаслоўныя тэксты, у якіх адбываецца вяртанне літаратуры да стану піктаграмы), "Эпіцэнтр" Лявона Вольскага (хаатычнае перапляценне структураў быцця вакол адтуліны ў іншы свет).

Спадабаліся таксама малюнкі Алеся Аўчыннікава з цыклу "Вялікая міталёгія" (людзі, хаты, побытавыя рэчы складаюцца ў той ці іншы арнамент), графічная дыялектыка Алеся Аркуша, фрэйдысцкі "Партрэт самотнага паэта" (з фалам у свой рост), намаляваны Антосем Козікам, і графіка Віктара Цімафеева да спектакля па п'есе сябра ТВЛ Ігара Сідарука "Галава" (сабака ў чалавечай масцы і чалавек у сабачай сузіраюць адзін аднаго).

З прывітальным словам да прыхільнікаў творчасці маладых выступіў галоўны каардынатар ТВЛ Алесь Аркуш.

Створанае дзеля яднання маладых творцаў, якія прадстаўляюць сёння несавецкую беларушчыну, ТВЛ з'яўляецца, па сутнасці, спадкаемцам вядомай суполкі "Тутэйшыя", якая распалася некалькі гадоў таму, калі яе сябры ўступілі ў Саюз пісьменнікаў, заняліся бізнесам або з'ехалі за мяжу. ТВЛаўцы амаль не друкуюцца ў выданнях СП (па эстэтычных меркаваннях) і ўвогуле не імкнуцца патрапіць у ягоныя шэрагі, бо лічаць яго структурай атавістычнай, патрэбнай таталітарнай дзяржаве для кантролю над тымі, хто ведае родную мову і спрабуе сказаць на ёй штосьці сваё. Дый проста няма жадання далучацца да шэрых пісьменнікаў. На маю думку, галоўная адрознасць ТВЛ ад "Тутэйшых" — перавага эстэтычнага пачатку над палітычным, большая адданасць музам, чым дзяржаўнай ідэі.

Як падкрэсліў Алесь Аркуш, сябры Таварыства ўсе вельмі розныя, кожны прытрымліваецца сваіх эстэтычных пазіцый і палітычных поглядаў, аб'ядноўвае ж іх філасофія нон-канфармізму: "Мы будзем непадобныя і поліфанічныя, як лес, што складаецца з самых розных раслін, каб застацца шчырымі і натуральнымі ў творчасці".

Пасля ўрачыстай часткі пачалася паэтычная вечарына. Трэба заўважыць, сярод "вольных літаратараў" ёсць не толькі паэты (напрыклад, Вінцэсь Мудроў, Юрась Пацюпа, Ігар Сідарук, Алесь Касцень больш пішуць у іншых жанрах), але вершы — найбольш прыдатная літаратура для чытання ўголас. Гэтым разам чытальнікаў было толькі чацвёра (дарэчы, падобная імпрэза ў красавіку адбылася ў віцебскай галерэі "У Пушкіна", і там іх было болей).

Якую ж паэзію ствараюць удзельнікі ТВЛ? Сам А.Аркуш прачытаў нізку разважлівых "пострамантычных" вершаў (нашыя чытачы неўзабаве сустрэнуцца з гэтым паэтам на старонках літаратурна-філасофскага сшытку "ЗНО"). Бескампрамісны нацыяналіст і аматар чорных кашуль Славамір Адамовіч адмовіўся ад мікрафона і "ва ўвесь голас" чытаў блізкія па тэматыцы да італьянскага футурызму вершы, адзін з якіх быў прысвечаны стварэнню арганізацыі "Правы рэванш". Вельмі абаяльны і, здаецца, найбольш з усіх заглыблены ў постмадэрнісцкі дыскурс Юры Гумянюк прадэманстраваў у сваіх творах вялікую эрудыцыю і не меншую іранічнасць. У гэтых скандальных вершах шматлікія цытаты класікаў, якія ён злучае ўласнымі радкамі, ператвараюць кожны твор у крывое люстэрка еўрапейскай літаратуры. А наймаладзейшы з чацвярых, Сяргей Мінскевіч, як мне падалося, спрабуе сягнуць далей за постмадэрнізм, адмовіўшыся ад цытавання знакамітых папярэднікаў. Ягоны выступ стаўся сапраўдным шоу, асабліва —выкананне "Беларускай пірацкай песні". Стыль Мінскевіча —абсурдныя летуценні, татальная іронія, якая нейкімі шаманскімі прыёмамі нараджае з рогату слухачоў нечакана сур'ёзнае, нават рамантычнае светаадчуванне.

Кожны з гэтых паэтаў (спадзяюся, і астатнія) — яркая індывідуальнасць са сваім бачаннем заўтрашняга дня беларускай літаратуры. Іх амаль не ведаюць, але гэта не замінае таму, каб вершы пісаліся і знаходзілі сваіх калі не чытачоў, дык слухачоў. І ў гэтым — надзея, што паэзія будзе заўсёды жыць на нашай зямлі. Нават калі стыхія рынку альбо татальная русіфікацыя (калі яна раптам станецца новай дзяржаўнай палітыкай) праглыне ўсе беларускамоўныя часопісы і выдавецтвы.

А скончылася вечарына канцэртам бардаўскай песні і акустычнай рок-музыкі. Пачала яго паэтка Лера Сом, якая ўмее "толькі спяваць, а не чытаць" свае вершы. Потым выступіла, спяваючы па чарзе, "зборная Беларусі па року": Кася Камоцкая, Лявон Вольскі, Алесь Кузьмін, Валерый Вашчанка і Сяргей Аісаў. Словы адной з іхніх песень падаліся мне сімвалічнымі, здольнымі падвесці рысу пад усёй вечарынай: "Няхай нас мала, мы будзем пець у час начных сустрэч!"

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**




# ХАРТЫЯ МІЖНАРОДНАГА ПЭН-КЛУБА*

Літаратура — з'ява нацыянальная па паходжанні, але яна не ведае дзяржаўных межаў і павінна заставацца сродкам зносін паміж народамі, нягледзячы на праблемы нацыянальнага і міжнароднага характару.

Пры складаных міжнародных акалічнасцях і асабліва ў час вайны нацыянальныя або палітычныя імкненні не павінны ўздзейнічаць на творы мастацтва на шкоду справе абароны гуманізму.

Сябры (члены) ПЭН-клуба абавязаныя заўсёды карыстацца сваім аўтарытэтам у грамадстве дзеля ўмацавання ўзаемапаразумення і павагі паміж народамі, а таксама ўсімі сіламі процідзейнічаць класавай і нацыянальнай варожасці, асабіста супрацьстаяць усім відам зняважлівай дыскрымінацыі па расавых ці нацыянальных адзнаках, абараняць агульначалавечыя ідэалы, ідэалы міру і згоды ў свеце.

ПЭН-клуб выступае ў абарону прынцыпаў свабоды інфармацыі ў кожнай краіне і паміж усімі краінамі свету, ягоныя сябры абавязваюцца выступаць супраць падаўлення свабоды слова ў любой яе форме ў той краіне і ў тым грамадстве, да якіх яны належаць, а таксама — калі гэта магчыма — ва ўсім свеце.

ПЭН-клуб выступае ў абарону свабоды друку і супраць увядзення цэнзуры ў мірны час.

ПЭН-клуб лічыць, што рух чалавецтва да больш высокіх формаў палітычнай і эканамічнай арганізацыі вымагае свабоднай крытыкі ўрадаў, органаў кіраўніцтва і палітычных інстытутаў. З тае прычыны, што свабода забяспечваецца добраахвотнай адказнасцю за свае ўчынкі, сябры ПЭН-клуба абавязваюцца выступаць супраць такіх негатыўных аспектаў свабоднага друку, як ілжывасць у публікацыях, наўмысная фальсіфікацыя, скажэнне фактаў або тэндэнцыйная і несумленная іх інтэрпрэтацыя дзеля палітычных, групавых і асабістых мэтаў.

** 17 — 21 траўня 1994 года Беларускі ПЭН-цэнтр ладзіў Міжнародны кангрэс "Пост-таталітарнае грамадства: асоба і нацыя". Прапануем чытачам "ЗНО" тэксты выступленняў на Кангрэсе Іны Рагачы, Карнеліуса Плацяліса, Яцэка Бахеньскага, Міхася Тычыны, Яўгена Сверцюка.*

Іна РАГАЧЫ (Фінляндыя)

# КРАХ КАМУНІЗМУ — ВЫБУХ РАСІЗМУ?*

Вялізная тэрыторыя, якая ў свеце агулам называецца Расеяй, на працягу ўсёй сваёй гісторыі заўсёды заставалася свайго роду "Оруэлаўскім месцам" — дзе рэальнасцю быў захапляльна дасканалы Абсурд. Нязменна здзіўляючы слухачоў, гіганцкі Расейскі Аркестр высоўваў мноства экстра-ардынарных салістаў: Таталітарызм, Абсалютызм, Імперыялізм, Халуйства, Паслухмянасць і г.д., але дырыжор гэтага аркестра вечна быў тым самым, і ягонае імя — спадар Абсурд. Пакаленне за пакаленнем — на працягу тысячагоддзяў — людзі, што жылі і жывуць на вялізнай тэрыторыі, нараджаліся і паміралі пад музыку гэтага Аркестра. Зразумела, што для большасці з іх яна гучыць натуральна. Такая сітуацыя, калі пераважная большасць тутэйшых людзей шчыра, глыбока і можа нават падсвядома ўспрымае абсурд за норму, а "другую, чужую", не знаёмую ім рэальнасць — за абсурд, — і сталася, як мне здаецца, тым, што вызначыла неабходнасць абароны дэмакратыі ў гэтай частцы свету.

Аналізуючы ўсю расейска-савецкую гісторыю, мы мусім прызнаць, што паслядоўны антыгуманізм вельмі істотна паўплываў на саму сутнасць чалавечай натуры. Сумна да адчаю, але гэта факт: у выніку тысячагадовага таталітарызму Страх тут стаўся мацнейшым за Годнасць.

Але ж 75-гадовая практыка камунізму, што вызначыўся ў здзяйсненні супертаталітарнай селекцыі грамадства, адыграла ключавую ролю ў тым жахлівым стане і грамадства, і асобы, у якім і былы СССР, і іншыя сацкраіны апынуліся на парозе новага тысячагоддзя.

На свеце не так шмат рэчаў, якія нельга спасцігнуць, і, безумоўна, да такіх рэчаў не стасуецца посткамуністычная прастора, што ўвесь час павяргае свет у непаразуменне. Гістарычныя, палітычныя ды ментальныя працэсы, што адбываюцца тут, можна і зразумець, і прадказаць. І, магчыма, запабегчы, калі стане розуму і канструктыўнай палітычнай волі. Для гэтага патрэбныя ўсяго дзве рэчы: вывучаць, а не выдумляць гісторыю і называць усё сваімі ўласнымі імёнамі: здрадніцтва і баязлівасць — здрадніцтвам і баязлівасцю, а не "вымушаным супрацоўніцтвам ці складанымі гульнямі з органамі"; акупацыйны рэжым і тэрарызм — акупацыйным рэжымам і тэрарызмам, а не "выкананнем інтэрнацыянальнага абавязку"; расізм, фашызм і чарнасоценства — расізмам, фашызмам і чарнасоценствам, а не "пошукамі праваслаўнай самасвядомасці і выяўленнем нацыянальнай ідэі".

Паглядзіце на 50-тысячную чырванасцяжную калону, якая крычыць "Осанну" свайму "прэзідэнту" Руцкому; пачытайце ідэалагічнае абгрунтаванне і ясна выкладзеную праграму "дзяржавы расейскай нацыянальнай дыктатуры" і бязлітаснай вайны з габрэямі, што падрыхтаваў метрапаліт Санкт-Пецярбургскі і Ладажскі Іаан; паназірайце за адкрытай, нікім і нічым не абмежаванай і ўсё ўзрастаючай актыўнасцю баявых фармаванняў Баркашова, паслухайце ваяўнічыя заклікі кэдэбэшнага генерала Сцерлігава, — у якой заўгодна дэмакратычнай краіне за такія дзеянні іх выканаўцы на *законнай* аснове апынуліся б у вязніцы. Але пра якую законнасць можна гаварыць у краіне, у парламенце якой прадаюцца "Майн Кампф" і "Міф XX стагоддзя"?! У Расейскай Дзяржаўнай думе гэтыя азбука і лемантар фашызму прадаюцца свабодна і з поспехам.

У гэтых абставінах няма чаго здзіўляцца не толькі татальнай народнай нянавісці да ўсіх разам і кожнага паасобку "черножопого", "узкопленочного", "жида", але і санкцыянаваным уладамі цэнтральных гарадоў дыскрымінацыйным мерам супраць іх. Звычайны расізм. Сёння, у хаатычных рэаліях посткамунізму, ён паўстае перад намі зладзейскім дзіцём ханжаскага пралетарскага інтэрнацыяналізму.

Постталітарная свабода выяўлецца як свабода ад нормаў цывілізацыі, пачварным балем ксенафобіі, неўтаймаванай нянавісцю да чалавека. Тут звяртаюць на сябе ўвагу наступныя абставіны: па-першае, сінхроннасць праяў гэтай выродлівасці розуму ў розных краінах, а па-другое, відавочнае супадзенне расізму, што актывізуецца з дня на дзень, з крахам камунізму.

Сумна і крыўдна, што статкавы спосаб мыслення зноў стаўся ўжытковым — ды адыгрывае ўсё болей актыўную ролю — напрыканцы XX стагоддзя: "желтыми" і "черножопыми" належыць пагарджаць, "горбоносым" не месца на нашай вялікай "курносай" радзіме!..



Выбухі расізму не сціхаюць і ва Усходняй Еўропе: у Славакіі натоўп лямантуе над магілай мясцовага фюрэра Цісо; у Румыніі рэгулярна б'юць — і забіваюць да смерці — дзесяткі этнічных венграў, габрэяў і цыган; у Венгрыі накал антысемітызму запатрабаваў умяшальніцтва Папы Рымскага, а ў любімай і роднай краіне Папы Іаана Паўла II і ён сам нічога не можа парабіць — тут "Майн Кампф" вось ужо некалькі гадоў лічыцца ў спісе бестселераў... З-за пабуранай Бярлінскай сцяны на пляцы нямецкіх гарадоў выскачыў цудоўна закансерваваны на ўсходнім баку дух "добрага моцнага" нацызму.

Але і на заходнім, некамуністычным баку свету ў затухлых ужо расісцкіх вогнішчах невялікіх груповак фанатаў быццам бы падкінулі паліва: заенчылі п'яныя істэрыкі ў Швецыі; пачалі абразліва ставіцца да эмігрантаў у Францыі; вялікімі накладамі друкуюцца розныя "карычневыя" творы ў Аўстраліі; у ЗША расіст "вышэйшай пробы з шляхетным радаводам" Дональд Дзюк ледзь не быў абраны губернатарам штата Луізіяна, і нават у мірнай, спакойнай і разважлівай Фінляндыі пачалі з'яўляцца ўлёткі, часопісы з патрабаваннямі стэрылізацыі ўсіх неблакітнавокіх небландзінаў, а летась менавіта ў Фінляндыі адбыўся буйнейшы ў Еўропе пагром габрэйскіх могілак, калі былі пашкоджаныя 173 помнікі з тых 300, што знаходзіліся там.

Якая ж сувязь краху сусветнага камунізму з выбухам сусветнага расізму? У былым сацыялістычным лагеры — гэта эфект скінутых ланцугоў ва ўмовах поўнай ці частковай адсутнасці вопыту і традыцый дэмакратыі. Цяпер, на пачатку посткамуністычнага грамадства (калі можна ўсё!!!), расіст апынаецца ў роўных правах з манархістам: арганізацыю яго мы і зарэгіструем афіцыйна, і газету дазволім выдаваць і распаўсюджваць, і кнігі — якія заўгодна, і час на радыё выдзелім, а мітынг тых, хто "нацыянальна самавызначаецца", будзем ахоўваць. Гэта не істотна, што такіх санкцый у нас няма.

Пошук і выяўленне ворага — цудоўны занятак і сур'ёзная маральная сатысфакцыя люмпенізаванай камунізмам масавай свядомасці мільёнаў, якая небяспечна знаходзіць сябе пад магутнымі шатамі шавіністычных ідэй пабудовы моцнай і мононацыянальнай, "зусім нашай" дзяржавы, з якой свету належыць размаўляць толькі "на Вы", аб чым нам нядаўна было заяўлена. Сурова папярэдзілі, але вось забылі растлумачыць: а чаму, уласна, свет абавязаны Расіі "выкаць"? За якую такую ласку? Згодна памерам тэрыторыі, магутнасці ўзбраення, колькаснаму складу войска? Ці колькасці стукачоў, выдатна ўладкаваных ды квітнеючых і сёння дзякуючы старым сувязям і асаблівасцям нацыянальнага характару? Калі па шчырасці, то гэтыя салдафонскія закіды дзеля палохання ўсяго астатняга чалавецтва — смешныя і дурнотныя. "Ад страху паважаюць" — гэта даўні расейска-савецкі забабон. Ад страху не "выкаюць", а толькі — "ыкаюць"...

Што да акрыяўшых духам расістаў Захаду, то яны — зусім лагічна кіруючы за развіццём падзей — палічылі, што цяпер, нарэшце, надышоў іх час. Да таго ж рэцэсія падтрымлівае шыхты незадаволеных, нервуе і дэпрэсуе грамадства і стварае падобны матыў "прыблудных ворагаў", якія замінаюць звыкламу нам росквіту — ва ўсялякім разе, яны займаюць нашыя працоўныя месцы, пабіраюцца з нашымі дзяўчатамі і адкусваюць ад салодкага пірага нашых сацыяльных дапамог!.. На Захадзе, аднак, існуюць — і функцыянуюць — законы, якія забараняюць расізм і караюць за ягоныя праявы. Да таго ж на Захадзе навідавоку актыўная рэакцыя адмежавання ад расізму і грамадскасці, і палітычнага кіраўніцтва. Ніводная праява расізму на Захадзе пасля краху камунізму не засталася без караючага адказу. Шведскі прэм'ер-міністр Карл Вілдт, прэзідэнт Францыі Мітэран, члены французскага ўрада ды шмат якія яшчэ палітычныя лідэры *імгненнымі рашучымі* дзеямі перапыняюць фашыстоўскія акцыі. У Нямеччыне, дзе, між іншым, "Майн Кампф" забаронены законам як расісцкая прапаганда, мясцовых фашысцкіх скандалістаў непазбежна судзяць і караюць. У цывілізаваным свеце фашызм мае заўсёды моцную заслону і на ўзроўні дзяржавы, і на ўзроўні асобы.

Найбольш жорсткі фільм аб пагрозе адраджэння сусветнага фашызму зроблены немцам — журналістам Мішэлем Шмідтам. І ўжо сам факт, што фільм зроблены немцам, працуе на аздараўленне грамадства.

У Аўстраліі буйныя прамыслоўцы па сумеснай ініцыятыве з муніцыпальнымі ўладамі сабралі сродкі, каб на працягу двух тыдняў арганізаваць бясплатны масавы паказ школьнікам фільма Стывена Спілберга "Спісак Шындлера".

Урад Злучаных Штатаў у сакавіку гэтага года накіраваў 227 прадстаўнікоў камітэтаў адукацыі на штогадовы цырыманіял памяці ахвяр фашызму ў Асвенціме — з мэтай навучання дзяцей сучаснай гісторыі і прадухілення фашызму.

Мы ведаем пра работу "Мемарыяла" ды іншых грамадскіх арганізацый на тэрыторыі былога СССР, як ведаем і пра іншыя высілкі многіх шчырых і высакародных людзей тут. Але што мы ведаем пра дзяржаўныя ініцыятывы? Афіцыйную палітыку? Юрыдычныя дзеі ўладаў? Мы ведаем адно: такіх ініцыятываў, такой палітыкі — НЯМА.

Гэта не плюралізм — рэгістрацыя, публікацыя і распаўсюджванне такой колькасці расісцкіх выданняў, якая існуе сёння ў Расіі. Гэта — ганьба. І калі ў гэтай краіне няма законаў, якія б забаранялі беспрэцэндэнтную прафашысцкую прапаганду, — то гэта ганьба двойчы. Лічыць заклікі да гвалту "свабодай" могуць толькі рабы. Аб'яўляць размовы, поўныя нянавісці да чалавека, "абменам меркаваннямі" могуць толькі хлусы. Рабіць выгляд, што свастыка чорнакашулечнікаў усяго "дэталь дэмакратызаванага пейзажу", могуць альбо палоннікі страху, альбо ідыёты. Але хіба гэтыя якасці павінны вызначаць стыль палітычнага мыслення і дзяржаўнага кіравання?

*(Працяг на стар. 6.)*




# КРАХ КАМУНІЗМУ — ВЫБУХ РАСІЗМУ?*

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5.)*

Так, посткамунізм — гэта перш за ўсё аплата па рахунках камунізму. Але можна плаціць у стылі Гавела, а можна — у стылі "дарагога чарговага Ільіча".

У еўрапейскім грамадстве 90-х гадоў, стомленага бунтамі "раззлаваных маладых" 1960-х, шумлівай барацьбой за мір 1970-х і тэрарыстычным вэрхалам 1980-х, існуе гледзішча, згодна з якім больш правільна і дальнабачна ігнараваць прагрэсуючы рост расізму, каб не правакаваць расістаў на новыя ўчынкі. Аднак прагматыкі 1990-х, якія лічаць, што калі яны не будуць звяртаць увагі, то джын расізму не выпаўзе з мутнай бутэлькі, — глыбока памыляюцца. Расіста "правакаваць" няма патрэбы — на свае "подзвігі" ён заўсёды гатовы.

А нашаму хлусліва-інтэлігенцкаму маўчанню ён толькі рады — яно пераконвае яго ва ўласнай сіле, праве і безадказнасці. І легалізуе анамалію нянавісці да чалавека ў рэалію нашага з вамі жыцця.

Пры гэтым у еўрапейскім грамадстве 1990-х лічыцца "некамільфо" выразна фармуляваць, што і бунты 1960-х, і барацьба 1970-х, і тэрор 1980-х былі зрэжысаваны адной, — нам роднай і знаёмай да сутаргі, — савецка-камуністычнай рукой.

Разнастайныя заходнія "левыя" як па камандзе кінуліся абвінавачваць толькі што прызначаны ўрад Сільвіа Берлусконі, які, у літаральным сэнсе слова, у апошні момант выратаваў Італію ад бездані камунізму, — у "неафашызме". Вердыкты былі вынесеныя і мянушкі выкрыкнутыя адразу пасля аб'яўлення складу кабінета, які фізічна не паспеў ні зрабіць, ні прадэклараваць ні-чо-га.

Тэкстуальнае падабенства аблыжных абвінавачванняў і іхні раздражнёны тэмперамент не пакідае сумліву ў тым, што рэжысура засталася ранейшай. У дзень назначэння новага італьянскага кабінету былі аб'яўленымі і вынікі выбараў у Венгрыі, дзе да ўлады пад іменем сацыялістаў вярнуліся камуністы. Тое самае адбылося ў Літве, Польшчы, Румыніі, Украіне. Захад — далікатна маўчыць. Толькі ці могуць гэтыя далікатныя "лібералы" растлумачыць, чым рэальныя неакамуністы каля ўлады лепшыя за гіпатэтычных "неафашыстаў"? Ці могуць яны ўвогуле сфармуляваць розніцу паміж гэтымі паняццямі? Не могуць, таму што розніцы паміж камунізмам і фашызмам няма. І той, хто гэтага не разумеее, рызыкуе дорага заплаціць за сваю няўцямнасць. Яшчэ горш, калі плаціць давядзецца яго дзецям.

Нязведаны чалавецтвам посткамунізм выяўляе дзіўныя феномены. Здавалася б, камунізм здэфармаваў асобу дарэшты. Але выходзіць, што ў гэтым скажэнні саміх сябе можна пайсці яшчэ далей і дасягнуць вынікаў зусім нечаканых. Можна ў адзін момант затаптаць гісторыю сваёй краіны, катаванні і пакуты людзей, што жывуць з табой побач, можна зрабіцца рабом уласнай абразы да нармальнай чалавечай маралі — гэта значыць, па ўласнай ініцыятыве і з нязбыўным задавальненнем ператварыцца ў такую субстанцыю, якую ідэнтыфікаваць як Homo sapiens увогуле немагчыма, а як Homo erecktus — выключна дзякуючы прамаходжанню.

Адзін з выразных прыкладаў падобнай метамарфозы (адзін з многіх) — гэта вітальнае слова "Независимой газеты" Аляксандру Салжаніцыну, які збіраўся вярнуцца на радзіму. "Пераспелы Лімонаў, вяшак ля парога, племянны класік, нежыццёвы, мёртвы-амерыканска хармсаўскі анекдот, еўнух сваёй славы". Ды ў якой краіне такое магчыма? У такой краіне, у якой гэта магчыма, — вось у якой. Там, дзе закідаць другога брудам — нават не від спорта, а натуральная звычка. Такая самая, як квітнеючы легалізаваны расізм. Такая самая, як абсалютна адносная мараль. "Новая", посткамуністычная экс-эсэсэрыя паўзе ў XXI стагоддзе...

* *Спавешчанне падаецца з невялікім скарачэннем.*

Яцэк БАХЕНЬСКІ (Польшча)

# ЧАЛАВЕК — НАРОД — ДЭМАКРАТЫЯ — ЛІТАРАТУРА



Пачнем з простага пытання: ці варта быць чалавекам? Гэтулькі рэчаў губляюць зараз каштоўнасць. Штодзень абясцэньваюцца грошы, дабрачынне, ідэі, погляды. Але не страчвае каштоўнасці чалавек, асабліва незалежны. З гэтым пагодзяцца, напэўна, усе. Калі ўвогуле чым-небудзь і варта быць, дык гэта чалавекам. Прынамсі, на першы погляд.

Добра, а ці варта быць народам? Адказаў бы, што, на першы погляд, — так.

Цягам многіх стагоддзяў людзі з усіх куткоў свету марылі пра тое, каб стаць народам. Калі б толькі ім было дазволена! Некаторыя нават лічылі гэта сваёй галоўнай мэтай, больш важнай і вартай, чым усе іншыя мэты. Гэтак, прынамсі, думалі палякі пад гнётам паноў.

Нешта накшталт гэтага, калі не памыляюся, пачалі ўжо ў XIX стагоддзі адчуваць беларусы. Але за апошнія 200 гадоў гэта здарылася таксама з італьянцамі, літоўцамі, ірландцамі, з жыхарамі Паўночнай Амерыкі і чорнай Афрыкі. Нядаўна жаданне стаць народам яшчэ раз нагадала пра сябе ў Еўропе.

Між іншым, немцы з былой ГДР казалі даслоўна "мы народ". Неабавязкова, што яны тады мелі на ўвазе аб'яднанне з Федэратыўнай рэспублікай. Гутарка йшла аб праве людзей на дадзенай тэрыторыі адчуваць сябе неадзінокімі і мець падтрымку.

Пасля падзення камунізму розныя аб'яднанні людзей розных краін прагалошвалі, што яны народ. І іншы раз вынікі гэтага былі трагічныя. Асабліва ў Югаславіі.

Але гэта не першае адкрыццё ў гісторыі такога роду. Як заўважыў калісь Маркс, у пралетарыяў няма радзімы. Атрымліваецца, што толькі пасля апошняй катастрофы марксізму пачало пацвярджацца дапушчэнне Маркса ў гэтай справе.

Свабоду можна прымяняць да ўсяго, нават да ўчынкаў на ўласную шкоду. Гэта вядома яшчэ з антычных часоў. Вырокі судоў былі жахліва бязглуздымі. Лепшых грамадзян народ асуджаў на выгнанне толькі з-за ўласнай зайздрасці і бяздумнасці. Можна дэмакратычным чынам, шляхам свабодых выбараў скасаваць дэмакратыю. Гэта вядома з таго часу, калі Гітлер дамогся ўлады дзякуючы выбаршчыкам. Але не ведаем мы, як хутка гэта сыдзе ў нябыт. З іншага боку, не ведаем мы, як лёгка можна выкарыстаць народную незалежнасць толькі дзеля таго, каб пазбыцца яе.

Паўстае пытанне: што ў гэтай сітуацыі павінна рабіць літаратура? Існуе такі адказ, які сёння ахвотна паўтараецца ў былых камуністычных краінах: літаратура павінна пакінуць у спакоі тое, што мае адносіны да людскіх супольнасцяў, — народ, дэмакратыю, грамадства і г.д., а заняцца асобамі. Інакш кажучы, яна павінна апісваць галоўным чынам тое, што адбываецца з чалавекам, а не паміж людзьмі; хутчэй за ўсё гісторыю выспельвання дзяўчыны альбо чыюсьці смерць ад раку, чым гісторыю развіцця ці вымірання народа альбо дэмакратыі, а калі пісаць пра адносіны, то лепей сексуальныя, чымсьці грамадскія.

Тыя, хто адмаўляецца быць часткай калектыву, грамадства, народа, адмаўляецца таксама і ад удзелу ў культуры. Такія адзінкі перастаюць быць асобамі. Чым яны робяцца, не ведаю і не жадаў бы ведаць. Можа, у выніку ўзнікаючых зараз працэсаў чалавецтва ўжо не будуць дзяліць на асобы, а толькі на "штукі", як звяроў.

Адно несумненна: быць асобаю, папраўдзе кажучы, варта, але, у сутнасці, гэта не так лёгка.

Хацеў бы звярнуць увагу, што нялёгка быць і народам. Народ не паўстае са звычайнага збору якіх-небудзь там чалавечых адзінак, пазбаўленых культуры, мовы і пачуцця ўласнай годнасці.

Хватка, драпежнасць, страх перад закратаваннем, нянавісць з'яўляюцца прыкметамі племені, а не народа. І гэта выяўляецца ў многіх краінах свету. А не гэтак жа лёгка быць народам, складзеным з разрозненых асоб.

Чытаць гэта могуць людзі, што бяруць чынны ўдзел у культуры, валодаюць мовамі і належаць да народа.

Карнеліюс ПЛАЦЯЛІС (Літва)

# ШЛЯХ У АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА: ВОПЫТ ЛІТВЫ



Калі я кажу пра асобу і нацыю на міжнародных сустрэчах, мяне не пакідае пачуццё, што ў нейкім сэнсе я кранаюся старамоднай тэмы. Сапраўды, у сучасным свеце ў гэтых азначэнняў не адно значэнне, і вакол усіх іх даволі прымхаў. Словы "нацыя" і "нацыяналізм" асабліва пасля другой сусветнай вайны былі дапоўнены новымі адмоўнымі сэнсамі з абодвух бакоў, падзеленых жалезнай заслонай. Цікава тое, што абодвум бакам гэта адмоўнасць была няяснай, яна вызначалася розніцай паміж рыторыкай і сэнсам альбо розным падыходам да свядомасці. Мы (я маю на ўвазе такія нацыі, як балтыйская і беларуская) жылі на перыферыі свету, выслухоўваючы ўсходнія і заходнія казанні з гэтай нагоды і разумеючы іх пасвойму.

Літоўцы таксама апускаліся ў маўклівую (бясслоўную) ідэалогію савецкага інтэрнацыяналізму, якая асуджала ўсе віды нацыяналізму, апроч дзіўным чынам скроенага расейскага. Мы жылі з духам пярэчання — да чужой таталітарнай сістэмы вакол нас. Гэты дух меў патрэбу ў падтрымцы і падкладцы, і мы знайшлі яго ў досыць абстрактным паняцці (канцэпцыі) нацыі са сваёй гісторыяй і наследаванымі ўяўленнямі. Абстрактным, таму што ў думках мы не звязвалі яе ні з якімі малымі супольнасцямі, г.зн. рэальныя людзі вакол нас, як усе супольнасці, былі скасаваны, апроч розных бессэнсоўных і пачварных савецкіх арганізацый. Гэта была сітуацыя, у якой сфармавалася наша разуменне нацыі. Таму, калі пачаўся вызвольны працэс савецкага грамадства, мы звязвалі вызваленне асобы з вызваленнем нацыі і думалі, што з вызваленнем нашай незалежнай, дэмакратычнай дзяржавы вырашацца ўсе нашы праблемы. На Захадзе на нашы крокі глядзелі з падазрэннем і хваляваннем. І, як засведчылі падзеі ў былой Югаславіі, на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, такое стаўленне не было беспадстаўным.

Але наш (я маю на ўвазе людзей з інтэлігентных колаў, якіх ведаю) нацыяналізм быў іншы. Мы, ці некаторыя з нас, усё яшчэ бачым пэўную каштоўнасць у адносінах да нацыі як такой. Мы знаходзім гэтую каштоўнасць у культуры і мове і ўсведамляем іх важнасць не толькі для саміх сябе, але таксама і для ўсяго свету. Я думаю, гэта ясна людзям, што маюць справу з літаратурай, у першую чаргу пісьменнікам. Таму што пісьменнікі найчасцей з уласнага доведу ведаюць, што мова — гэта не толькі сродак зносін, але сам свет. І яна (мова) існуе не толькі дзеля іх, каб ствараць узоры мастацкай літаратуры, але гэта нешта больш значнае і каштоўнае. Мы імкнемся стварыць свае ўласныя цывілізацыі ў свеце мовы, але ніколі не імкнемся заваяваць усё. Кожны выраз абмежаваны і кожная спроба зрабіць адну з моў універсальнай збядняе яе. Таму што ў моў ёсць свае абмежаваныя тэрыторыі, дзе іх традыцыі глыбокія і жывыя. Нацыя — гэта тэрыторыя. Наша жаданне дамагчыся большай публікі — гэта жаданне з зусім іншай сферы інтарэсаў. Таму што пісьменнік найперш гаворыць сам з сабою, са светам, які знаходзіцца ўнутры яго і складаецца з яго ўласнай мовы і культуры.

Такое гуманнае разуменне каштоўнасці нацыі досыць рамантычнае і асабовае. Такія адносіны не маюць нічога агульнага з калектыўнай помстай і іншымі агрэсіўнымі дзеяннямі, якія вызначаюць негатыўны бок "нацыяналізму" ў сучасным свеце. З іншага боку, відавочна, што нацыя павінна ствараць сваю ўласную дзяржаву, дзеля таго, каб захаваць сваю культуру і індывідуальнасць. І тут паўстае пытанне: якую дзяржаву?

Кожны з нас ведае адказ: цывілізаваную дзяржаву з адкрытым грамадствам вольных людзей (ці нешта ў гэткім родзе). Але вельмі нямногія з нас ведаюць шлях да такой дзяржавы, у нямногіх ёсць трыванне рухацца да яе марудна, таму што па дарозе сустракаюцца парогі. І першы парог — гэта нашыя абстрактныя адносіны да нацыі, аб якіх я нагадаў вышэй. Можа быць, гэта гучыць дзіўна, але ў маім разуменні шлях у адкрытае грамадства пачынаецца з пачуцця супольнасці, са здольнасці абмяркоўваць нашыя штодзённыя праблемы са сваім суседам і ажыццяўляць самакіраванне (мясцовае ці ў межах нацыі) разам з усімі. Нацыя надта далёкая ад асобы, надта размаітая і часцяком надта расчароўвае. Калі чалавек не можа зносіцца з рэальнымі людзьмі і калі ён абазнаны толькі ў абстрактных ідэях, якія чуе па ТБ, то яго лёгка напалохаць нацыяй, якая падаецца ткім чынам. Такое здарылася з некаторымі інтэлігентамі ў Літве. Па-мойму, такое няўмельства зносіцца разумным чынам — адзін з многіх аспектаў нашай посттаталітарнай свядомасці.

Канешне, свядомасць пасттаталітарнага грамадства развіваецца ці, прынамсі, мяняецца. Гэта лёгка заўважыць, параўноўваючы нашыя палітычныя выступленні за апошнія пяць гадоў, якія вы маглі знайсці ў друку, пачуць на мітынгах і нават у парламентах. На пачатку вызвольных рухаў тэксты зазвычай былі вельмі эмацыйныя, нават геніяльныя ў сваёй нянавісці. Гэта быў час, калі большасць нашых слухачоў не гатова была чуць што-небудзь яшчэ ад нас. Нацыя ў працэсе вызвалення прымае агульную ідэалогію і патрабуе пэўнай адданасці ад сваіх чальцоў (членаў. — **Рэд.**). Некаторыя людзі напалоханы гэтымі патрабаваннямі, нават калі гэтыя патрабаванні рэальна не апісаны, а гучаць толькі ў іх падсвядомасці. Не кажучы ўжо аб людзях іншых нацыянальнасцей, што жывуць у гэтай краіне.

Я думаю, гэта не вялікая трагедыя. У гэтым ірацыяналізме ёсць пэўная мудрасць. У кожным моманце ёсць ісціна. І людзі, якія могуць разумець цяперашнюю сітуацыю больш глыбока, напрыклад, інтэлігенцыя, павінны адчуваць гэтую ісціну. Гэта азначае, што яны павінны пісаць з пачуццём павагі да яе, без высакамернасці сваёй уласнай праўды і настойліва спрабаваць рацыяналізаваць грамадскія размовы (г.зн. у размовах знаходзіць рацыянальнае зерне). Гэта вельмі важна, і многае залежыць ад інтэлігенцыі, якая пастаянна выказвае незадавальненне сваім нязначным уплывам на грамадства. Таму што, як мне здаецца, немагчыма стварыць грамадзянскую супольнасць без разумных зносін. Наша жыццё ўсё яшчэ эмацыйнае і поўнае абсурдаў з-за неразумення. Патрабуецца час, каб рацыяналізаваць гэтыя адносіны. Досыць працяглы час настойлівых высілкаў.

Але адно, я веру, пэўна: мы не можам дамагчыся поспеху ў стварэнні адкрытага грамадства, прымушаючы каго б там ні было — асобу альбо нацыю. Мы вымушаны прайсці праз іх самавызначэнне і таксама праз гарантыі правоў чалавека для абодвух бакоў. І толькі тады асабовая і нацыянальная напружанасць знікнуць, і рана ці позна кожны зразумее, што дастаткова пажыў у закрытай зоне. Кожнае грамадства і, у першую чаргу, асоба маюць патрэбу ў нармальным чалавечым жыцці, і толькі частка людзей хоча спачатку ўтрымаць свае ідэі. Адкрытае грамадства дае магчымасць кожнаму ажыццявіць свае жаданні і нікому не дазваляе навязваць свае ідэі і каштоўнасці іншым.

Міхась ТЫЧЫНА (Беларусь)

# АКТ ТВОРЧАСЦІ І БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭННЕ




Прырода стварыла дзівоснае вока стракаты, што складаецца з мноства вачэй. У тым, мабыць, была свая патрэба. Свет жа мазаічны і складаецца з адзінак, адмежаваных па "культурнай" прыкмеце.

У гэтай створанай прыродай і гісторыяй мазаіцы Беларусь займае сваю ячэйку.

Нацыянальная культура ў нас у выніку вядомых працэсаў катастрафічнага XX стагоддзя так і не стала агульнапрынятай нормай, як тое назіраецца ў іншых народаў. Межы ўжывання яе дужа размытыя. Магчыма, якраз таму мы запінаемся, шукаючы ў думках адказы на самыя простыя пытанні. Напрыклад, па геаграфіі: дзе знаходзімся? На Захадзе? А можа, на Усходзе? Ці ўсё яшчэ на паўшляху "з варагаў у грэкі"? Ясна, што да еўрапейцаў нам далёка, а што да еўразійства, то... з чым яго ядуць? Так, мы жывем на самым скрыжаванні культур, веравызнанняў, цывілізацый, нацыянальных светаў. Менавіта гэтае адчуванне (не веданне!), якое можна абазначыць словам Landespatriotismus, робіць нас тымі, хто мы ёсць, былі і будзем. Беларусамі.

Знаходжанне на скрыжаванні ідэолагі "беларускага шляху" падаюць як найвялікшую нашу бяду (ці можна наогул жыць на скразняках?). Але ж гэтак жывуць многія "малыя народы" — ад Эстоніі да Грэцыі. Трываючы націск з двух бакоў, яны навучыліся выкарыстоўваць сабе на карысць сваё геаграфічнае становішча. Беларусы сціпла задаволены развагамі пра сваю цэнтральнасць у Еўропе.

Наша бяда іншая. Мусіць, яе меў на ўвазе Васіль Быкаў, калі назваў кніжку сваіх эсэ "На крыжах".

Зрэшты, назва знаёмая. Толькі ў Коласа яна была лірычнаю — "На ростанях". У Гарэцкага — псіхалагічнаю: "Дзве душы". А ў Янкі Купалы, Ігната Абдзіраловіча, Кузьмы Чорнага —філасофскаю: "Шляхам жыцця", "Адвечным шляхам", "Млечны Шлях".

У Быкава ў назве свеціцца біблейская сімволіка: гісторыя чарговы раз пацвердзіла ісціну жыцця і шляху Ісуса Хрыста.

Вось жа беларусы раскрыжаваны між мінулым і будучыняй. У час (XIX стагоддзе), калі народы адраджаліся нацыянальна, беларусы выходзілі з летаргіі, спазніўшыся ўсяго на некалькі дзесяцігоддзяў. Але гэтае спазненне ім дорага каштавала. Наша духоўнае Адраджэнне было змята, раздушана, збэшчана. Сёння свет стаіць на парозе новага часу, цэлай геалагічнай эры і спадзяецца на кансалідацыю. А беларусы толькі-толькі збіраюцца прайсці этап першапачатковай самаідэнтыфікацыі. Бацькаўшчына ў нашых унікальных умовах пакуль што іграе пазітыўную ролю, сацыяльна гуртуючы нас у адно цэлае і рыхтуючы да жыцця ў адкрытым, плюралістычным грамадстве.

Хочам мы ці не, але падзел ідзе не на тых, у каго ёсць банкаўскі рахунак і ў каго яго няма, у каго высокі або нізкі адукацыйны і культурны цэнз. Падзел ідзе на тых, хто шчыра працуе на нацыянальнае Адраджэнне, і на тых, хто саромеецца беларускага слова або нават варожа ставіцца да яго. Адчуўшы сябе на скрыжаванні, многія разгубіліся: куды ісці? У камунізм, то ўжо зведалі яго на ўсю катушку. Факт сваёй прыналежнасці да нацыі беларусаў, зняважанай і амаль знішчанай ранейшым рэжымам, усё яшчэ здольнай духоўна адрадзіцца, дае маўклівай народнай большасці новы імпульс да жыцця. Беларускасць стала масонскім знакам далучанасці асобы да таямніцы быцця. Беларусы многае забылі, але не забылі, што за сваё маленькае жаданне быць сабою заплацілі надта вялікую цану.

Першыя крокі да адкрытага грамадства зроблены. Назад дарогі няма — там змрок таталітаршчыны-татаршчыны. Патрэбна хоць невялікая падмога звонку. Няхай гэта будзе "План Сораса". Важна, што і іншыя лічаць: мы ідзем у правільным напрамку. Тутэйшы люд павінен быць пэўным, што дзейнічае ў адпаведнасці з сусветнай практыкай, якая сцвярджае не толькі правы асобы наогул, але і яе права адчуваць сябе часцінкай нацыянальнага гурту. На жаль, у мясцовай прэсе і на старонках газет нашых бліжніх суседзяў мы знаходзім не падтрымку, а кпіны з "самасційнасці", "краёвага патрыятызму" і інш. На нас глядзяць так, быццам беларусізацыя ў нашых надзвычайных акалічнасцях вядзе непазбежна і выключна да нацыяналізму. Аднак жа гэты шлях ужо скарыстаны іншымі, і беларусы ведаюць, што гэта такое. Не, Аральскае мора, якое высахла за стагоддзе на дзве трэці, проста павінна вярнуцца ў свае берагі, каб у навакольным ландшафце ўсталявалася нарэшце экалагічна-нацыянальная раўнавага і геапалітыкі крыху супакоіліся з сваімі прагнозамі сусветных катастроф. Ідэя Адраджэння ў нашых умовах сёння вельмі эфектыўная дзеля мабілізацыі палітычнай волі. Можа, больш эфектыўная, чымся ідэя дэмакратыі, да якой нам яшчэ расці і расці. Што яна такое, каб класці за гэту даму свае жыцці? Пакуль што стае і таго глытка свабоды, які атрымалі.

Можна бясконца кружыць у коле: "асоба" і "нацыя", "нацыя" і "асоба". Выхад жа адзіны — у творчасці новых формаў быцця. Каб стварыць сваю культуру, трэба найперш выпрацаваць правілы, структуры, працэдуры. Вядома, многае ўжо мелася раней, і варта толькі ўспомніць, адрадзіць. Але многае трэба ствараць нанава — ад простага побыту да горных сфераў духу. Працы тут, з улікам нашае марудлівасці, на паўстагоддзе. І кожнаму знойдзецца справа па душы. Твараць жа заўжды — любячы, радуючыся, захапляючыся, узвышаючыся над мінулым.

Яно гэтак, усе ці амаль усе формы ўжо вынайдзены на Захадзе. Вось жа адбылося знаёмства жыхарства на Беларусі практычна з усімі кірункамі палітычнай думкі. Але ці дасць сама па сабе заходняя або ўсходняя культура гарантыі вольнага развіцця беларускага духу? На жаль, ніхто і ніколі, а ў наш час асабліва (прыгадаем мітрэнгу з мінулагоднім рэферэндумам), не пытаў у беларусаў, як яны хочуць будаваць свой Дом. Усе шляхі, што вядуць да растраты творчай энергіі, гэтыя войны і рэвалюцыі, справядлівыя і несправядлівыя, класавыя і расавыя, наша людства адвяргае. А вось перавагі штодзённай працы "на лусту хлеба, на родны край", калі ўсё робіцца, паслухаючыся голасу душы і сумлення, добра-такі спазналі за ўсе вякі. Сказана бо: што ў працы здабыта, тое доўга будзе жыта.

І наастатак словы Ігната Абдзіраловіча, аўтара ідэі творчага пошуку "беларускага шляху": "З нашага высокага парыву індывідуальнага і народнага адраджэньня ня створым жа гвалту і енку ні для іншых, ні для саміх сябе: не павінна быць беларускага мэсыянізму. І вялікім і малым, і для сваіх і чужых ён — прымус, зьдзек і сьмерць. Уласным коштам — мільёнамі сьмерцяў, хваробы, нуды служылі мы чужацкім мэсыянізмам. Не на гэтай падставе збудуем нашу будучыню.

Трэба шукаць на другіх шляхох".

Яўген СВЕРСЦЮК (Украіна)

# КОШТ СВАБОДЫ ВЫБАРУ

Свабода слова была адвечнай марай інтэлігенцыі ў Расійскай імперыі. Як мара вязня пра неба.

Але не толькі інтэлігенцыі. Пасля вайны сярод сялян Заходняй Украіны хадзіў анекдот пра слова.

Чырвоныя вызвалілі. На сценах замазалі ўчарашні паўстанцкі лозунг "Свабода народам — Свабода Чалавеку". Зямлю адабралі. У калгас згуртавалі. "Усё аддам, — кажа дзядзька, — абы толькі далі па радыё сказаць адно слова да ўсяго свету. Толькі адно слова "Рятуйте!"

Вялікая вера ў сілу слова. Наіўная вера ў разуменне і спагаднасць свету.

У народзе жыве адвечная вера ў невытлумачальную сілу слова і пачуццё той ісціны, згодна якой "Напачатку было Слова". Тое слова, якое выказвае сэнс з'яў і крык душы.

Уласна, з такога слова і ўзнікае творчасць, што прагне свабоды. Ёй патрэбна неба, а не столь, якую даюць зверху "дзеля зручнасці".

Самыя дарагія ўкраінскія магілы — магілы змагароў і мучанікаў за свабоду ад Тараса Шаўчэнкі да Васіля Стуса, што загінуў у Пермскай вобласці ў карцэры 36-й зоны асобага рэжыму ўжо ў 1985-ым. Кошт свабоды мы сплацілі цалкам.

Але свабода ўсім ўпала раптам. Разам з падзеннем эканомікі і жыццёвага ўзроўню. Мы яе чакалі, як манны нябеснай, чакалі стагоддзямі. Але многія не заўважылі і не ўзрадаваліся. Трэба прама сказаць, што верныя служкі рэжыму, сярод іх і многія пісьменнікі, у ёй і не мелі патрэбы. Яны нават узлаваліся на гэтую самую свабоду...

Словам, вялікае свята ў гонар свабоды ў савецкім грамадстве не атрымалася. Усё пайшло па крузе, акрэсленым у "Вялікім Інквізітары" Дастаеўскага (раман "Браты Карамазавы". — **Рэд.**), з той, аднак, папраўкай, што супраць Хрыста і супраць яго ўзвышанага дара свабоды папрацавала некалькі пакаленняў настаўнікаў матэрыялізму, які патрабуе ператварэння камянёў у хлебы. Гэта з аднаго боку, а з другога — папрацавала стагоддзе паныла спажывальніцтва...

А ўсё-такі галоўная перашкода на шляху нашага духоўнага разняволення ў негатоўнасці чалавека прыняць цяжар свабоды. Свабода чакае сваіх верных, адважных і ўлюбёных рыцараў, трошачкі Дон-Кіхотаў, за якімі пойдуць Санчы Пансы.

У напалову інтэлігенцкім асяроддзі, у грамадстве, што будуе камунізм, гэты тып адважнага чалавека, які верыць і прагне подзвігу, быў выкаранены. Захаваўся толькі тып ціхага думанніка, які не мае наступнікаў...

Спачатку чаканай свабоды патрабавала нагрумаджаная энергія адмаўлення і выкрыцця. Магутная хваля змыла жалезную заслону і трохі пакамечыла другую заслону, пабудаваную чалавекам унутры сябе дзеля зручнасці. Гэта было захапляльнае відовішча — падзенне моцна збудаваных куміраў у прысутнасці іх будаўнікоў і прыхільнікаў. Аказалася, ніхто з тых, хто даў клятву і цалаваў, не гатовы пакласці жывот за іх. Аказалася, усё было толькі дзеля карыслівай гульні, разлічанай на загіпнатызаваную масу, дэмаралізаваную тэрорам.

Відовішча хутка азвычаілася, хваля стала слабой, і абывацель запатрабаваў не відовішчаў, а хлеба. Забаронены плод свабоды згубіў водар.

На хвалі адліву выявілася, што вызваленне нацыі звязана з эканамічнай незалежнасцю, свабода асобы — гэта найперш выпрацоўка ўнутранай асобы. Без унутранай культуры і духоўных запатрабаванняў свабода — дар бясплённы. Яго не прымаюць, больш таго, яго ахвотна разменьваюць на пустыя дэкларацыі. На гэтай мелі сустракаюцца і робяць адну справу і крайнія левыя, і крайнія правыя, для каторых свабода — толькі адно зручная нагода пралезці да ўлады. Яны разлічваюць на масу, абяцаюць яе накарміць, яны гавораць вельмі зразумелай і звыклай мовай.

Я не думаю, што нам пагражае вяртанне да будаўніцтва камунізму. Але нам сур'ёзна пагражае далейшая прафанацыя каштоўнасцяў і дэмаралізацыя чалавека на шляху знешняй імітацыі. Мы перажылі бяскроўны пераварот, які, па сутнасці, быў проста падзеннем прагнілага рэжыму. Нармальна такі пераварот павінен канчацца судом над тымі, хто беззаконна расправіўся з чатырма пакаленнямі лепшых людзей краіны. Такі суд патрэбны не дзеля расплаты з саўдзельнікамі злочыну супраць чалавека, а хутчэй дзеля кваліфікацыі іх беспрэцэндэнтных дзеяў і дзеля размежавання дабра і зла ва ўяўленнях людзей цяперашняга пакалення. Інакш нам пагражае захаванне старых ілжывых паняццяў, захаванне рабскай згодлівай мовы паўпраўды, якая лёгка пераходзіць ад адной кан'юнктуры да другой. Бо ж інерцыя размывання традыцый і нацыянальных каштоўнасцяў працягваецца — паралельна з размовамі аб адраджэнні. Бальшавіцкі рэжым стварыў тып чалавека, арганічна варожага культуры, што адносілася да старой надбудовы. Наступ на культуру ішоў шырокім фронтам, аднак пры гэтым дазвалялася выкарыстоўваць яе складнікі дзеля патрэбаў ідэалогіі. Ядро культуры — яе духоўная аснова — лічылася варожым "адзіна дакладнай ідэалогіі".

Сёння гэты чалавек, які захаваў сваю ўладу і свой утылітарны стыль мыслення, застаецца сілай антыкультурнай. У яго няма арганічнай прылучанасці да культуры і няма разумення яе жывых вытокаў. Між тым культура ствараецца і захоўваецца людзьмі, беззаветна адданымі ёй.

У посткамуністычным свеце дэклараваныя каштоўнасці ўпалі разам з рэжымам, які іх падтрымліваў усімі сваімі сродкамі. Для "кадраў, якія вырашаюць усё", цяперашні свет — гэта свет без каштоўнасцяй, і таму ён горшы. Адмаўляючыся ад сваіх уласных ідэалаў, гэтыя кадры не могуць паважаць нацыянальныя і агульначалавечыя святыні. Адсюль іх поўная паняверка і абыякавасць, што выходзіць за межы прыстойнасці. Мы перажываем пераходны перыяд. Чалавек учарашняга дня доўжыць сваю дэструктыўную справу. Выхаваны на эклектычнай філасофіі матэрыялізму і на практыцы спакаранасці, ён гатовы яшчэ і яшчэ раз выпрабаваць на нас мадэль "сацыялізму з чалавечым аблічам". Семдзесят гадоў ён не верыў ні боскай мудрасці, ні досведу чалавецтва. Не верыць і цяпер. А ж у сутнасці матывы ўсе яго на паверхні: пазбаўлены ініцыятыўнасці, прынцыпаў і доўгу, ён проста не здольны дзейнічаць ва ўмовах свабоды. Усе яго звычкі бескантрольна ўладарнічаць, выхваляцца, абяцаць і не выконваць абяцанняў цягнуць яго ў звыклую каляіну. Вось і ўся філасофія. Але ў гэтай філасофіі ёсць зародак сацыяльнай небяспекі: логіка выжывання штурхае лгара на шлях рэпрэсій і злачынстваў. Ён пачынае з дыскрэдытацыі чужых каштоўнасцяў. Свабоду ён заўсёды йменаваў "гэтак званай". Сёння, калі яна (свабода) сышла да ўзроўню абыякавай вуліцы, дробныя гандляры сталі гандляваць ёю, бравыя шаўкапёры — гуляцца, дасведчаныя душыцелі — выкручваць.

Словам, на развалінах Вавілонскай вежы змяшаліся паняцці, і слова згубіла сваю вагу. Хіба можна змагацца за свабоду слова, якое згубіла сваю вагу?

Адзін з хітрыкаў д'ябла — падмяніць скарб — слова, — ператварыць яго ў сродак падману і пусціць у спекуляцыю. За такое слова ніхто не пойдзе ў турму. За такую свабоду слова змагацца ніхто не стане... Якраз зручны момант прыбраць такую настылую свабоду да рук!

Мне ўяўляецца своечасовым накіраваць высілкі інтэлігенцыі на абарону свабоды слова. На абарону аўтарытэту слова. Але практычна гэта азначае найперш змагацца з інфляцыяй слоў. Вярнуць слову яго першапачатковую сілу — яго выток.

"І прыступіўся да Яго спакусьнік і сказаў: калі Ты Сын Божы, скажы, каб каменьні гэтыя зрабіліся хлебамі. Ён жа адказаў яму: напісана: ня хлебам адным жыць будзе чалавек, але ўсякім словам, выходзячым з вуснаў Божых" (Мц., 4:3-4).

Узгаданы Вялікі Інквізітар удакладніў думку спакусіцеля: "Ты хочешь идти в мир и идешь с голыми руками, с каким-то обетом свободы, которого они, в простоте своей и прирожденном бесчинстве своем, не могут и осмыслить, которого боятся они и страшатся, — ибо ничего и никогда не было для человека и для человеческого общества невыносимее свободы!"

Нашы маленькія інквізітары таксама разумеюць узровень мас, на які яны заўсёды арыентаваліся. На сцэну выходзяць Хлестакоў, Наздроў і Чычыкаў, апанаваныя ўтробным сумам па настольніцы-самабранцы. Звыклым рухам яны разгортваюць пазамінулагадовыя газеты, дзе чорным па белым напісана пра "ўсеагульны дабрабыт працоўных у СССР". І народ, прадукт сваёй эпохі, выбірае Наздрова, Хлестакова і Чычыкава сваімі прадстаўнікамі ў парламент. А там яны ўжо вызначаюць меру свабоды.

Што ж рабіць ахоўнікам каштоўнасцяў перад пагрозай гэтага другога яднання "партыі і народа"?

Ім, канешне, трэба нагадаць і вытлумачыць словы іх настаўніка наконт гісторыі, у якой тое, што першы раз надыходзіла як трагедыя, пры паўтарэнні ўжо абярталася фарсам...

Але галоўнае — трэба напоўніць жывым і ахвярніцкім сэнсам боскі дар свабоды.

Усе нашыя заваёвы — толькі пачатак барацьбы. Апошняя высновa мудрасці Фаўста вечна нагадвае:

*... Толькі той жыцця і волі варт,*
*Хто кожны дзень за іх ідзе на бой.*

Усе нашыя намаганні — ад негатоўнасці дзейнічаць згодна з гэтай высновай, што перасцярагае ад вечных паўтораў.

Дар свабоды абавязвае чалавека вечна рабіць выбар, цяжкі выбар.

Ідэалісты ўсіх часоў пачыналі з вузкага шляху. Па евангельскім запавеце.

Украінская літаратура ўвогуле стала магчымай як выбар па доўгу сэрца — супраць плыні. Па сваім статусе ў імперыі яна была апазіцыйнай, бо, згодна з царскім указам, "украинского языка нет, не было и быть не может".

Але гэта яшчэ не той выбар, які надаў ёй (літаратуры) дух і вобраз. Галоўны выбар рабіў сам пісьменнік. Наследуючы традыцыю антыімперскую і нацыянальна-вызваленчую, ён абіраў Шаўчэнкаўскі шлях выгнанца — арышты, турмы, высылкі і, як мінімум, стан паднагляднага.

Пры бальшавіцкім рэжыме да вайны было ліквідавана дзвесце пяцьдзесят украінскіх пісьменнікаў.

Пасля гэтага ўроку ўкраінскія шасцідзесятнікі зрабілі свой выбар і пайшлі ў лагеры. Больш дзесяці з іх сталі ганаровымі сябрамі замежных цэнтраў міжнароднага ПЭН-клубу.

Нам ці не святкаваць перамогу? Але свабода акупляецца ахвярамі. Свята, здаецца, задоўжылася. А між тым на даляглядзе жвава крочыць Чычыкаў у абдоймах з мёртвымі душамі, Наздроў ухвальна вітае шэльму Хлестакова, які ведае кшталт свабоды.

Але не гэтак аддалена ўзвышаюцца пацямнелыя крыжы, быццам камертоны, што нагадваюць дакладны тон і адсякаюць фальшывыя галасы.

Што ні кажыце, і слова, і крыж — сімвалы свабоднага выбару.




Юрый ШЫЛАЎ*

# "ЭРАС І ТАНАТАС" У КУРГАНАХ ПРАРАДЗІМЫ АРЫЕЎ

З этнаграфіі розных народаў добра вядома аб узаемасувязях вясельных і пахавальных абрадаў. Маладая аплакваецца як "памерлая" для родзічаў; нябожчык убіраецца нібыта да шлюбу альбо як немаўля, маючае быць нованароджаным Маці-Зямлёй. Падобныя ўяўленні добра прасочваюцца і ў археалагічных помніках. Так, у Паўночным Прычарнамор'і IV — II тысячагоддзяў да нашай эры нябожчыкаў уладкоўвалі ў скурчаных паставах, блізка адпаведным эмбрыянальным. Прасочваецца таксама чалавекападобнае афармленне магіл і насыпаў (рвоў, кромлехаў) над імі. Пры гэтым парталы дальменаў надзяляліся сімволікай геніталій, а затычкі адтулін у іх — сімволікай фаласаў. У курганах каля Стараселля (міжрэчча Дняпра і Інгульца) выяўлены асабліва яскравыя факты. Адна з грабніц была перакрыта насыпам, розным слаям якога нададзены абрыс мужчынскай фігуры ў чэраве жаночай: у іх агульным цэнтры, на поўдзень ад грабніцы, знаходзілася варонка з рытуальнай імітацыяй зліцця мужчыны і жанчыны. Мужчынскае баство, такім чынам, падаецца сынам жаночага баства, які нараджаецца; аднак адносна нябожчыка (мужчыны сярэдніх гадоў) абое яны выступаюць бацькамі. Далей нябожчык-"сын" і ягоны старэйшы "брат-бацька", выходзячы з жаночай фігуры, павінны далучыцца да яе шасці ўжо "народжаных дзяцей" — драўляных стодаў каля яе ног. Месцазнаходжанне дадзеных стодаў адносна цэнтра насыпу ("цяжарнай прамаці") магло выкарыстоўвацца для каляндарных назіранняў за ўзыходамі сонца паміж вясновым і восеньскім раўнадзенствамі. Такім чынам, "нованараджэнне" нябожчыка звязвалася са спрыяльным паўгоддзем гадавога цыклу, што пацвярджаецца выявамі на сценах грабніцы месяцава-сонечнага календара...

Разгледжаны і многія іншыя прыклады з курганоў Стэпавага Прыдняпроўя і прылеглых да яго раёнаў, што дазволіла расшыфраваць міфы, прынамсі, міф аб прамаці светабудовы бессмяротнай Адзіці, якая спараджае свайго сына-мужа Дакшу, а таксама прабацьку чалавецтва Мартанду. Гэты і мноства іншых міфаў знаходзяць адмысловыя адпаведнасці ў "Рыгведзе" — індаарыйскім зборы свяшчэнных гімнаў. Гэтак пацвярджаецца гіпотэза П.Крэчмера, В.Геаргіева, В.Даніленкі, А.Трубачова аб тым, што цэнтр арыйскай прарадзімы знаходзіўся ў Стэпавым Прыдняпроўі. Супастаўленне міфатворчасці стваральнікаў "Рыгведы" і курганоў дазваляе перайсці на *другі ўзровень* навуковага асэнсавання тэмы "Эрас і Танатас".

Вядома, што асноўны міф індаарыйскай "Рыгведы" апавядае аб барацьбе героя Індры -"Яйка" са змеем Урытрай-"Варотамі" за валоданне зародкам новагадовай светабудовы Валай-"Ёмішчам". Вытокі дадзенага міфа, а разам з тым вытокі курганнага абраду знойдзены ў вусці Псла. У аснове кургана "Цегельня" адкрыта свяцілішча, меўшае выгляд змеяпадобнага рова з культавай ямай-"яйкам" каля хваста. Падобная пабудова была і пад старажытным насыпам, а яго першая дасыпка была пабудавана над ровам у выглядзе двух змеяў з ахвярным слупом паміж іх галовамі. Размешчаны непадалёку курган "Кормилица" таксама паўзнік над змеяпадобным свяцілішчам, але ахвярны слуп тут быў заменены стрэламі — чалавекападобнымі і фалічнымі, меўшымі прыкметы Індры і яго паліцы-ваджры. Больш позція дасыпкі "Цегельни", "Кормилицы" і вакольных курганоў мелі выгляд ужо знаёмай нам Прамаці. Грудзі больш позняй з іх былі прадстаўлены параю культавых ямаў з прыкметамі дзвюх паставаў Нябеснай Балеі — што звязвае, згодна з індаарыйскімі вучэннямі, патойбочны і горні светы, быццё-і-нябыт... Згодна з аўтарытэтнымі высновамі Ф.Кэйпера, асноўны міф "Рыгведы" адлюстроўвае архетып зачацця і звязаны з дактрынаю ёгі (змея Кундаліні, які ператвараецца ў "вены" Іду і Піндалу), якая ў сваю чаргу адлюстроўвае архетып фармавання эмбрыёна; Ф.Кэйпер прасочвае таксама сувязь дадзеных архетыпаў як з Нябеснай Бамяй, гэтак і з Прамаці. Такая канцэпцыя цудоўна пацвярджаецца матэрыяламі ўказаных і іншых курганоў арыйскай прарадзімы.

Вышэйразгледжаныя археалагічныя (а таксама лінгвістычныя і этнаграфічныя) дадзеныя даюць падставы для пераходу на *трэці ўзровень* асэнсавання тэмы "Эрас і Танатас" — на ўзровень фізічных узаемасувязяў быцця-і-нябыту.

Выяўлена, што "Цегельня" і "Кормилица" — найстаражытныя з дзесяткаў тысяч даследаваных дасюль арыйскіх курганоў — размяшчаліся ў асаблівай, даволі анамальнай экалагічнай зоне. Магнітны і радыяцыйны фон тут значна вышэйшыя, а клінападобны разлом у зямной кары спалучаецца з правільнымі кругамі мантыйскіх каналаў, што створаны анамальнымі патокамі гравітацыі. Строгае размяшчэнне курганоў на ўказаных вышэй кругах сведчыць аб тым, што арыйскія жрацы-брахманы не выпадкова выбралі гэтую мясцовасць для сваіх могільнікаў і свяцілішчаў — а з мэтаю пераадолення нябыту. Можна меркаваць, што вышэйзгаданыя прыродныя фактары сілкавалі біяполе не толькі жывых, але і мёртвых. Мяркуючы па разгледжаных вышэй абрадах, тут у жывых людзей асабліва актывізавалася лібіда і гены, пад- і надсвядомасць. Адносна ж мёртвых можна дапусціць натуральна-рытуальнае (г.зн. магнітна-радыяцыйна-гравітацыйнае, а таксама біяпсіхічнае) аднаўленне тых складнікаў біяполя і розуму, якія вылучаюцца з магілаў разам з распадам плоці і мозгу. Не выключана, што жрацы інтуітыўным шляхам навучыліся ўзнаўляць тыя складнікі, якія практычна вечна захоўваюцца і працягваюць функцыянаваць у магілах; электрамагнітныя палі біяфізічных малекул жалеза (па Г.Петраковічу) і "інтэрфейсныя" ўласцівасці касцей (па Р.Фурдую і Ю.Швайдаку).

Не выклікае сумневу, што, супастаўляючы пануючыя ў Індыі вучэнні аб перасяленні душ і ёгу, з аднаго боку, а з другога — свяцілішчы і могільнікі арыйскай прарадзімы, навука зможа далёка пасунуць тое вывучэнне Бяссмерця, якое было закладзена ў 1975 годзе публікацыяй кнігі Р.Моудзі "Жыццё пасля жыцця".

**Аўтар — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута археалогіі Акадэміі навук Украіны, загадчык аддзела гісторыі часопіса "Український Світ". У 1990 годзе выдаў кнігу "Космические тайны курганов" /М.,"Мысль"/. – Ю.З.*

---

Валадымір ГРАБОЎСКІ*

# МУЗЫКА І ДУХОЎНАСЦЬ: ПАМІЖ ЭРАСАМ І ТАНАТАСАМ

## Нататкі на палях вялікай тэмы

У супастаўленні такіх захапляльных, велічных і загадкавых з'явішчаў, якімі, безумоўна, ёсць музыка і духоўнасць, нічога дзіўнага няма. Бо сапраўды, у часе ўсеагульных катаклізмаў нашага "трагічна пашкуматанага XX стагоддзя" (Л.Грабоўскі), зварот да з'яў мастацтва, духоўнасці, магчыма, дапаможа зразумець пэўныя асаблівасці чалавечага быцця, людской сутнасці. Зрэшты, такое паяднанне, прычым у філасофска-светаглядным сэнсе, мае даўжэзную гісторыю, — больш таго, — сёння не зашкодзіла б што-кольвек з тых ведаў прыгадаць. Маю на ўвазе старажытных. Платон, далей Арыстоцель мелі вялікі стасунак да духоўнасці (душы — psychē). Тэарэтычная заглыбленасць і шматаспектнасць у распрацоўцы першага мысліцеля сур'ёзна дапоўнена другім, які, пайшоўшы далей, адрозніваў тры "здольнасці" (ці аспекты) psychē — "жывёльную", "пачуццёвую" і "паэтычную" (інтэлектуальную). Першая ўласціва раслінам, другія дзве — жывёлам, а ўсе тры — толькі чалавеку. Зразумела, што ў дадзеным кантэксце нас найболей цікавіць трэцяя ўласцівасць душы, г.зн. "паэтычная".

Што датычыць музыкі, то старажытныя мысліцелі, у адрозненне ад сучасных, надавалі ёй надзвычай вялікую вагу. Напрыклад, старажытнакітайскія вучэнні ў музыцы (і танцы) бачылі сродак трымаць свет у парадку і засвойваць яго на карысць людзям. Стройная і шырокая сістэма поглядаў на музычнае мастацтва, яго патэнцыйныя магчымасці ўплыву на выхаванне ўнутранага свету чалавека (гэта значыць яго духоўнасці) была ў Старажытнай Грэцыі. Ці варта выкарыстоўваць тую сістэму для практычнага ўжытку сёння? Іншымі словамі, ці магчыма цяпер, напрыканцы XX стагоддзя, такая рэканструкцыя — хай з найлепшымі намерамі — гістарычнага тлумачэння і падыходу да музыкі як да актыўнага чынніка духоўнасці? Хутчэй — не. Не асмеліўся б катэгарычна сцвярджаць зараз, што вымогамі музыкі, вымогамі "пекнага" можна кардынальна пераняніць свет.

Вяртаючыся да пачатку, нагадаю, што музыка як від мастацтва (адзін са сфер прадуктыўнай дзейнасці чалавека) і духоўнае, духоўнасць не заўжды правамерны ў беспасярэднім супастаўленні. І справа не толькі ў тым, што асобныя віды мастацкай творчасці цяжка ўявіць сабе як ёмішчы духоўнага. Занадта шырокае і ёмкае гэта паняцце — духоўнасць, і не заўжды ўдаецца яго канкрэтызаваць. Калі ж уявіць сабе... гучанне твораў Ё.С.Баха, якія ў сваёй большасці сугучныя, можа нават адэкватныя паняццю духоўнага, — то справа праясніцца. Як кажа сучасны польскі музыколаг Богдан Поцей: "Бах — гэта веліч абстрактная і татальная: квантытатыўная, вымерная веліч аб'ёму ці сферы і веліч невымерныя, духоўная, ідэйная". Так, але зноў жа давядзецца нагадаць, што Бах жыў 300 гадоў таму і, хоць яго філасофска-музычныя ідэі з часам не састарэлі, — сёння яны вымагаюць карэктыў. Нават калі б мы дапусцілі, што духоўная субстанцыя найпаўней прысутная ў рэлігійна-літургічных або творах, той ці іншай мерай звязаных з рэлігійнай тэматыкай, а ў іншай музыцы — менш альбо зусім адсутнічае, — такі шлях не дасць вынікаў. Такое дапушчэнне не мае пад сабою грунту, што і будзе пэўным сведчаннем паўнаты і шматаспектнасці катэгорыі духоўнага (не толькі адносна музыкі).

Таму, абгрунтоўваючы дапушчальнасць шырокага тлумачэння духоўнага ў музыцы, ёсць сэнс звярнуцца не толькі да сакральнай музыкі. Напрыклад, нескладаны вясельны скрыпкавы найгрыш беларускага народнага музыкі "Каб разжаліць маладую" з двухдыскавага альбома беларускіх даследчыкаў З.Мажэйкі, І.Назінай, Т.Варфаламеевай) мае на мэце спрыяць "уваходжанню" маладой у абрад вяселля і "расчуліць", напэўна, прысутных. У музычным аспекце гэты найгрыш — па-першае, шмат чаго гаворыць і блізкая не толькі беларусам, але і прадстаўнікам іншых народаў Цэнтральнай Еўропы, а, па-другое, чыста з музычнага боку, нясе ў сабе штось большае, чым службова-рытуальную функцыю. Магутнае тварэнне традыцыі, зразумелай і ўласцівай усім...

Зрэшты, могуць запярэчыць, што музыка не абавязкова павінна высвятляць сваю сутнасць праз *духоўнае*. Цалкам магчымыя (і, мабыць, карысныя) паралелі: музыка і рытуал; музыка і нацыянальнае (інтэрнацыянальнае альбо паза- ці наднацыянальнае); музыка і мысленне; музыка і рэлігія; музыка і гульня; музыка і палітыка; музыка і вайна... Пэўнаю мераю давядзецца закрануць асобныя з гэтых паяднанняў.

... Звяртаючыся да Святога Пісьма, каштоўнай крыніцы духоўнасці ў найшырокім разуменні гэтага паняцця, няўзброеным вокам бачна значная прысутнасць у ім музычнага пачатку. Асабліва ў Старым запавеце. Гэта — складаная і шырокая тэма, вымагае асобнага мэтанакіраванага даследавання. Тут жа варта зрабіць колькі крэсак. След зазначыць, што ў асобных выпадках "прысутнасць" музыкі, а таксама блізкіх да яе спеваў, танцаў у Святым Пісанні выходзіць далёка за межы нашай тэмы. Тут, магчыма, больш падыдзе другая частка назвы тэмы: "паміж Эрасам і Танатасам". Экстрапалюючы шматлікіх персанажаў антычнай міфалогіі з іх яскравай, часта дзейнай роллю на таямнічыя старонкі старазапаветнай гісторыі, можна адшукаць пэўныя аналогіі.

Адно з першых "уключэнняў" музыкі як "дзейнай асобы" ў Святым Пісанні стасуецца таго выпадку, калі Лаван дакарае Якаву: "Чаго ты ўцёк употайкі і перахітрыў мяне, не сказаўшы мне нічога, — і то й абакраў яшчэ? Я б цябе выправадзіў *з радасцю, са спевам, пад гул цымбалаў ды гусляў!*" (падкрэслена мной. —**У.Г.**) (Кн. Быцця, 31:27). Тут музычны пачатак выразна асацыюецца з радасцю, весялосцю. Падобных прыкладаў з выкарыстаннем музыкі як чынніка радаснага пачатку можна было б прывесці безліч. Прычым радасць, весялосць не заўжды бывае з прычын, якія мы маглі б сёння лічыць слушнымі: "... калі Давід вяртаўся, забіўшы філісцімляніна, выйшлі жанкі з усіх месц... з радасцю ж спявалі і танчылі пад гукі бубнаў ды цымбалаў" (1 Цар., 18:6). Не ўваходзячы ў сутнасць падзей, адлюстраваных там-сям па "суседстве" з музыкай, зазначу, што яна, звычайна, была носьбітам не толькі раданага ў розных варыянтах. Музыка нярэдка спрыяла настроям безвыходнага суму, трагедыі: "Цытра мая галосіць, і дудачка мая плача..." — скардзіцца праведнік Іоў з нагоды ўзрушэнняў, што выпалі на яго долю (Іоў, 30:31). Рэлігіязнаўцы сведчаць, што падзеі, апісаныя ў кнізе Іова, адбыліся вельмі даўно, як і самім яго сведчанням блізка 5000 гадоў. Іншы прыклад, што высвятляе "сумную" функцыю жалобных песень, ёсць у кнізе прарока Іезекііла:

"... жалобная песня, якую павінны спяваць сумна дочкі народаў... над Егіптам і над усім яго насельніцтвам, спяваць павінны сумна, — слова Госпада Бога" (Іез., 32:16). Функцыя музыкі ў Старым запавеце, такая размаітая па прызначэнні і характары, — у Новым запавеце займае значна больш сціплае месца. Тут яна пераважна абмяжоўваецца функцыяй услаўлення: "Гаварыце між сабою ўголас псалмы і гімны ды духоўныя песні, спявайце ды ўслаўляйце ў сэрцах Госпада" (Еф., 5:19). Выразнае памкненне да сакральнасці, да катарсісу — і роля музыкі, якую яна тут адыгрывае, мае месца не толькі ў Новым запавеце, а карэніцца ў Старым: "Слаўце Госпада... спявайце яму... хай весяліцца сэрца шукаючых Госпада",— наказвае Давід Асафу ды яго братам (1 Пар., 16:8-10).

Параўноўваючы музычнае мастацтва з іншымі сферамі чалавечага духу — з навукай, філасофіяй, літаратурай (паэзіяй), — пры пэўных аналогіях, усё ж адзначаецца шматмоўнасць музыкі, яе невычэрпнасць, бязмежнасць... Радасць, сум, цярпенне, гнеў, жаль, захапленне — да бясконцасці можна пералічваць станы чалавечай душы, што даступныя не толькі для музычнага выразу, але і натуральна ёй уласцівы. А колькі музычных "сведчанняў" застаецца па-за вербальнымі азначэннямі, так бы мовіць, невымоўных, і ў той жа час такіх шматмоўных для чалавека! Успрыняцце музыкі адбываецца зусім не розумам, а пачуццямі праз эмацыйныя станы. Апошняе ёсць дужа важным і, звычайна, не робіць пазнанне (усведамленне, засваенне і г.д.) музыкі якімсьці непаўнацэнным ці непаўнавартасным, бо "разумовае ўспрыняцце — палавінчатае... Ад розуму да мудрасці — доўгі шлях" (Я.Сверсцюк).

"Concerto misterioso" вядомага сучаснага ўкраінскага кампазітара Леаніда Грабоўскага — твор для 9-ці розных інструментаў, напісаны ў 1977 годзе. Прысвечаны памяці мастачкі Кацярыны Білокур, звычайнай вясковай жанчыны з Украіны, якая ў сваёй творчасці найдаступнейшымі спосабамі адлюстравала пэўныя бакі ўкраінскай ментальнасці. Кампазітар, інспіраваны творчасцю арыгінальнай мастачкі, творыць новую мастацкую вартасць з высокім змесцівам духоўнага пачатку... Слухаючы падобную музыку, мы адначасна "чуем песню ўласнай душы" (Хасэ Артэга-й-Гасэт)...

След зазначыць, што кампанаванне і майстэрства выканання музыкі ёсць выключнае рамяство, якому трэба доўга, цярпліва і сістэматычна вучыцца. Магчыма, таму й часта сустракаецца думка пра незразумеласць музыкі, яе адарванасць ад шырокіх мас. Тут жа месцяцца, пэўна, карані думкі пра прызначэнне мастацтва для нешматлікай аўдыторыі... Не прамінуць і таго факта, што мова музыкі паддаецца зменам, прычым нярэдка радыкальным, значна часцей за іншыя мастацтвы, хоць "адзін і той жа жыццёвы стыль пульсуе ў мастацтвах, так непадобных паміж сабою" (Х.Артэга-й-Гасэт). Варта адзначыць значную розніцу ва ўспрыняцці музыкі цяперашнім пакаленнем і ў мінулым: рызыкну сцвердзіць, што сучасны чалавек нават пры больш прыхільным і дапытлівым стаўленні да музыкі, як да чагось велічнага, духоўнага і да т.п., — чакае ад яе значна меней, чымсьці чалавек мінулага. Не бяруся дакладна вызначыць паняцце "мінулае", але дапускаю, што найноўшыя набыткі цывілізацыі, прагматызм, роўна як і катаклізмы, трагедыі нашага веку, наклалі значны адбітак на душу чалавека. Асобныя мысліцелі выказваюць думкі пра пэўную адчужанасць ці дыстанцыю ў сучасным успрыняцці мастацтва. Магчыма, гэта і ёсць адной з прычын вялікіх намаганняў творцаў музыкі сучаснасці вярнуць увагу якой бы ні было цаною — у пошуках штораз новых — усё больш складаных — спосабаў выразу?..

Звяртаючыся да праблемы музычнай мовы, у прыватнасці да яе абнаўлення, можна прыгадаць выказванне, што ў "мастацтве якія-небудзь паўтарэнні бессэнсоўныя" (Х. Артэга-й-Гасэт).

*(Працяг на стар. 10.)*




Алесь ЧОБАТ

# "ПУСТА ЦЯПЕР У АЙЧЫНЕ..."



## ЧАТЫРЫ ПАРЫ ГОДА

I

*Гарачым лугам у чырвань зыходзяць двое,*
*правальваюцца скрозь лета да непрытомнага раю,*
*цені, травы і шлохі сплятаюцца над галавою,*
*вянком два цені спавітыя, душны дзень дагарае,*

*памяць ужо атручаная, словы дрыжаць, як чмялі,*
*ужо дзесятая стома перасыхае ў горле,*
*двое ў адным каханні забылі ўсё на зямлі*
*і доўга на белых аблоках плывуць, куды вецер гоніць,*

*куды нясе назаўсёды распуста лета сляпая*
*або жанчына ўцякае ад самой сябе пад замком,*
*калі, як пялёсткамі, пацалункамі аблятае*
*ці, як трускаўка, тае пад языком.*

II

*Смецце. Восень. Смярдзіць плацкартным вагонам.*
*Сніцца разбураны хутар. У печы агонь дагарае.*
*Сала. Міска з блінамі. Спацелы графін з самагонам.*
*Смутак. У бліжнім лесе рэха грыбы збірае.*

*Сцежка бяжыць пустая. Прымаразак. Павуцінне.*
*Гайдаецца час павучком, абрываецца вечным лёсам.*
*Лягчэе ў кішэні пляшка. Пуста цяпер ў Айчыне.*
*Спакой, як пух за труною, прыбіты першым марозам.*

*Ах, тая восень... Болей такой ніколі не будзе.*
*Так лёгка думкі да смерці падыходзяць паволі,*
*калі абрыдла хавацца ў нармалёвыя людзі*
*двум адзінотам бяздомным на хутары ў вечным полі.*

III

*Жоўты цягнецца лёд. Чорны вецер вые з ракі.*
*На базарах далёка людзей абмінаюць сабакі.*
*Самы час на загад, каб да Вільні прыбеглі ваўкі*
*з чалавечымі мордамі па-над вопраткай колеру хакі.*



*Кроў і плюта. Адлі́жная плюта і кроў.*
*Памяркоўны спакой. Неакрэслены тлум беларусаў...*
*Абыякавы гоман між ворагаў і сябрукоў:*
*сексуальна-таварныя клопаты ў іх прафсаюзаў...*

*Цесна белай зімою і душна прапасці за так.*
*Горад крамаў пустых напаўняецца людам парожнім.*
*Сон, як гліна з абрыву, да долу ляціць, і скразняк*
*працінае да болю — як перад паўстаннем апошнім.*

IV

*Так было — так мінула. Калі нават целам адным*
*быць не хочам даўно і калі раздзіраюцца душы...*
*Над пасёлкам вісіць толькі лісця счарнелага дым.*
*Па дарозе — канавы, балота і жоўтыя лужы.*

*Вось такая вясна... Тут рыхтуюцца час пакананцаь.*
*Назапашана ўсё — на сябе, на дзяцей і на продаж.*
*Смеху варта адзэтуль што клікаць, а што праклінаць —*
*перамелецца ўсё працавітым і спраўным народам...*

*Панядзелак. Дарога. Апошні тутэйшы дзівак,*
*нападпітку й няголены, доўга чытае газеты.*
*Клункі. Торбы. Суседзі. Знаёмы да болю бардак.*
*А за сто кіламетраў ужо пачынаецца лета...*

## НОЧЧУ НА ХУТАРЫ

*Па вячэры не выйшла размова ізноў.*
*Неяк душна і сумна. Газніца гарыць.*
*Заблукаў гэты Край паміж мараў і сноў —*
*і пара перастаць пра яго гаварыць.*

*Нешта вечнае мроіцца ў гэтай глушы...*
*Лёс пачатку не меў — і канца смерць не дасць.*
*Слепа бліскаюць фары на блізкай шашы.*
*Толькі поле кругом — і няма дзе прапасць.*

*Не прапасць і не згінуць у цемры такой,*
*дзе адны матылькі не баяцца святла,*
*дзе спакой нібы смерць і дзе смерць як спакой*
*і дзе некалі наша айчына была...*

---

Міхаіл РЭНДЖАЎ

# "БЕЛЫЯ ДЗІКІЯ РУЖЫ..."



Пазалетась на Стружскіх вечарах паэзіі я пазнаёміўся з тым, з кім ужо загадзя быў знаёмы, калі ўчытваўся ў загадкавыя словы яго вершаў, — з македонскім паэтам Міхаілам Рэнджавым.

Наведаліся ў яго горную хаціну, якую ён, укладаючы ў яе сцены камяні, прывезеныя з розных мясцінаў краю, збудаваў сваімі рукамі, дайшлі да старажытнага манастыра Нерэзі, чые знакамітыя фрэскі натхнілі Міхаіла на кнігу вершаў, разважалі аб фенамене македонскай паэзіі, пачатак летазлічэння якой —першы пасляваенны год.

Па адукацыі Міхаіл Рэнджаў — юрыст, але амаль адразу пасля заканчэння юрыдычнага факультэта адхіліўся ад літары закону і прыхіліўся да слова паэзіі.

"Высяленец з агню" (1964), "Начны рост слова" (1967), "Куды з гэтай краіны" (1968), "Слова і боль" (1969, выбранае), "На мяжы сну" (1972), "Страх" (1976), "Вершы" (1977, выбранае; на македонскай і серскахарвацкай мовах), "Поўнач" (1979), "Нерэзі" (1982), "Аўтадафэ" (1985), "Веда" (1985, выбранае), "Фенікс" (1987) — вось вядомыя мне назвы зборнікаў Міхаіла Рэнджава.

Апроч таго, ён пераклаў на македонскую мову "Эпас пра Гільгамеша", што сталася літаратурнай з'явай.

Застаецца сказаць, што нарадзіўся Міхаіл Рэнджаў у 1936 годзе; працуе цяпер у Нацыянальнай бібліятэцы.

У нас так мала перакладзена з македонскай літаратуры, што кожная публікацыя амаль аўтаматычна становіцца "адной з першых". Мабыць, і гэтай падборцы наканаваны такі ж лёс...

**Перакладчык**

## ГОСЦЬ

*Прыходзіць і зноў адыходзіць*
*Госць:*
*Здань ці сутонне*

*Пытаўся ў яго:*
*Які вецер цябе прыносіць*
*Якая непагадзь прадвячаче*
*З якога неба спускаешся*
*З якога волава выплаўляешся*
*З якой цемрадзі*
*З якой злосці?*

*Застагнаў, нешта вымавіў*
*І ўва мне*
*Паволі схаваўся: Госць —*
*Здань ці сутонне*

## МАРМУР
(СЛУП)

*Хто спіць у табе?*
*Хто блукае ў табе?*
*Які Вавілон, Візантыя якая?*
*Які архангел, які сатана*
*Які госпад?*

*Да цела твайго галаву прыкладу —*
*Пачую: ўсярэдзіне салавей*

*Шчабеча.*

## ЛІХТАР

*Нашто палымнееш*
*Калі ніхто*
*У цемры цябе не бачыць?*

*Спавіты ў свае маўчанне*
*Клічаш нячысцікаў і скарпіёнаў*
*Гадаў марскіх і рыбін*
*Каб цела тваё*
*У цябе забралі*

*Ніхто не прыходзіць*
*Адно толькі вецер гуляе*
*З анёламі зіхатлівых*
*Тваіх вачэй*

*Захоплены ў пастку*
*Нібы неаперыны голуб*
*Не верыш у смерць*

*І шкарлупы*
*Якая твой цень*
*Перытварае ў перлы*
*Не заўважаеш*

## АБЛОКІ

*Гэта нямыя чаўны*
*Што носяць мой боль*
*І мяне суцяшаюць*

*Белыя дзікія ружы*
*У галавах у паэта*

*Куды плывяце, даплывіце*
*Мае чаўны!*
*Ачуньвае маё сэрца*
*Ад перуновага ўдару*

* * *

*Напісаў: Кветкі*
*Рассыпаліся і сталі*
*Акрасай сэрца*

*Напісаў: Сэрца*
*Рассыпалася і стала*
*Каменем —*
*Пасткай для чоўнаў*

*Намерыўся напісаць*
*Тады: Вечнасць*
*Але спалохаўся*
*Але спалохаўся*
*Каб не зніknуць*

## ГРОМ
(ПАЭТ)

*Усю ноч хаваецца*
*У поцемным спраце сонца*
*І сонцавых коней пільнуе*

*Раніцай выкрадае*
*Каня і яго асядлаўшы*
*Вогненым мечам б'е па бярэсце*

*Потым злятае*
*На купал*
*Манастыра*

*Апоўдні ходзіць сярод людзей*
*І першага каго сустракае*
*Джаліць у спаміжвочча*

*З таго каго ён уджаліць*
*Кажуць*
*Паэт вырастае*

## ВЯЛІКАЕ ПАЛЯВАННЕ
(ПАЭТ)

*Рог загарніў. Енчыць гара*
*Пачалося Вялікае паляванне*

*З-за сонца Ваўкі*
*Спанад воблака Сакалы*

*З туману Харты*
*З-пад зямлі Лаўцы*

*У страх*
*У хмызняк схаваўся*

*Алень*

*Гыркаюць-выюць Ваўкі*
*Крычаць-верашчаць Сакалы*
*Яхкаюць-брэшуць Харты*

*А Алень?*

*На небе*

**Пераклаў з македонскай**
**Алесь РАЗАНАЎ**



# МУЗЫКА І ДУХОЎНАСЦЬ: ПАМІЖ ЭРАСАМ І ТАНАТАСАМ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8)*

Каб хоць як абгрунтаваць тое, якія магчымасці ў гэтым плане мае кампазітар, варта параўнаць музыку, напрыклад, з літаратурай:

"Były to owe prowincjonalne pokoje, które — tak jakwniektórych okolicach, całe strefy powietrza albo morza są rozswietlone lub upachnione miriadami niewidocznych dla oka protozoów — czarują nas tysiącem zapachów; a wydzielają je cnoty, rozsądek, nawyki, całe życie duchowe, sekretne, niewidzialne, bogate, unoszące sis tam w powietrzu; zapachy niewątpliwie jeszcze naturalne i majace barwę, pory roku jak zapachy sąsiednich pól, ale już domowe, Ludzkie i zaggszczone, niby wyborna, kunsztowna i przezroczysta galareta z wszystkich dorocznych owoców, które opościły sad, aby się przenieść do szafy; sezonowe, ale związane z meblami i z domen, łagodzące ostrość szronu słodycza ciepłego chleba, letniwe i punktualne jak zegar wiejski, beztroskie i systematycsne, niedbałe i przezorne, bielizniane, poranne, nabożne, szczęsliwe spokojem przynoszącym jedynie wzrost leku i prozaicznością, stanowiąca wielki rezerwuar poeezji dla tego, kto wstąpi tam, ale tam nie mieszkał".

Вытанчаны, хоць цалкам зразумелы (нягледзячы на расцягненасць усяго аднаго выказвання) урывак тэксту М.Пруста ў цудоўным польскім перакладзе. Паспрабуйце выключыць з яго пачатак (дзе кажацца канкрэтна пра што заўгодна) або з мэтаю скарачэння задоўжанасці тэксту выняць кожнае 2-е ці 3-е слова. Відавочна, што такая "аперацыя" не толькі зашкодзіла б мастацкай дасканаласці твора, але і цалкам, да непазнання змяніла яго ў дадзеным раздзеле. У музычнай жа творчасці кампазітар, вобразна кажучы, мог бы не толькі выняць асобныя словы, але зрабіць іншыя, цалкам незразумелыя для літаратурнага тэксту "аперацыі". Кампануючы музыку, аўтар не толькі вымае ці дапісвае асобныя "словы", — ён мае права выняць асобныя "літары" ў "словах", "накласці" "словы" (ці "фразы", нават "выказванні") адно на адно, — дасягаючы надзвычайнага эфекту; можа перапісаць тэкст у адваротным парадку, карыстаючыся тэмпам (гэта значыць прасторай і часам) як яму заманецца. І музычны твор, будаваны майстэрскаю рукою (такімі "варварскімі", з пункту гледжання літаратара, метадамі), кіраваны талентам і натхненнем, не толькі не страчвае, але й пачынае адсвечваць усімі барвамі вясёлкі!

Яшчэ пра адну рэч, мімаходзь закранутую вышэй, трэба згадаць. "...Праводзячы жыццё ў гульні, гуляючы ў пэўныя гульні, робячы ахвярапрынашэнні, *спяваючы і танцуючы* (падкрэслена мной. — **В.Г.**), каб схіліць да сябе багоў і адбіць ворагаў..." Гэта — Платон. "Нішто не здольна гэтак абуджаць у нас, носьбітаў позняй культуры, пачуцця свяшчэннай гульні, як музычныя перажыванні. Нават у параўнанні з рэлігійнымі ўяўленнямі насалода музыкаю мацней паядноўвае адчуванне прыгожага і пачуццё свяшчэннага..." (Ёган Хейзінга. "Homo Ludens").

... Выдатны нідэрландскі філосаф і культуролаг — апанент Артэгі-й-Гасэта — Ёган Хейзінга багата старонак сваёй працы, прысвечанай чалавечаму феномену гульні, аддаў музычнаму мастацтву. Лагічна паядноўваючы гэтыя два з'явішчы — музыку і гульню, — філосаф робіць выснову пра гульню і sacrum, музыку і духоўнае, паходжанне гульнёвага пачатку (ад жывёл) і яго аналогіі ў людзей. Ён сцвярджае, што ў жывёльным свеце гульня займае вялікае месца ў шлюбны перыяд. Прыгадваецца вычытаная дзесь у даваенным часопісе версія пра прызначэнне музыкі для інтымных стасункаў мужчыны і жанчыны, г.зн. векавечнае "шэфства" Эраса над музыкай (у гэтым кантэксце хутчэй наадварот. — **Рэд.**)... А магічны культ гульні?..

Як жа паяднасць музыку з Вечнасцю, Бясконцасцю і Космасам? Магчыма, музыка і сапраўды ёсць цэлы свет культуры, свет найістотнейшых вартасцяў чалавека, ведаў пра Сусвет, ведаў пра Бога, ведаў пра Чалавека...

---

* *Аўтар — эсэіст і музыколаг з Драгобыча (Украіна). Тэкст падаецца са скарачэннямі.* — ***Ю.З.***



Карль ЯСПЭРС

# ДУХОВАЯ СЫТУАЦЫЯ ЧАСУ



*Яспэрсаву пяру належыць вызначальная для сыстэматызаванае эгзыстэнцыянальнае філязофіі пісань — "Філязофія сьветаглядаў", што абачыла сьвятла ў 1919г. Аўтар яе пачынаючы ад 1908г. рабіў у псыхіятрычнай клініцы Гайдэльбэргскага ўнівэрсытэту, дзе займаўся тэарэтычнымі й мэтадалягічнымі праблемамі псыхапаталёгіі. Вынікам гэтых дасьледаваньняў сталася "Агульная псыхапаталёгія" (1913, 1946 супоўна перапробленая), уважаная ў сваім абсягу гэтаксама за клясычную. Тады Яспэрс болей а болей зварачаецца да цэласьцевага, філязафічнага разгляду быцьця чалавека ў крызысным буржуазным асяродзьдзі. Дзеля свайго вышменаванага першага філязафічнага твору ён у 1921г. быў запрошаны ў Гайдэльбэргскі ўнівэрсытэт на становішча прафэсара філязофіі. Наступнае дзесяцігодзьдзе Яспэрс прысьвячае наўперад навучаньню, публікуючы адно колькі невялікіх працаў. Нарэшце, у 1931 — 1932гг. зьяўляецца ягоная трохтамовая "Філязофія", у якой эгзыстэнцыянальная філязофія ўпяршыню набывае выгляд усёабдымнае сыстэмы. Заразом выходзіць із друку й ягоная філязафічная аналіза часу "Духовая сытуацыя часу", у каторай ён выяўляе як факты адчужанасьці чалавека ў 20-ым стагодзьдзі, гэтак і зьявы заняпаду грамадзтва, што бачыцца ім у панаваньні бязыменных масаў, тэхнічных апаратаў і маніпуляцыйных мэханізмаў. У якасьці выйсьця для сучаснага чалавека й апошняга "аплоту" філязафуючага суб'екта, які больш не знаходзіць усьпірышча ў распалых традыцыйных цэннасьцях і нормах буржуазнага думаньня, ён пасуляе адзінотную эгзыстэнцыю. Суб'ектывістычна зразуметая "істая" эгзыстэнцыя й гранічныя сытуацыі, за якіх чалавек прынучаны ці жыць і дазнаваць ці загрузьці ў "няістай" штадзённасьці, — усё гэта стаецца цэнтральнаю тэмаю ягонага філязафічнага творства.*

*На подзе ягонага жанімства із жыдзіцаю, з каторай ён, нягледзячы на ўсе рэпрэсіі, так і не скасаваў шлюбу, а гэтаксама дзеля ягоных лібэральных паглядаў, на сфармаваньне якіх вялікі ўплыў уісьціў Макс Вэбэр, нацыстыя ад 1937г. забараняюць яму выконваць свае прафэсійныя абавязкі. У 1938г. забараняецца публікацыя ягоных працаў. Практыка нямецкага імпэрыялізму ды іншыя катаклізмы канчальна сьхінаюць Яспэрса да думкі, што індывід павінны несьці адказнасьць ня толькі за сваё жыцьцё, але й за жыцьці іншых людзёў ды за кон атачаючага яго сьвету. Зараз па капітуляцыі Нямеччыны ён пачынае наважана выступаць за дэмакратычныя пераўтварэньні ў вусіх галінах грамадзтва, асабліва акцэнт пры гэтым робячы на сыстэме ўнівэрсытэцкай адукацыі. Расчараваны ў непасьлядоўнасьці гэтых пераўтварэньняў, і, наўперад, у сусім недастатковым разрахунку з фашыстычнаю мінуўшчынаю, што бачылася ня толькі на прыкладзе ўнівэрсытэтаў, ён у 1947г. пераяжджае ў Швайцарыю, дзе паступае на працу ў Базэльскі ўнівэрсытэт. У васяродку ягоных зацікаўленьняў аказуюцца цяпер праблемы гісторыі, судачыненьняў чалавека й сьвету, а гэтаксама пытаньні філязофіі гісторыі.*

*Яспэрсава позная філязофія ё спробаю захаваць — пад беспасярэднім узьдзеяньнем паўсталых перад людзтвам небясьпекаў — веру ў розум, які, дарма што пахісьнёны, усёткі астаецца галоўным дзейнікам міжчалавечае камунікацыі. На гэты час прыпадае й пік ягонае грамадзка-палітычнае дзейнасьці (пісані "Атамная бонба й будучына чалавецтва" 1957, "Куды рушыць Заходняя Нямеччына?" 1966).*

## IV. Як сяньня паймуецца людзкі быт

### ЭГЗЫСТЭНЦЫЯЛЬНАЯ ФІЛЯЗОФІЯ

Сацыялёгія, псыхалёгія й антрапалёгія вучаць аглядаць чалавека як аб'ект, да каторага надабе падыходзіць на подзе дасьветчаньня, дзеля чаго ўмагчыміцца ягонае адмяненьне пераз пэўныя захады; гэтак, мабыць, і можна чагось спазнаць аб чалавеку, але ня сама чалавека — чалавек, як самаадвольная магчымасьць, будзе затым зьведзены да свайго яўнага быту. Індывідум абсалютна не павінен адпавядаць таму, як ён канструюецца ў сацыялёгіі, псыхалёгіі альбо антрапалёгіі. Уважаючы ўзапраўды пазнаванае толькі за апрычонае і ўзгляднае, ён унікае гэнага знацьця, што хацелася б навукам прышчапіць пра яго. Асяганьне граніцаў пазнаванага ў быце, зьведанасьць якога цьвердзіцца дагматычна, паймуецца ім як зманлівы сурагат філязафаваньня; калі хочуць спабыць вольнасьці, наўперад апраўдваць хвалышывую веду аб быце.

Спэцыфічнае дазнаньне ўзглядам рэчаў і ўзглядам сябе як быцьця патрэбна чалавеку для ягонага пастўпаньня ў кажнай сытуацыі й пры ўсякім занятку. Але дазнаньня заўжды будзе не ставаць, бо яно набывае асэнсаванасьць перадусім пераз таго, хто яго ўтрымлівае. Тое, што мне ўчыніць із ім, вызначаецца перадусім пераз маё собскае хаценьне. Найлепшыя законы, найвыбітнейшыя ўстановы, найслушнейшыя заваёвы веды, найдзясьнейшая тэхніка могуць быць скарыстаны ў супрацьлежным сэнсе. Яны ператвараюцца ў нішто, калі людзі не прытарноўваюць іх да зьмесьцевае запраўднасьці. Тое, што ўзапраўды адбываецца, падлягае загэтым зьмяненьню ня толькі пераз быт чалавека; ягонае нутранае ўстановішча, спосаб таго, як ён усьведамляе сябе ў сьвеце, зьмесціва таго, што яго задавальняе, — усё гэта стаецца выходзішчам таго, што ён чыніць.

*Эгзыстэнцыяльная філязофія* ё думаньнем, ня толькі карыстаючым, але й асягаючым усенькае дазнаньне, перазь якое чалавек імкнецца стаць самым сабой. Гэта думаньне не пазнае спакмяні, а зьясьняе ды ўніфікуе быт таго, хто гэтак думае. *Пушчаны ў лунаньне* пераз асяганьне ўсёга дазнаньня, быт, зафіксаваны пазнацьцём сьвету (як філязафічная дасьветчанасьць аб сьвеце), пачынае апэляваць да сваёй вольнасьці й тварыць прасьцяг свайго бязумоўнага чыненьня *ў замаўленьні* трансцэндэнцыі (як мэтафізыка).

Зазначаная эгзыстэнцыяльная філязофія ня можа набыць закончанага выгляду ў пэўнай працы альбо канчальнае завершанасьці ў творсьцьве пэўнага думаньніка. Сваім сучасным аблічам і заразом сваім непрыраўнальным пашырэньнем яна заўдзячваецца К'еркегору, чые бяссумлеўнае ўзьдзеяньне, аднак, пачынае выяўляцца толькі сяньня — бо выгукаўшы ў сваім часе ў Капэнгагене сэнсацыю, ён быў уборзьдзе забыты, і дастаў зацікаўленьне адно нязадаўга да пачатку сьветнае вайны. Шэлінгам у ягонай пазьнейшай філязофіі быў абраны шлях, на якім ён ужыцьцявіў эгзыстэнцыяльны працін нямецкага ідэялізму. Але калі К'еркегор без дасьпеху шукаў мэтаду паведаньня й ськівоўваў увагу на тэхніку псэўдонімаў і сваё "псыхалягічнае экспэрымэнтаваньне", дык Шэлінг губіў свае праўдныя імпульсы й інтэнцыі ў ідэялістычнай сыстэматыцы, якой ён — як свайму створу — быў ад маладосьці фанатычна адданы. Гэтым часам як К'еркегор сьведама быў звараціўся да найглыбшае праблемы філязафаваньня — паведаньня — і, сілуючыся беспасярэдня дасягчы ўскоснага паведаньня, прыйшоў да назьдзіў непамысных вынікаў, якія адылі ўзрушаць кажнага чытара, шэлінгавы пошукі выглядалі нясьведамымі й станавіліся зразумелымі адно тады, калі адпіхвацца ад К'еркегора. Іншымі шляхамі, ня ведаючы адцемленых філёзафаў, адбывалася Ніцшэва прыйсьце ў эгзыстэнцыяльную філязофію. Англасаксонскі ідэялізм можна супаставіць із папярэднім этапам. Здавалася, што разбураючы ўсюдыхісны ідэялізм, ён закладвае новыя поды; але ўсё тое, што ім тады пачало вытварацца, сталася — будучы спалучэньнем трывіяльнае аналізы быцьця з прымітыўным жыцьцёвым аптымізмам — нічым іншым, як выражэньнем сьляпое веры ў цяперашнюю замятню.

Эгзыстэнцыяльная філязофія ня шукае разьвязаньняў, а толькі дойсьніцца ў шматстайнасьці паўсталага з адпаведнага выходзішча думаньня дарогай паведаньня аднаго іншым. Дарма што дачаснасьць яе відавочная, ужо сяньня праказуецца ейная пераважная няўдаласьць і апанаванасьць тлумам, які з усёга, што сустракаецца ў нашым сьвеце, уздымае несваячасны галас.

Эгзыстэнцыяльная філязофія зараз ператварылася б у справу *бесспадзеўную*, калі б *зновака пачала прыпушчаць, што ведае, чым ё чалавек.* Яна б зновака вылучыла подныя пазыцыі дасьледаваньня людзкога й жывёльнага жыцьця ў іхных тыпах, зновака сталася б антрапалёгіяй, псыхалёгіяй, сацыялёгіяй. Яна набывае сэнс толькі тады, калі ў сваёй спакмянёвасьці астаецца пазбаўленай грунту. Яна зварачаецца да таго, чаго ня ведае; яна зьясьняе й парушае, але ня фіксуе. Для чалавека, які ступіў на ейную дарогу, яна выступае выражэньнем, перазь якое ён сам утрымлівае сябе ў гэтым прасьцінку, сяродкам, што перахоўвае ягоныя ўзьнёслыя часіны для дойсьненьня перазь ягонае жыцьцё.

Эгзыстэнцыяльная філязофія можа ўпасьці да вымоўнае *суб'ектыўнасьці*. Самабыт тады абмыльна пачынае ўважацца за Я-быт (Ichsein), які саліпсычна зводзіцца да быцьця, што хоча быць толькі гэткім. Праўдная эгзыстэнцыяльная філязофія ё апэлюючым пытаньнем, дзеля якога чалавек сяньня зновака прабуе прыйсьці да самога сябе. Загэтым ясна, што яна толькі там, дзе зь ёю шчэ ходаюцца. Ад бязладнай замятні суцэльнасьці із сацыялягічным, псыхалягічным і антрапалягічным думаньнем яна лучае на сафістычны маскарад. І то ганячыся за індывідуалізм, то выкарыстоўваючыся як апраўданьне асабістага цынізму, яна пачынае станавіць небясьпечны грунт для гістэрычнага філязафаваньня. Але там, дзе яна астаецца праўднай, яна робіць вылучна шмат для паявы істага чалавека.

Эгзыстэнцыяльнае зьясьненьне ня прыводзіць да вынікаў таму, што яно астаецца беспакмянёвым. Яснасьць сьведам'я ня прыносіць задавальненьня, але зьмяшчае вымогу. Як пазнаваньнікі, мы здаволены й гэтым. Бо я ёсьць ня тое, што я пазнаю, і не пазнаю тое, чым ёсьць я. Заміж таго каб пазнаваць сваю эгзыстэнцыю, я толькі магу распачаць працэс пошукаў ясьніні.

Пазнацьцё чалавека тады падыйшло да канца, калі ейныя граніцы былі прасьцягнуліся на эгзыстэнцыю. У эгзыстэнцыяльныя зьясьненьні, якое асягае граніцы пазнацьця, астаюцца непакліканыя да жыцьця патэнцыі. Каб папрабаваць дабліжыцца да мэтафізікі, надабе шчэ разу на подзе эгзыстэнцыяльнага зьясьненьня сягчы ў новае вымярэньне. Тварэньне *мэтафізічнага спакмянёвага* сьвету альбо праблематыка выяўленьня выходзішча быту —нішто, калі мэтафізіка адасоблена ад эгзыстэнцыі. Мэтафізіка —на гляньво псыхалёгіі — толькі штось новапаўсталае ды існае ў хорме фантазіі й асабліва прычэпных ідэяў, у зьмесьце аповядаў і канструкцыяў быту, якія за кажнай спробай занатаваньня зараз чэзнуць. У ёй чалавек, калі яму падаецца, што ўласна запраўднае насьвятляецца, дастае спакой альбо высьненасьць неспакою й бясьпекі.

Сяньня падыходы да мэтафізыкі эгзыстэнцыяльна гэткія ж заблытаныя, як і ўсё філязафаваньне. Але ейная магчымасьць сталася, мусіць, чыстшаю, хоць і бяднейшаю. Дзеля таго што неабходная веда дасьветчаньня ў прынцыпе непаўторная, мэтафізыку немагчыма больш лічыць за від навуковае веды, а трэба наважана сьцігаваць у сусім іншым прасьцінку. Затым яна можа стацца небясьпечнейшаю як дагэтуль і лёгка прывесьці ці да забабонаў адмаўленьня ад навуковасьці й праўдзівасьці, ці да разгубленасьці, якая прыпушчае: больш нельга анічога дасягчы таму, што яна хоча ведаць ды не трапляе ведаць. Адно тады, калі гэтыя небясьпекі будуць абачаны і ўздолены на подзе эгзыстэнцыяльнай філязофіі, стане магчымай ідэя вольнасьці ў сьцігаваньні мэтафізычнага зьмесьціва. І тое, што тысячагодзьдзямі адтваралася чалавеку ў трансцэндэнцыі, зможа зновака загаманіць, па тым як будзе высваена ў зьіначаным выглядзе.

*Пераклад зроблены паводля выданьня:*
*Die geistige Situation der Zeit. Von Prof. Dr. Karl Jaspers. Achter Abdruck der im Sommer 1932 bearbeiten 5. Auflage. Walter de Gruyter & Co. Berlin/New York 1979. (Sammlung Göschen Band 1000)*

**Пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ**

Др. Ст.ГРЫНКЕВІЧ

# ПСЫХОАНАЛІЗА І ПРАБЛЕМЫ — ЛІТАРАТУРНЫЯ І ГРАМАДЗКІЯ




Маючы наўвеце прадставіць адносіны і ўплыў псыхоаналізы на літаратуру і на зьявішча грамадзкага жыцьця, немагчыма абмінуць, прынамся ў кароткім нарысе, гістарычнага разьвіцьця навукі Фрэуда і тых ейных найважнейшых асноваў, якія сяньня зьяўляюцца магутнаю здабычаю думкі чалавецкае. Інакш можна было-б баяцца, што апынімся бяз фундаманту, на якім, як заўсёды, стаіць кожная будыніна.

*Псыхоаналіза,* інакш як кажуць *навука Фрэуда,* або яшчэ прасьцей — *фрэудызм,* злучана вельмі стульна з асобаю тварца, з Фрэудам як чалавекам, з ягонаю расаю, паходжаньнем, грамадзкім становішчам і г.д. Паказываюць, як пачынальнікаў псыхоаналізы Нітшага, Шопэнгаўэра, Гэрбарта, аднак ня зусім правільна. І назоў псыхоаналізы нікаторыя хацелі-б спалучыць з прозьвішчам Жанэта, францускага псыхолёга, і Юнга. Юнґаднак быў хутчэй вучнем Фрэуда, а калі з Жанэтам мае Фрэуд некаторыя мамэнты супольныя, дык усёж-такі псыхоаналізу, як мэтоду лекаваньня а далей як асобны род псыхолёгіі ці нат філёзофіі жыцьця, дала школа Фрэуда.

Асяродзішча жыдоўскае Фрэуда, у якім ён радзіўся, вельмі характэрнае дзеля разьвіцьця падзеяў ягонае навукі. Ад самае раньняе моладасьці, буудчы жыдом, бачыў ён сваю нейкую апрычонасьць, тую іншасьць, аб якой калі ў заходняй Эўропе і не гаворыцца, дык аднак якую ўсе ня гледзячы на ўсенька вельмі добра чуюць. Гэныя вось расавыя свомасьці, побач магчыма са свомасьцямі свайго характару, далі маладому Фрэудаві тую *незалежнасьць унутраную* на пагляды, настроі, валадаючыя грамадзянствамі ці навуковымі тэорыямі. Ад вельмі раньніх гадоў цікавіцца псыхолёгіяю. Будучы маладым лекарам знаёміцца ў Францыі з найбольш тады моднымі і шырока вядомымі вогнішчамі досьледаў псыхолёгічных у клініках Шаркота і Бэрнгэйма. Вярнуўшыся ў Вену наладжывае блізка супрацоўніцтва з Брэўэрам, адным з лекараў-нэўролёгаў. З гэным Брэўэрам даглядалі супольна за адною хвораю, папулярнаю ў літаратуры ў сувязі з тым, што якга гэная хворая пачала ў пэўным сэнсе эру псыхоаналізы.

Хворая мела праявы нэўрозы, вядомае пад назоваю гістэрыі. Не магла яна між іншым хадзіць, зусім абнядужаная ляжала ў ложку, не магла нічога есьці, хаця ўсе органы цела былі быццам здаровыя, значыцца нармальнае абсьледаваньне цела не магло паказаць на тое, каб нейкі з органаў быў пашкоджаны ў сваёй дзейнасьці. Вось Фрэуд з Брэўэрам спрактыкавалі на хворай новы спосаб лекаваньня, а мяноўна выклікалі ў яе гыпнозу і ў сьне гыпнотычным давалі магчымасьць *рэагаваць* на ўспаміны, калі асабліва ўспаміны былі афарбованыя пачуцьцёва ад'емна. І цікава, што шмат якія з праяваў хворасьці пасьля такое неабмяжованае нічым рэакцыі прападалі бяз сьледу, а знача хворая здаравела, прападала абнядужаньне, заміны пры глытаньні і г.д.

На асноведзі ўжо гэнае аднае хворае паявілася новае разуменьне нэурозаў у Фрэуда. Кожнае неадрэгаваньне зьявішча, якое было нямілым з тых ці іншых прычынаў, не прападае бязсьледна, а толькі хаваецца для нашае сьведамасьці, загнанае ў нясьведамасьць ці падсьведамасьць, залежна ад сілы ад'емнага афэкту, выкліканага ў дадзенага чалавека. І вось гэныя *выціснутыя* ў "падпольле" перажываньні не сядзяць спакойна ў нясьведамасьці, а стараюцца прашмыгнуць у актуальную, значыцца сьведамую, плошчу працэсаў псыхічных пад нейкаю іншаю формаю. Дзеля гэтага яны будуць часта зусім незразумелыя.

Новым этапам у разбудове тэорыі псыхоаналітычнае была спасьцярога, што большасьць выціснутых у нясьведамасьць перажываньняў мае характар *сэксуальны*. Зразумела, што такая пастаноўка справы выклікала вельмі гарачы пратэст, у першую чаргу, у сфэрах лекарскіх, з якімі Фрэуд падзяліўся сваімі спасьцярогамі. Як сам Фрэуд расказывае ў сваіх успамінах пасьля першае лекцыі на гэную тэму пачуў ён амаль што не ў даслоўным сэнсе, як паміж ім і слухачамі вырасла пропасьць, усе адхінуліся ад яго, ніхто не хацеў з ім гаварыць, ніхто аб ніштo ня пытаў. Глядзелі ўсе на яго быццам на каналію...

Трэба сказаць, што такія адносіны да псыхоаналізы можам сустрэнуць часта і сяньня. Фрэуд аднак ведаў такую атмосфэру ўжо раней, калі чалавек пакрыўджаны несправядліва абсьмейваецца сваімі ворагамі, — дык цяпер ён не паддаўся прыгнечанасьці. Бадзёра працуе далей. Пакрысе знаходзіць прыхільнікаў. Далучаюцца да яго людзі старэйшыя, людзі з вялікаю практыкаю жыцьцёваю і ведаю клінічнаю, якім новае насьвятленьне зьявішчаў у псыхіцы чалавека рабіла зразумелымі шматлікія праявы ў галіне хворасьці. Далучаюцца да яго швайцарскія псыхіятры *Блеўлер і Юнг.* Вучні ягоныя наладжываюць саюз, выдавецтва псыхоаналітычнае, якое мае на наўвеце распаўсюджываньне здабычаў новае навукі. У далейшых гадах наглядаем паміж вучнямі разыходжаньні, разломы (Адлер, Юнг), аднак тэорыя з Вены разыходзіцца па сьвеце і псыхоаналіза мае спагаднікаў на міжнародным грунце на некалькі ўжо гадоў перад вайною. З пачатнае мэтоды лекаваньня вырастае навука, абхоплiваючая ўсе праявы культурнага жыцьця. Трэба сказаць, што нат' сымпатыкі і прыхільнікі фрэудызму бачаць заняпад навукі Фрэуда ў апошніх некалькінаццаці гадах ягонай дзейнасьці. Кажуць, што сыстэма заялавела, зрабілася вельмі аўторытатыўнаю, што з тэорыі навуковае вырасла нешта быццам сэкта рэлігійная і г.д. Не ўваходзячы бліжэй у ацэнку апошніх мамэнтаў, трэба сказаць, што бязумоўна цэлы сьцяг фактаў падчыркнутых Фрэудам зьяўляецца аснаўною здабычаю сучаснае культуры.

Жыцьцё ў насьвятленьні псыхоаналізы мае асаблівы зьмест. Жыцьцё будзе ігрою *імпульсаў* і ў першую чаргу імпульсаў сэксуальных. Імпульсы гэныя паводле Фрэуда маюць дзеці ўжо ад найменшых гадоў свайго жыцьця. Першы пэрыяд гэных імпульсаў праяўляецца ў *аўтоэротызьме*, хутка аднак яны пераходзяць на людзей з найбліжэйшага асяродзішча, значыцца на бацькоў, і выклікаюць даволі хутка *комплекс Эдыпа*. Паймо камплексу Эдыпа вельмі важнае дзеля разьвіцьця тэорыі псыхоаналітычнае і зьяўляецца свомасьцю дзеля яе вельмі характэрнаю. Прыняць за аснаўны закон існаваньне камплексу Эдыпа на нармальным шляху разьвіцьця адзінкі было вялізарнаю рэвалюцыяю ў тагочасным ды на'т сяньняшнім нашым сьветапаглядзе. Нешта, што было даўней ненармальным, праява хворасьці, сяньня пачынае быць неабходным этапам. Камплекс Эдыпа азначае ня больш ня менш, як сэксуальныя спробы (хутчэй у сымбалічным чымся даслоўным сэнсе слова) ў адносінах да бацькоў, у сына да роднае маткі, у дачкі да бацькі. У пару дасьпяваньня частковыя імпульсы сэксульныя накіроўваюцца на падтрыманьне роду. Вельмі важны пераход з пары поліморфічна-пэрвэрсыйнага сэксуалізму да імпульсаў частковых сэксуальных (інакш можна казаць да нармальнага плоцьнага жыцьця дарослага чалавека). Калі пераход гэны насустрэне на сваім шляху нейкія заміны, у далейшым жыцьці праявяцца яны ў шматлікіх *нэўрозах* ці на'т хваробах псыхічных.

Як была ўжо гутарка, аснаўным мамэнтам для Фрэуда будзе той націск, які ён робіць на значэньне нясьведамых працэсаў псыхічных. Імкненьне да роскашы незаўсёды будзе згоднае з вымогамі маралі, апініі грамадзкае, узгадаваньнем, традыцыямі. Імкненьні нязгодныя з тымі ці іншымі вымогамі сустракаюць цэнзуру, якая не дапускае іх да сьведамасьці, выціскае іх, выпірае. Фрэуд вельмі абразна паказывае на розьніцу паміж сьведамасьцю і нясьведамасьцю. Сьведамасьць — гэта быццам салён, а нясьведамасьць — уваход да будыніны нашае душы. Паміж уваходам і салёнам, на нейкім быццам карыдоры паміж імі, сядзіць сторах (цэнзура), які не дапускае ўсяго, што будзе нязгоднае з традыцыямі ці абычаямі салёну. Няпрошанае імкненьне, як той назойлівы госьць, хоча пралезьці ў салён перамяніўшы вонкавы выгляд. Калі і ня здолее пралезьці, дык усё-такі наробіць гоману ў карыдоры і выкліча непарадак, не даючы спакойна жыць. Той гоман, непарадак практычна праяўляецца ў жыцьці ў розных нэўрозах, хваробах. Усе мы аб'ектамі памянёных падзеяў. Ня ўсе мы хварэем, прынамся ня ўсе мы бачым у сябе хворасьць. Жыцьцё само праводзіць ліквідацыю цяжкіх сытуацыяў. Даволі бывае шчырае гутаркі з сымпатычным нам чалавекам, каб канфлікт ня лішне цяжкі быў зьліквідаваны. Споведзь шырока практыкаваная ў каталіцкім касьцёле — адзін з доказаў, як лёгка можна зьліквідаваць даволі цяжкія канфлікты дзякуючы аднэй шчырай гутарцы з духоўнікам, да якога ідзём з даверам.

На гэтым спыніўся я ў абгаворываньні тэорыі псыхоаналізы. Нажаль не магу абгаварыць шырэй дзеля нястачы месца цэлага сьцягу мэханізмаў, якія лягчэй памагаюць зразумець навуку Фрэуда. Між іншым нічога не казаў я аб псыхопаталогіі штодзённага жыцьця, аб тэорыі сну і г.д. Агульна трэба сказаць, што няма нічога ў жыцьці, што ня мела-б свайго *сэнсу*. Кожная памылка, кожная падзея, кожны на'т сон, на які мы прывыклі заглядацца быццам на нейкую брэднюшку, усё гэта мае свой сэнс, сваю прычыну.

Ясна, што зьявішчы літаратурныя, праблемы ўзгадаваныя, праблемы рэлігійныя, праблемы маралі, агулам цэласьць працэсаў грамадзкага жыцьця паясьняецца псыхоаналізаю часта зусім інакш, чымся мы да гэтага прывыклі ў нашым жыцьці. Як ужо некалькі разоў я казаў, прынцыповае значэньне мае тутака камплекс Эдыпа, ці лепш казаць той спосаб, якім камплекс гэны быў зьліквідаваны. З гэнага камплексу вырастае, можна сказаць, уся нашая культура на шляху сублімацыі, перамены і абмену прымітыўных імпульсаў сэксуальных. Абнова гэная рэалізуецца ў нас нясьведама.

Вартасьць літаратуры, падыходзячы да яе найбольш глыбока, хаваецца ў тым, што аўтар у сувязі з канкрэтным прыкладам ці шматлікімі прыкладамі, пасьля аналізы прыведзеных фактаў дае нейкае абагульненьне. У сувязі з такім паймом літаратуры стульна злучана праца, творчы працэс. Пераказываньне толькі фактаў з вельмі цікаваю на'т фабулаю яшчэ ня будзе літаратураю, будзе гэта хроніка, можа быць адчасьці гісторыя. Бязумоўна, я ня думаю тутака зусім аб ніякай канкрэтнай форме літаратуры. Форма ня мае пры нашым падыходзе да літаратуры нейкага асаблівага значэньня. Пры такім падыходзе ды пісьменства трэба сказаць, што сапраўднаю літаратураю ня будзе літаратура факту, нараджэньне якое мы наглядалі пасьля вайны, а сяньня бачым, можна сказаць, поўны яе заняпад. Прыклад канкрэтны гэнае кароткае гісторыі літаратуры факту бачым у пісьменстве савецкім.

Літаратура належыць да праяваў інтэлекту. Аднак межы, якія яна абхоплівае, шмат шырэйшыя, чымся сам інтэлект. У гэным творчым працэсе, як у кожным іншым, трэба зачапіць аб старану, якая ў першую чаргу рашае аб вартасьці і характары адзінкі, значыцца сфэру пачуцьцёвую. Мусіць яна закрануць інстынкты, мусіць абхапіць нясьведамасьць. Бязумоўна, што літаратура спаўняла гэныя задачы шмат раней, чымся Фрэуд апрацаваў свае тэзы, чымся ўкупіў у законы факты, абгаворываныя і паясьняныя ў літаратуры.

Калі мы гаворым аб суадносінах паміж псыхоаналізаю і літаратураю, дык да гэтае тэмы можна падыходзіць з *дзьвёх* старон. Маглі-б мы прадусім прабаваць паясьніць літаратурныя зьявішчы з *гледзішча* псыхоаналітычнага, а далей спыніцца над *уплывам* фрэудызму на актуальную творчасьць у літаратуры. Мы спынімся толькі над першаю з памянёных старон.

Нельга не прамаўчаць таго, колькі месца ў літаратуры займае каханьне. Доўга раман быў амаль што не адзінаю прызнанаю формаю творства літаратурнага. Кажу аб той пары культуры чалавецкае, калі пісьменства пачынае іграць незалежную ролю ў "сьвецкім" грамадзянстве. Праблемы каханьня амаль што ня ў 100 проц. бачым у паэзіі і творстве народным. Ціж ня будзе тутака поўнае згоды з Фрэудам, калі той нам кажа, што найважнейшым мотарам жыцьцёвым будуць інстынкты, і то якга інстынкты сэксуальныя?!

Калі ў пару дасьпяваньня наглядаем амаль што не агульны поклік да званьня паэты, дык зноў дзеля таго, што дзякуючы паэтычнай форме можам выказаць усё недасказанае і схаванае ў нясьведамасьці. Творства паэтыцкае, як бліжэй здаецца і немагчыма, працуе аднолькаваю мэтодаю з псыхоаналізаю (ня будзем спрачацца, калі нехта скажа наадварот, што псыхоаналіза карыстаецца мэтодаю паэтыцкаю). Гэткае разуменьне мае сваю вартасьць агулам для паэзіі. У пару дасьпяваньня некаторыя мамэнты псыхолёгічныя творства бачым у больш яркім насьвятленьні. Пара дасьпяваньня мае столькі сумляваньняў, загадак, канфліктаў, а што яшчэ горш, канфліктаў няўяўленых, недагавораных. У сьведамасьці ня бачым прычын, цяжка паясьніць тыя сытуацыі, якія выклікаюць няясныя, унутраныя зрухі, тугу па нечым, да нечага. І вось у творстве адкідаем спадумнага гаспадара адзінкі — інтэлект — і кідаемся на хвалі фантазіі. Карысьць суб'ектыўная з такое паэзіі бязсумлiўная. Вартасьць больш шырокая, агульная будзе большая ці меншая, залежна ад таго, што прадстаўляе з сябе гэтая адзінка, які ейны талент і г.д. Часта ніколі ня вярнецца да пяра. Бываюць іншыя, больш шчасьлівыя, ці мо' зусім наадварот, якія назаўсёды астануцца ў палоне пяра і пры кожнай нагодзе канфлікту ці патрэбы сказаць нешта шчыра, гарача, ад сэрца, могуць толькі ў паэтыцкай форме выказаць усё, што накіпела і набалела ў душы. Дык гэнае творства зьяўляецца патрэбаю ўнутранаю, гэта будзе да пэўнае меры акт самалячэньня.

Ці хачу гэтым сказаць, што сапраўдныя паэты людзі хворыя?

І так і не. Што гэта патрэба натуральная — паказвае найлепш народная паэзія, дзе няма іншых імпульсаў да творства, як толькі імкненне да ліквідацыі ўнутраных канфліктаў. Ясна, што ўмовы шырэйшага грамадзкага жыцьця выклікаюць новыя аспэкты ў творстве, робяць да пэўнае меры адумыслоўцаў з паэтаў. Калі аднак гутарка аб сутнасьці справы, дык прадстаўляецца яна так, як я кажу.

Усё, што было гаворана аб паэзіі, цалком тарнуецца да іншых формаў літаратуры. Усюды бачым імпровізацыю, калі зьяўляецца пытаньне дакапацца да глыбейшых слаёў душы. Імпровізацыя і будзе актам, у якім найбольш патайныя думкі паказываюцца ў гатовай ужо форме, быццам неспадзеўкі. І форма і зьмест часта вельмі далёкія ад вартасьці чалавека-тварца, якога мы ведаем на штодзень. У імпровізацыі чалавек прадстаўляецца нам няпоўны, няма тутака інтэлекту, прынамся таго інтэлекту, што да ўсяго крытычна прыглядаецца. Незалежна ад гэнае аднабокасьці такога акту, імпровізацыя мае значэньне ня толькі суб'ектыўнае для адзінкі. Гэная апошняя ў такіх нагодах у спосаб, хаця яно на здаровы розум можа і незразумела, будзе ўцелаішчэньнем дадзенае групы, грамады, народу. У такіх імправізаваных актах зьмест пачатна бывае незразумелы, ня бачым у ім лёгікі і толькі далейшае жыцьцё паказывае, што сапраўды тварэц быў *вяшчуном*. Паэзія і творства кожнага народу дае ў розных галінах прыкладаў бяз ліку. Нашая беларуская літаратура ня розьніцца ад іншых. Дык мерыць тварца ня можна ягонаю вопраткаю, формамі хатняга жыцьця, на'т стойкасьцю ягоных паглядаў нацыянальных ці іншых. Вартасьць ягоных імпровізацыяў ляжыць зусім у іншых плошчах!..

Аб гэтым усім ведама было і да эры Фрэуда. Дзякуючы аднак яму, мы навучыліся разумець і ацэніваць, чаму імпровізацыі маюць гэткае значэньне грамадзкае і індывідуальнае. Тутака, як ня трэба лепш, наглядаем, што якга пры ацэне кожнага зьявішча найтрудней бывае знайсьці цэнтральны пункт, а знайшоўшы яго — ўсё ўжо робіцца ясным.

*(Працяг на стар. 12.)*

# ПСЫХОАНАЛІЗА І ПРАБЛЕМЫ — ЛІТАРАТУРНЫЯ І ГРАМАДЗКІЯ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 11.)*

Артыст нездаволены з сапраўднасьці, адчувае ў сабе ўнутраны непакой, шукае палёгкі ў іншай плошчы. Ён, паводле Фрэуда, адварочываецца ад рэчаіснасьці, сусярэджывае свае зацікаўленьні на *libido,* на летуценьнях. Гэны адхіл ад сапраўднасьці, гэны аўтызм, як кажуць псыхіятры, можа давясьці да хваробы. Прысутнасьць аднак таленту дае пэрлы літаратурныя, як і агулам мастацкія. Толькі ў насьвятленьні псыхоаналітычнае тэорыі можам уявіць творства ў ягоных асновах і аднačасна розныя праявы творства розных народаў, расаў. Разумеем, чаму Дантэ і Боккачыо тварылі пад цёплым паўдзённым небам, чаму нашая паэзія нашаніўская была іншаю, чымся паэзія пролетарская сучасных савецкіх пісьменьнікаў, ці на'т нашых тутака маладых паэтаў. Розная асноведзь жыцьця імпульсыўнага дае нам адказ паясьняючы ў сумлівах з плошчы літаратурнае.

Фрэудызм заўсёды стаяў блізка практыкі жыцьцёвае. Не прайшоў ён моўчкі і над праблемамі *грамадзкімі*. Формы жыцьця грамадзкага, разьвіцьцё гэных формаў мо лепш, як пры ўсіх іншых паясьненьнях, робяцца зразумелымі ў Фрэуда. Існуе вельмі блізкая аналёгія паміж суадносінамі сяброў і розных грамадаў у грамадзянствах з найдаўнейшых эпохаў, а тым, што бачым у снах, у хворых псыхічна і ў дзяцей. І хаця сказ гэны гучыць быццам фальшыва для вуха — практыка жыцьцёвая, досьледы над аналізаю сонных мрыяў, практыка са штодзённага наглядданьня за хворымі і дзяцьмі дае нам магчымасьць уявіць тыя шляхі, прынамся ў аснаўных нарысах, якімі йшло чалавецтва ў сваіх дасюлешніх падзеях.

Дзеля ілюстрацыі пакажу хаця-б на такі мамэнт, як адмова ад прынцыпу роскашы і ўмеласьць адмовіцца ад роскашы мамэнтальнае на карысьць тае-ж роскашы собскае, толькі зьдзейсьненае ў пазьнейшую пару, адным словам тое, што завецце ў Фрэуда змаганьнем паміж *Lustprinzip* і *Realitätprinzip*. Колькі трагэдыяў, колькі няшчасьцяў можам наглядаць якга ў гэную пару, найчасьцей у пару дасьпяваньня псыхічнага і фізычнага адзінак! Вузкія, эгоістычныя адносіны маладое адзінкі да ясяродзішча, ня гледзячы на спадумны ідэалізм гэнае пары ў жыцьці даводзяць да пратэстаў, рэвалюцыяў, вострых канфліктаў у адносінах да бацькоў, хаты, сяброў, грамадзянства. Яшчэ больш трагічна прадстаўляецца гэнае разьвязаньне ўзаемаадносінаў абодвых прынцыпаў у плошчы сужыцьця грамадаў, пляменьняў, народаў. Сяньняшняя заблытанасьць палітычных адносінаў у міжнародным маштабе, права "малых" і "вялікіх", як ня трэ лепш паказвае, як вельмі цяжка знайсьці тую залатую сярэдзіну, дзе добра было-б і мне і майму суседу.

Кампляекс Эдыпа, які ў культурных грамадзянствах лёгка ліквідуецца і пры належных умовах робіцца магутным жаралом потэнцыяльных магчымасьцяў адзінкі, гэны кампляекс у больш прымітыўных формах суадносінаў быў прычынаю забойстваў, сьмерці бацькоў, старшых родаў, начальнікаў пляменьняў. Гэны-ж кампляекс на'т на вышэйшым роўні разьвіцьця праходзячы цераз перыяд Totem і Tabu грамадзянстваў прымітыўных будзе крыніцаю нашае моралі, этыкі.

Псыхоаналіза ня толькі ў адносінах да гісторыі цывілізацыі паясьняе пяройдзеныя ўжо шляхі. Можам у ёй знайсьці паясьненьні адносна падзеяў гістарычных, ці нат тых, якія наглядаем сваімі собскімі вачыма. У насьвятленьні псыхоаналізы штораз меншая колькасьць таёмных загадак, зьявішчаў, непавязаных у адну цэласьць. Бязумоўна, што падзеі чалавецкія не прызнаюць ніякіх пераскокаў. Усё тутака аднолькава з жыцьцём паасобнае адзінкі ляжыць у рамах лёгікі. Магчыма, што мы толькі ў дадзены мамэнт ня бачым законаў гэнае лёгікі. У гэнай плошчы ўплыў продкаў дзеіць на нас, быццам сьвятло тых зорак, якія даўно ўжо пагасьлі, хаця сьвятло іх і сяньня мы бачым. Чым паясьняецца факт, што бачу лепшае, а раблю горшае (video meliora, deteriora sequor). Дзе прычына, што павадыры грамадзянстваў паказываюць на мэты прыгожыя, аднačасна паказываючы і на шляхі, якія да іх вядуць, з другое стараны і некаторыя слаі грамадзянства выказываюць шчырую ахвоту да зьдзейсьненьня паказаных мэтаў, а ня гледзячы на гэныя ўсе ўмовы самое зьдзейсьненьне астаецца пустым гукам?!

І толькі помнячы, што ў абедзьвюх сытуацыях побач з мэтамі сьвядомымі рэалізуем аднačасна і тыя, над якімі няма ніякае кантролі, якіх нат прысутнасьці не падазраваем, дзеля таго, што разыгрываецца ўсё змаганьне ў плошчы нясьведамасьці, лёгка разумеем разыходжаньні паміж ідэалам і сапраўднасьцю.

**Перадрук (са скарачэньнямі) з часопіса "Калосьсе", 1936г., кніжка 3.**






ЗЕМЛЯКІ

# РАДЗІМА Ў НАС АДНА



Кожны раз, як збіраюся ў Мір, Карэлічы ці Наваградак, пачынаю хваляваціа, нібы кожная сустрэча з землякамі — выпрабаванне для душы. Сёлета бывала там не раз. Вось і нядаўна запрасілі на "Другія карэліцкія краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 600-годдзю Міра і Карэліч, 50-годдзю вызвалення раёна". Памятаю, летась колькі разоў прыязджаў у Мінск, каб арганізаваць першыя чытанні, намеснік старшыні райвыканкама Аляксандр Іосіфавіч Самец — і вось на вачах гэта ўжо становіцца традыцыяй.

... Дамовіліся сустрэцца каля культурна-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны — і каторы раз можна пераканацца, як выдатна арганізоўвае ўсё дырэктар Цэнтра, знакаміты беларускі вучоны Адам Мальдзіс: машыны чакаюць, удзельнікі збіраюцца вельмі актыўна, і сярод іх у асноўным "нашы" — Янка Запруднік, доктар філасофіі з ЗША, Янка Брыль, народны пісьменнік, Дзмітрый Бубноўскі, старшыня Дзяржаўнай інспекцыі па ахове культурна-гістарычнай спадчыны, пісьменнік Уладзімір Навумовіч — усе з Карэліччыны. А тыя, хто не землякі, таксама шмат робяць для нашай зямлі: напрыклад, Лідзія Савік, якая напісала кнігу "Вяртанне" пра доктара астранаўтыкі, прафесара Барыса Кіта, што таксама нарадзіўся на Карэліччыне, ці Ірына Багдановіч, якая едзе з дакладам пра ўраджэнца вёскі Скорычы паэта Алеся Мілюця, альбо Кастусь Цвірка, тэма выступлення якога "Ян Чачот, паэт, фальклярыст. Яго карэліцкія карэнні", ці Сцяпан Лаўшук, кандыдат філалагічных навук, што падрыхтаваў даклад пра братоў Ільінскіх, "міран родам". Так, багата што можна гаварыць пра зямлю Карэліччыны, асабліва пра яе пярэлку (жамчужыну) — Замак.

**Можна верыць ці не верыць астролагам**, але, паколькі далёкі, трохгадовай даўнасці прагноз Паўла Глобы наконт лідэра, пакуль нікому не вядомага, які прыйдзе ў 1994 годзе, калі яму не будзе яшчэ і сарака, нечакана і неспадзявана для ўсіх нас спраўдзіўся, з тым большай цікавасцю можна нагадаць тое, аб чым піша Вераніка Кудраўцава ў кнізе "Вястун Пераўвасаблення" і артыкуле "Мірскі замак. Якія неразгаданыя тайны хаваюць яго сцены?" ("Звязда" ад 1.07.94). А піша яна сапраўды сенсацыйныя рэчы.

На думку астролагаў, Мірскі замак і Белавежская пушча — дзве найбольш значныя мясціны Беларусі, якія маюць для яе лёсавызначальнае значэнне. Мірскі замак, закладзены ў час, калі Сонца знаходзілася ў знаку Скарпіёна, адчуў на сабе шмат разбуральных кампаній, але дашчэнту так і не быў разбураны. Аднаўленне яго заўсёды супадала з пачаткам новых войнаў, і ёсць, на думку В.Кудраўцавай, заканамернасць: "Дасягне Мірскі замак свайго новага росквіту — прыйдзе да вяршынь і ўвесь беларускі народ. Для Беларусі ён з'яўляецца кармічным індыкатарам пазітыўных змен, быццам бы анёлам-ахоўнікам усяго беларускага этнасу".

Што да мяне, то найбольш усхвалявалі думкі астролага пра род Ільінічаў, заснавальнікаў замка, — род, які абраў не шлях служэння свайму народу, а пагоню за выгодамі, дзеля якіх трэба было адцурацца сваіх каранёў, і за гэта быў жорстка пакараны: у рэшце рэшт, апошні з роду Ільінічаў памёр бяздзетным, і замак адышоў да чужога роду, так і не прынёсшы славы сваім уладарам... Ёсць пра што задумацца сучасным носьбітам улады — ці не пакарае і іх лёс за іншыя, не звязаныя з незалежнасцю Беларусі шляхі?!

(Праўда, тыя, хто прыехаў на "Карэліцкія чытанні", могуць гэтага не баяцца — усё, што яны робяць, ідзе на карысць роднай зямлі. Таму і сустракаюць іх тут вельмі сардэчна, з павагай.)

**Янка Брыль** быў адразу ж абкружаны натоўпам; Яўген Крамко, мясцовы краязнавец, даўні сябра Брыля, абняў яго і загаварыў пра тое, з чым збіраўся выступаць. Тэма яго выступлення —"Патрыятычнае падполле і яго роля ў развіцці партызанскага руху на Міршчыне ў 1941-1942гг.". Стараюся паслухаць Яўгена Крамко — мае ж і бацька, і маці былі ўдзельнікамі гэтага самага і падполля, і партызанскага руху тут, у раёне. Гэта тут мая мама ў бальніцы ратавала ад смерці маладзенькую яўрэйку, дапамагала ёй пры родах, пра што ў адной з навэл напісаў народны пісьменнік, якому я абавязана ў жыцці многім, а ў літаратуры яшчэ большым, які разам з маімі бацькамі партызаніў... Тэма "Чытанняў" закранае 50-годдзе вызвалення Беларусі, і, пачаўшы ў выступленні пра трывалыя літаратурныя і краязнаўчыя традыцыі раёна, пра тое, што колішнія кнігалюбы хадзілі некалі па кніжкі за 10 кіламетраў, Янка Брыль нагадаў і свае партызанскія гады: "Хачу ўспомніць, як у партызанскі час у паўднёвай частцы Налібоцкай пушчы працавала аб'яднаная друкарня, якая выпускала ажно пяць газет. Неяк, дачуўшыся, што я пісаў, мяне, радавога разведчыка, паклікалі ў штаб і запыталіся: "А дзе тое, што ты пісаў?" І я паехаў у вёску да маці і адкапаў у гумне свае рукапісы. Тады штабной машыністцы даручылі іх перадрукаваць (а тады з паперай былі вялікія цяжкасці), а пасля самалётам адправілі на Вялікую Зямлю з вельмі кароткім "чэхаўскім" подпісам — "Масква, Максіму Танку". Хачу гэтым сказаць, што ў наш час, калі спрабуюць абылгаць многае з таго, што было, — наш патрыятызм, наша змаганне з ворагамі — у тых суровых умовах, знаходзіліся людзі, магчымасці, а галоўнае — жаданне аберагаць наша Слова і несці яго ў масы".

**Янка Запруднік**, адчувалася, быў вельмі ўсхваляваны.

Мы толькі што праехалі па вуліцах Міра, ён паказаў хату на вуліцы Завальнай, дзе нарадзіўся, і расказваў пра кожны дом, успамінаючы яго адметнасці і звязанасць з лёсам таго ці іншага са сваякоў. А выехаўшы з Міра, мы ўбачылі адзінокую жанчыну, што стаяла на прыпынку і чакала транспарту. Янка Запруднік пазнаў у ёй стрыечную сястру Ліду, мы паціснуліся ў машыне і да самых Карэліч узгадвалі агульных знаёмых. Яна таксама ўспомніла маю маці, і ўспамін адгукнуўся болем — я нічога не памятала пра яе, памерлую ў мае чатыры гады...

Пытанняў пасля выступлення Янкі Запрудніка было шмат. А ён гаварыў пра выпакутаванае жыццём: "Я вельмі рады, што дачакаўся часу, калі з усіх чужых дарог, блізкіх і далёкіх, можна сыходзіцца і гаварыць пра нашу дарагую Беларусь. Рыхтуючыся ў Нью-Ёрку ехаць сюды, я зрабіў вось гэты жэтончык, дзе стаяць лічбы "1944 — 94". А слова тут толькі адно, але яно вяло мяне і маіх сяброў 50 гадоў па дарогах чужыны. Гэтае слова — Беларусь. А цяпер мы можам прыязджаць сюды і раіцца, як нам жыць далей.

Беларусіяда мае шмат раздзелаў. Пра адзін з іх гаварыў паважаны Янка Брыль. Я вам раскажу пра другі.

Шлях мой на чужыне пачаўся, калі мне было 18. І ўжо тады я быў злачынцам у вачах рэжыму. Па-першае, таму, што быў сынам кулака. Па-другое, вучыўся ў сярэдняй школе, а вучыцца было забаронена партызанамі. Трэцяе — я быў у Саюзе Беларускай Моладзі..."

Пра лёс юнака, чыя дарога на Радзіму заняла 50 гадоў, мы працягнем аповед у спецыяльным матэрыяле, але слухаючы пасля, як расказвае наш зямляк пра тое, якім быў Мір у часы ягонага дзяцінства, як выглядала школа ля замка, думалася пра тое, што, дзякуй Богу, заканчваецца процістаянне беларусаў, якія аднолькава любілі Бацькаўшчыну, але служэнне ёй бачылі па-рознаму і што зямля, па якой мы ходзім і якую любім, адна...



*Удзельнікі "Другіх карэліцкіх чытанняў" ля замка.*

**Дзмітрый Бубноўскі** выступаў таксама цікава. Але яго трэба бачыць тады, калі ён ходзіць па Мірскім замку і расказвае гісторыю збудавання. Адчуваецца, што ён ведае тут кожную цаглінку, што ўсё тут сотні разоў перамерана, прыкінута ў бяссонныя ночы, як і што трэба рабіць, каб аднавіць гэты сапраўдны шэдэўр беларускага дойлідства. Мне давялося прыехаць сюды і пазней, калі яму ўручалі дыплом — узнагароду за праект рэстаўрацыі і кансервацыі Мірскага замка. Генеральны сакратар міжнароднай арганізацыі "Еўропа Нострa", шатландзец Лестэр Борлей, падобны да герояў раманаў Вальтэра Скота, са шчырым захапленнем ацэньваў працу аўтара праекту, аднак мяне не пакідала адчуванне, што, і прымаючы ўзнагароду, і адказваючы на віншаванні, сам Бубноўскі ўсё думае аб працы, сам нібыта стаўшы часткай жывой істоты чароўнага замка з яго таямнічай сімволікай. Ён паказваў гасцям галаву каменнага барана, замураваную ў паўднёвай, найбольш важнай сцяне. Згодна з паданнямі, пакуль існуе гэтая галава, што сімвалізуе эпоху Авена, датуль будзе стаяць і замак. І, як піша В.Кудраўцава, "многія паказчыкі гараскопа пацвярджаюць інтуітыўную здагадку аўтара праекта і навуковага кіраўніка рэстаўрацыі Мірскага замка Дзмітрыя Бубноўскага: нейкія перамены ў знешнім абліччы замка, яго пераўладкаванне цягнулі за сабой перамены ў сацыяльным жыцці Беларусі". Што ж, мы і сапраўды змагліся дачакаць змен у нашым жыцці... Замак адраджаць цяжка, і гаспадары раёна — Ян Альфяровіч і Аляксандр Самец — шукаюць усе магчымасці, каб прыцягнуць да супрацоўніцтва ўсіх, хто можа дапамагчы і ўкласці свае намаганні ў інфраструктуру Міра.

**Уладзімір Навумовіч** запрасіў на "Чытанні" ансамбль "Тутэйшая шляхта", дзе салісткаю выступае ягоная жонка Людміла. І знаёмства з таленавітымі выкладчыкамі нашага БДУ, якія арганізавалі спеўны гурт, стала таксама падзеяй. Песні Карэліччыны, з іх моўнай і песеннай самабытнасцю, песні нашых суседзяў — палякаў, украінцаў, расіян — адна за адной нескончонай плынню гучалі і падчас канцэрта, і па дарозе ў Мінск. Памятаючы Уладзіміра яшчэ са студэнцкіх гадоў, шчыра радуюся ягонай вялікай працы па прапагандзе беларускай літаратуры. Сам пісьменнік, ён працуе цяпер загадчыкам кафедры беларусазнаўства БДУ; з Людай жа, аказваецца, яны вучыліся ў адной школе тут, на Карэліччыне.

... Калі ў Карэліцкай музычнай школе гучаў у выкананні спеўнага гурта духоўны гімн "Магутны Божа", усе ўзняліся. Цудоўны голас салісткі, здаецца, сягаў далёка за дах былога райкамаўскага будынка, дзе лунае бел-чырвона-белы сцяг. Добра, што сцяг гэты ўзняўся тут значна раней, чым у іншых раёнах Беларусі, што гаспадары горада і раёна дбаюць пра культуру народа і рабілі гэта ва ўсе часы, захоўваючы нязломны дух нацыянальнага, які найбольш моцны, на маю думку, на Гродзеншчыне і Брэстчыне.

... У адзін з маіх мінулых прыездаў Аляксандр Самец завёў нас з Лідзіяй Савік у кабінет і ўключыў магнітафон з голасам яшчэ аднаго земляка — Пятра Конюха. І той таксама паехаў з радзімы, ратуючыся ад рэжыму, для якога ён быў чужым. І ён таксама вяртаецца да ўсіх нас як неад'емная частка зямлі, што яго нарадзіла.

Так, радзіма ў нас адна, і да яе вытокаў трэба прыпадаць часцей, каб захаваць у сабе душу і сэрца...

**Вольга ІПАТАВА**



*Генеральны сакратар міжнароднай арганізацыі "Еўропа Ностра" Лестэр Борлей уручае дыплом Дзмітрыю Бубноўскаму.*

Фота Я.КАЗЮЛІ

КАНТРАМАРКА

# АЛЬТЭРНАТЫВЫ АЛЬТЭРНАТЫЎНАГА ТЭАТРА

Калі ў 1990 годзе Вітаўтас Грыгалюнас абвясціў аб стварэнні Альтэрнатыўнага тэатра, шмат у каго, у тым ліку і ў мяне, гэта выклікала насцярожаныя адносіны. У тую пару толькі і гаварылася, што пра крызіс тэатра, пра заняпад сцэнічнага мастацтва. І вось на фоне ўсеагульнай "тэатральнай" роспачы В.Грыгалюнас арганізуе новы калектыў, ды яшчэ ягонае творчае крэда вызначае праз такое навамоднае слова, як "альтэрнатыва".

Нагадайма, колькі прыгожых слоў, салодкіх абяцанняў, гучных дэкларацый мы ўжо наслухаліся ды чуем штодня. Зведаўшы ім сапраўдную цану, прызвычаіліся, як да бурбалак на вадзе. В.Грыгалюнас іх аспрэчыў. Сёння, хоць і знаходжу апраўданне сваёй насцярожанасці, мушу прызнацца, што памылялася. Памылялася ў прынцыпе.

Пасля першай прэм'еры — "Кароль памірае" Эжэна Іанэска — мастацкі кіраўнік тэатра заявіў праграмныя ўстаноўкі, згодна з якімі, Альтэрнатыўны — гэта "тэатр пошукаў і эксперыментаў", са сваёй адметнай мастацкай мовай, "пры адсутнасці якіх-небудзь стэрэатыпаў формы". Наступныя пастаноўкі паводле Г.Пінтара і С.Бекета, Ж.Ануя і С.Мрожака, Ф.Аляхновіча і К.Марашэўскага, М.Гумілёва, Б.Брэхта і Д.Байрана замацавалі абраны напрамак. Словы і дзеянні не разышліся, бо за імі стаіць Асоба.

Альтэрнатыўнасць тэатра выяўляецца найперш у самім характары яго існавання: гэта першы недзяржаўны тэатр. Работа калектыву поўнасцю фінансуецца фундатарамі і мецэнатамі. Тэатр функцыянуе ў жорсткіх камерцыйных умовах, але не гандлюе мастацтвам. Афіша Альтэрнатыўнага тэатра не разлічана на камерцыйны эфект. Самаадданасць, з якой не проста выжывае, а жыве трупа В.Грыгалюнаса, не можа не прыцягваць па-сапраўднаму дзелавых людзей. У сваю чаргу, з боку тэатра выяўляецца зацікаўленасць у духоўных сувязях з тымі, хто яго падтрымлівае. На гэтым грунце і стала магчымым утварэнне такіх своеасаблівых форм сумеснай дзейнасці, як "Клас-клуб", "Элітарны начны маладзёжны клуб", "Рок-абанемент у Альтэрнатыўным", "Вечары аўтарскай песні і паэзіі". Гэткім чынам дачыненні да мастацтва, культуры тых, хто наведвае ўтульную залу Альтэрнатыўнага, істотна пашыраюцца. Нібы адмысловы компас, тэатр мэтанакіравана вядзе сваіх прыхільнікаў да ўспрымання і разумення агульначалавечых каштоўнасцяў.

Альтэрнатывай можна лічыць на сённяшні дзень і тыя адносіны да публікі, якія спавядае Альтэрнатыўны тэатр ад самага пачатку. Такой павагі да свайго гледача, такога жадання стварыць для яго ўсе ўмовы для ўспрымання Прыгожага, бадай што, увогуле не сустрэнеш ні ў адным з мінскіх тэатраў. Магчыма, толькі на "Вольнай сцэне", дзе час ад часу таксама спрабуюць пашырыць кантакты з наведвальнікамі. Спектакль у Альтэрнатыўным — гэта яшчэ амаль заўсёды і прагляд новых карцін, і слуханне "жывой" музыкі. Наведванне тэатра тут імкнуцца ператварыць у падзею для чалавека. Усё канцэнтруецца на тым, каб глядач зразумеў мастацкую мову, на якой размаўляе калектыў. І рэакцыя ў адказ не прымушае сябе доўга чакаць. Кола гледачоў увесь час пашыраецца.

Але найперш альтэрнатывы выяўляюцца ў рэпертуары. Насуперак агульнай скіраванасці сучасных тэатраў на каштоўнасці масавага спажывання, спектаклі Альтэрнатыўнага звернуты да гледача, які здольны самастойна думаць, асэнсоўваць уласны вопыт і суадносіць яго з мастацкім творам. Арыентацыя на драматургію, успрыманне якой патрабуе ад гледача немалога ўнутранага намагання, ніяк не гарантуе касавага поспеху. Але ў ёй ёсць гарантыя вышэйшага — праўдзівага ўзаемапаразумення з глядзельнай залай. І гэтай асаблівай атмасферай поўніцца кожны спектакль Альтэрнатыўнага. Пры тым, што ўсе яны вельмі розныя як па змесце, так і па характары ўвасаблення. Не можа не захапляць жанравая шматстайнасць спектакляў. Варта згадаць некаторыя: "Кароль памірае" Б.Брэхта — прадстаўленне ў стылі мюзікл, "Каін" Д.Байрана — містэрыя, "Agnus Dei" — паэтычная прыпавесць у 12-ці псалмах паводле п'есы М.Гумілёва "Гондла". Усе гэтыя азначэнні дакладна адпавядаюць правілам гульні, якія абірае тэатр для папулярных твораў. Мастацкі вынік можа быць розным, але своеасаблівасць мовы кожнай пастаноўкі выяўляецца з усёй пэўнасцю.

Спектакль "Кароль памірае", якім адкрыўся Альтэрнатыўны, справядліва будзе назваць мастакоўскім маніфестам В.Грыгалюнаса і ягонага тэатра. Прычым маніфестам і па дзень сягонняшні дзеяздольным. Пастаноўка захоўвае магічную энергетыку мастацтва пераўвасаблення. Нават больш, яна ўзбагачаецца штораз усё новымі фарбамі і адценнямі. Унутранай напоўненасцю выканання "Кароль памірае" стаіць упоравень з прэм'ерамі гэтага сезона — "Каін" і "Апошняя лента Крэпа" С.Бекета. Нават у гэтым я бачу якаснае адрозненне ад іншых тэатраў, дзе звычайна ўжо пасля пяці-шасці паказаў узнікае праблема захавання першапачатковага стану спектакля.

Альтэрнатывай Альтэрнатыўнага тэатра ўяўляецца сёння і тое, што менавіта тут, на ягонай сцэне, за чатыры сезоны раскрылася шмат яркіх акцёрскіх індывідуальнасцяў. Тое, што павінна быць правілам, становіцца радасным выключэннем з яго. З першай работы — ролі караля Беранжэ І ("Кароль памірае") — прыцягвае да сябе ўвагу Ігар Забара. Далей майстэрства акцёра шматаблічна выявілася ў вобразах Чорта ("Камедыя..." паводле Ф.Аляхновіча і К.Марашэўскага) і Мэкі-Нажа ("Трохграшовая опера" Б.Брэхта). Непаўторную мастацкую рэальнасць здольныя стварыць, здаецца, на любым матэрыяле Анатоль Голуб, Яўген Жураўкін і Артур Шуляк, нядаўнія выпускнікі Акадэміі мастацтваў. А толькі што завершаны сезон пэўным чынам аказваецца пад уплывам самабытнага таленту вопытнага артыста Алега Корчыкава, якога так непрадбачліва "не бачылі" ў Рускім тэатры. Створаныя ім характары Люцыпара ("Каін") і Крэпа — яскравыя, завершаныя мастацкія вобразы.

Яшчэ шмат "альтэрнатыўнасцяў" можна знайсці ў тэатры В.Грыгалюнаса. І ўсе яны існуюць толькі таму, што калектыў мае сваё творчае крэда, сваю асэнсаваную адметнасць. Але ці лёгка "альтэрнатывы" даюцца, можна толькі здагадвацца...

**Ала САВІЦКАЯ**



# СВЕТ, ШТО СТВАРЫЛА АКТРЫСА

Спускаемся ў цесны падвальчык на вуліцы Леніна, 6. Глыбей, яшчэ глыбей вядуць прыступкі. У цесным памяшканні невялічкая сцэна. Сёння тут спектакль-прэм'ера "Ціха на небе, зямлі і на сэрцы..." (рэжысёр Ул.Савіцкі, касцюмы Н.Багдановіч) паводле драматычнай паэмы А.С.Пушкіна "Русалка". Галоўны і адзіны выканаўца — актрыса Галіна Дзягілева.

У яе няма гучных тытулаў. Яна не з "генералаў" беларускай сцэны. Хутчэй — радавы, калі ўжываць ваенную тэрміналогію. А напрошваецца гэтая тэрміналогія таму, што існаванне беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зьніч" — суцэльнае змаганне. Змаганне за само існаванне тэатра. За гледача, якому так неабходны сёння свежы глыток сапраўднага мастацтва. За беларускую ідэю, якая была столькі дзесяцігоддзяў (а дакладней стагоддзяў) занядбанаю і таму патрабуе сёння гарачага сэрца і вялікіх душэўных намаганняў.

Актрысу Галіну Дзягілеву можна заўсёды сустрэць на тых імпрэзах, якія ладзяць сапраўдныя патрыёты Бацькаўшчыны. Яе натхнёнае слова нясе Паэзію, чые крылы сёння заляпваюць брудам абыдзенасці. Яна сапраўдны грамадскі сучасны дзеяч, які робіць для Беларусі ўсё, што ў яго сілах, у той час, калі многія творцы сёння спрабуюць схавацца ў "вежах са слановай косці".

І калі бачыш на сцэне жанчыну, чые рукі, як крылы, уздымаюцца насустрач Каханню і падаюць, як у падстрэленай птушкі, калі каханы здраджвае ёй, калі чуеш чароўнае слова А.Пушкіна ў выдатным перакладзе Р.Барадуліна, адчуваеш, што ў цябе сягоння свята. Спектакль атрымаўся, ён хвалюе. Але за вобразам Русалкі ты бачыш і іншыя вобразы, створаныя Галінай Дзягілевай: гаротнай Гарыславы-Рагнеды з п'есы "Выгнанне ў рай" В.Тарнаўскайтэ, найперш жа — выдатнай беларускай паэткі Л.Геніюш з п'есы "Белы сон" (рэжысёр В.Клебановіч). Яны ўсе розныя, гэтыя вобразы, але яднае іх высокая духоўнасць, жаночая апантанасць ідэяй і служэнне Радзіме. Яны накладваюцца на аблічча самой актрысы — а можа, гэта актрыса, ствараючы іх, уздымаецца душою?

Раім вам — вылерыце час. Спусціцеся ў цесны падвальчык і, не слухаючы нейкіх крыкаў, якія чамусьці даносяцца зверху, аддайцеся свету, што стварае чароўная актрыса, да якой, мы верым, яшчэ прыйдуць усялякія званні, — свету Галіны Дзягілевай.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

Фота Г. ЖЫНКОВА



# ВЯРТАННЕ "ПАГОНІ"

Калі знікае з твару зямлі дзяржава, яе герб і сцяг яшчэ доўга нагадваюць людзям аб тым, што краіна існавала... Нам у спадчыну перайшлі прыгожыя і слаўныя сімвалы продкаў. Але, калі ў 1919 годзе беларусы аднаўлялі сваю дзяржаўнасць, пра іх нібыта забыліся. Прычым свядома. Пасля (ажно праз 72 гады) нарэшце ўспомнілі. І адразу засумняваліся: а ці правільна зрабілі, што аднавілі і ўзаконілі старадаўнюю нацыянальную сімволіку. Многія прыхільнікі былога ладу ўсур'ёз гавораць аб тым, што трэба вярнуць краіне сімвалы савецкага часу. Нядаўна наогул узнікла задума рэферэндуму наконт лёсу бел-чырвона-белага сцяга і "Пагоні".

Толькі ці можна зараз такое дапусціць? Бо гэтыя сімвалы былі з народам на працягу стагоддзяў. Выстава "Святло таямнічай сімволікі", што нядаўна ўбачыла свет у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры, даводзіць гэта яшчэ раз. Даводзіць доказна, абапіраючыся на матэрыялы раскопак, дакументы, кнігі, гравюры...

Выстава размешчана ў дзвюх залах. Першая зала на археалагічных і этнаграфічных матэрыялах распавядае пра вытокі старажытнай сімволікі. Семантычныя знакі многае могуць расказаць дапытліваму чалавеку. У іх закладзены эстэтычны густ народа, яго этнічная памяць. На прасілках, фрагментах глінянага посуду бачныя так званыя салярныя знакі (у выглядзе кола, крыжа, зоркі) — сімвалы сонца і жыцця.

На выставе можна ўбачыць і невялікія свістулькі, амулеты ў выглядзе каня. Гэта жывёла ў абрадах нашых продкаў была звязана таксама з сонцам. Бог сонца Ярыла быў у беларусаў адным з самых паважаных паганскіх багоў. Нашы продкі бачылі яго ў белым адзенні і на белым кані. Гэта выява магла стаць прататыпам вершніка "Пагоні". На выставе экспануюцца элементы Заслаўскай і Мсціслаўскай кафлі з малюнкам белага конніка.

"Пагоня" як дзяржаўны герб нарадзілася разам з Вялікім княствам Літоўскім — краінай, сімвалам якой была ўвесь далейшы час. Ужо князь Віцень (1293 — 1316) "измысли себе герб", які "наричут ныне "Пагоня". Так сцвярджае Густынскі летапіс. Пасля гэтага выявы "Пагоні" можна ўбачыць на грошах, дакументах, гербах магнатаў, харугвах...

На экспазіцыі выстаўлена таксама выданне Марціна Бельскага "Хроніка ўсяго свету" (1551). На гравюрах гэтай кнігі, прысвечаных бітвам на нашай зямлі, відаць бел-чырвона-белыя штандары. Праўда, у чорна-белым выкананні, але няма сумненняў, што замест чорнага колеру павінен быць чырвоны.

Першая графічная выява нашага сцяга — на карціне мастака XVI стагоддзя "Бітва пад Воршай. 1514г.". Рэпрадукцыя-фрагмент яе знаходзіцца на выставе (само палатно — ў Варшаве).

Гарады Паўднёва-Усходняй часткі краіны (Магілёў, Чавусы) пасля атрымання Магдэбургскага права сваім сімвалам абралі "Пагоню". Дэталі адрозніваліся ад галоўнага герба, але ідэя заставалася такой жа — узброены рыцар на кані. Калі Літва і Польшча аб'ядналіся ў Рэч Паспалітую, яны аб'ядналі і гербы. На дакументах XVII — XVIII стагоддзяў вершнік у белым усюды суседнічае з польскім арлом.

Пасля далучэння часткі дзяржавы да Расіі абавязковай умовай для гербаў гарадоў стала выява ў верхняй частцы двухгаловага арла. "Пагоню" адсунулі ўніз. А потым яна зусім знікла.

Пазней нашым сімвалам было суджана перажыць два кароткіх адраджэнні: у час паўстання пад кіраўніцтвам Каліноўскага і ў 1918 годзе, калі спрабавалі стварыць БНР. А пасля зноў забыццё... Да верасня 1991 года. Толькі на эмігранцкіх выданнях сімвалы Беларусі займалі пачэснае месца. Нельга дапусціць замаху на старажытную — і сённяшнюю — сімволіку! Бо сцяг і "Пагоня" — ад Бога. І яны павінны быць з намі заўсёдна.

**Алеся КЛІМОВІЧ**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ

## СЕРАДА, 27 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

9.05 "Ансамбль танца Рэспублікі Беларусь". Фільм-канцэрт.
9.45 "Першая гістарычная..." Да выхаду першага тома беларускай гістарычнай энцыклапедыі.
10.15 "Жыву і памятаю". Маналогі аб вайне.
11.10 Студыя "Тэлесябрына". З глыбіні вякоў.
12.00 "Край". Рабінзанада доктара Руселя (Мікалай Судзілоўскі).
12.30 Частка 1-я. Майстэрня.
12.50 "Край". Частка 2-я.
13.10 "Сад". Маст. фільм.
14.35 Канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі.
16.15 "Легенды Белай Вежы". Відэафільм.
17.25 "Пяць зорак". Тэлегульня.
18.25 III Міжнародны музычны фестываль "Славянскі базар-94". Канцэрт маладых артыстаў беларускай эстрады.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пяць хвілін на жарты.
21.40 Пад купалам Сусвету.
21.50 "Люстра вады". Дак. фільм.
22.00 Святочны канцэрт, прысвечаны Дню Незалежнасці.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
8.00 Расійскі дайджэст.
8.15 "Казка пра Камара Камаровіча". Мультфільм.
8.25 "Дзікая ружа".
8.55 Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
9.45 Дзелавы веснік.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.20 Навіны.
15.25 "Вайна гобатаў".
15.50 Дзённік дзіцячага кінафестывалю. Частка 3-я.
16.10 Адказы.
16.40 Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25 На Гульнях Добрай волі.
18.00 Гадзіна пік.
18.25 "Дзікая ружа".
18.50 Эксклюзіў.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Маналог.
20.55 Перадача, якую не ўбачыць аўтар. Ю. Нагібін.
21.15 "Бігс". Маст. фільм (Італія).
23.30 На Гульнях Добрай волі.
0.10 Бумеранг.
0.40 Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Добрай раніцы, Еўропа.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Ранішні канцэрт.
8.45 "Санта-Барбара".
9.35 Чароўны куфэрачак.
9.45 Тэлегазета.
9.50 "Пацалунак у дыяфрагму".
10.40 Сялянкае пытанне.
15.20 Студыя "Рост". "Чый бок?"
15.50 Там-там навіны.
16.05 Далёкі Усход.
16.50 На Гульнях Добрай волі. Гандбол. Мужчыны.
17.55 Футбол. "Спартак" (Масква) — КамАЗ. У перапынку — Весткі.
19.55 Падрабязнасці.
20.05 Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.10 "Санта-Барбара".
21.05 Фільм-прэм'ер.
21.20 Кур'ер Гульняў Добрай волі.
21.50 Ніхто не забыты.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Экран крымінальных паведамленняў.
22.40 Першынство сусветнай лігі па валейболу. Расія — Балгарыя.
23.40 На Гульнях Добрай волі. Бокс.

### Санкт-Пецярбург

11.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 Тэлемагазін.
12.15 "Прыгоды капітана Урунгеля".
12.25 "Нямецкая хваля".
12.55 "Чорны маклер". Фільм-спектакль серыі "Следства вядуць Знатакі".
14.45 "Незвычайныя прыгоды Карыка і Валі". 2-я серыя.
15.50 "Сустрэча з І. Андронікавым. Альбом Адоеўскага". Тэлефільм.
16.55 Гульні Добрай волі. Тхэквандо.
18.55 "Выратаваць і захаваць". Музычны фільм.
19.45 "Тэлемагазін". Спецвыпуск.
19.55 Гульні Добрай волі. Баскетбол. Мужчыны.
22.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
23.05 Ваш стыль.
23.10—23.23 Музычны момант.

### 8-ы канал

18.00 "Карусель".
18.35 СОЛТЭК. Навіны.
19.10 Паліцэйскі серыял "Хіл Стрыт Блюз" : "Дзядзькіна радня".
20.00 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультыплікацыйны фільм.
20.35 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.40 Класіка кінематографа. Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## ЧАЦВЕР, 28 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 "Мелодыі старога замка". Фільм-канцэрт.
8.50 Пяць хвілін на жарты.
8.55 "Еўрапейская акадэмія мастацтваў".
9.25 "Арт-клуб" прадстаўляе: "Маладзечанская сакавіка-94".
10.35 Відзьма-нявідзьма.
14.45 Вас выклікае Спартландыя.
16.05 Тэлемарафон "Крокі Перамогі". Трансляцыя з Брэста.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 "Еўропа сёння".
18.10 Абласныя навіны (Гродна).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Зачытайце маё пісьмо...
19.05 Дзелавая размова. Сустрэча з дырэктарам Гомельскага шклозавода імя Ламаносава П. У. Шыпуком.
19.35 Стоп-кадр. Крымінальная хроніка.
19.55 Роднае слова.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка
21.00 Панарама.
21.35 Пошукі ісціны.
22.55 Пад купалам Сусвету.
23.05 НІКа.
23.20 Надвор'е.
23.30 "Жанчына без забабонаў". Маст. фільм (Францыя). 3-я серыя.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
8.00 Агляд рынку нерухомасці.
8.15 Мультфільмы "Вампіры Геоны", "Гаспадары Геоны".
8.35 Лялька маёй мары.
9.05 У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
9.45 Прадпрымальнік.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны.
15.25 "Вайна гобатаў".
15.50 Мульцітролія.
16.10 ...Да 16 і старэйшым.
16.40 Планета. Боснія: ракавая карта.
17.25 Дакументы і лёсы.
17.40 Загадка СБ.
17.50, 20.30 Надвор'е.
17.55 Гульні Добрай волі. Тхэквандо. Лёгкая атлетыка. Баскетбол. Мужчыны. Фінал. Трыятлон. У перапынку (19.15) — Добрай ночы, малышы!
20.40 Масква-Крэмль.
21.00 Лато "Мільён".
21.30 Салют, Перамога! Песні над Бугам. Трансляцыя з крэпасці-героя г. Брэста.
23.15 Без паўзы.
23.45 Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 Музыка ўсіх пакаленняў.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Паехалі.
8.40 "Санта-Барбара".
9.30 Чароўны куфэрачак.
9.40 Тэлегазета.
9.45 Момант ісціны.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 Фестываль "Белыя ночы". Частка 2-я.
15.50 Там-там навіны.
16.05 Тэлемарафон "Крокі Перамогі". Трансляцыя з Брэста.
17.30 Панове-таварышы.
17.45 Свята кожны дзень.
17.55 У свеце аўта — і матаспорту.
18.25 Свая гульня.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 "Санта-Барбара".
20.30 Гутарка са старшынёй Дзярждумы І. П. Рыбкіным.
21.00 60 хвілін.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Экран крымінальных паведамленняў.
22.40 Кур'ер Гульняў Добрай волі.
23.10 На Гульнях Добрай волі. Бокс.

### Санкт-Пецярбург

11.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 Гульні Добрай волі. Баскетбол. Мужчыны. Лёгкая атлетыка.
14.40 "Тайна старога парку". Маст. фільм.
15.50 Іграе рускі народны аркестр імя В. Андрэева.
16.20 "Свет мастацтва". Пскоў.
16.50 Гульні Добрай волі. Тхэквандо. Баскетбол. Мужчыны.
20.15 "У старыя добрыя часы". Кінакамедыя.
21.35 Тэлемагазін.
22.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
23.05 Ваш стыль.
23.10—23.25 "Атланта. Радзіма М. Л. Кінга".

### 8-ы канал

18.00 "Карусель".
18.20 Тэлежурнал "Нямецкая хроніка".
18.40 "Вальтрон".
19.05 Тэлесерыял "Лабірынт правасуддзя": "Удар ніжэй пояса".
20.00 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультыплікацыйны фільм.
20.35 Тэлесерыял "Марэна Клара".
21.40 На экране кінакамедыя. Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мастацкі фільм.

## ПЯТНІЦА, 29 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Эканамікст.
8.20 Пад купалам Сусвету.
8.30 Надвор'е.
8.40 "Ліпеньскі антракт". Фільм-канцэрт.
9.10 Пяць хвілін на жарты.
9.15 "Пяць зорак". Тэлегульня.
10.15 "Край". Барбара Радзівіл.
10.45 "Россыпы гукаў і фарбаў". Да 10-годдзя народнага ансамбля "Церніца".
15.45 Існасць. На Міжнародным фестывалі духоўнай музыкі. Перадача 6-я.
16.15 "У тумане". Тэлеспектакль паводле аповесці Васіля Быкава.
17.05 Для школьнікаў. Пошук. Вахта памяці ў Віцебскай вобласці.
17.30 Навіны (з сурдаперакладам).
17.40 "Пра Ксюшу і камп'юшу". Мультфільм.
18.00 Эканамікст.
18.10 Абласныя навіны (Магілёў).
18.25 Навіны Бі-бі-сі.
19.00 Полк ідзе на Усход. Вывад з Беларусі расійскага палка дальняй авіяцыі.
19.35 Гаспадар. Калгас імя Тэльмана Слуцкага раёна.
20.10 Студыя "Тэлесябрына". Падарункі на добры настрой.
20.25 Пяць хвілін на жарты.
20.30 Кантакт.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 "Па галоўнай вуліцы з аркестрам". Маст. фільм.
23.10 Пад купалам Сусвету.
23.20 НІКа.
23.35 Надвор'е.
23.45 "Жанчына без забабонаў". Маст. фільм. 4-я серыя.

### Канал "Астанкіна"

5.30 Раніца.
8.00 Новы старт.
8.15 Сарока.
8.35 Агарод круглы год.
9.05 Сёмае неба. Вядучы В. Балашоў.
9.45 Бізнес-клас.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00 Навіны.
15.25 "Прыгоды Бураціна". 2-я серыя.
16.35 Рэспубліка ў цэнтры Азіі.
17.25 Век алімпійскі.
17.55 Чалавек і закон.
18.25, 20.35 Надвор'е.
18.30 Рэха тыдня.
18.50 Поле цудаў.
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.45 Чалавек тыдня.
21.05 "Дэн Огаст". Тэлесерыял.
22.10 "Погляд" з А. Любімавым.
23.10 На Гульнях Добрай волі.
23.40 Музагляд.
0.25 Прэс-экспрэс.

### Канал "Расія"

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00 Весткі.
6.20 Патрабуюцца...
6.30 Формула-730.
7.00 Час дзелавых людзей.
7.30 "Міхаіл Савіцкі". Дак. фільм.
8.00 Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
8.30 Паехалі.
8.40 "Санта-Барбара".
9.30 Тэлегазета.
9.35 У свеце жывёл.
10.40 Сялянскае пытанне.
15.20 "Пірацкі востраў". Маст. фільм. 1-я серыя.
15.45 Там-там навіны.
16.00 Новая лінія.
16.45 Свята кожны дзень.
16.55 Дысней па пятніцах. "Адна супраць усіх". 2-я серыя.
17.50 Ніхто не забыты.
17.55 На Гульнях Добрай волі. Лёгкая атлетыка.
19.25 Падрабязнасці.
19.35 На Гульнях Добрай волі. Лёгкая атлетыка. Барацьба.
20.35 "Санта-Барбара".
21.25 Кур'ер Гульняў Добрай волі.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Сусветная ліга па валейболу. Паўфінал.
23.30 На Гульнях Добрай волі. Бокс.

### Санкт-Пецярбург

11.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
12.00, 14.30, 18.30, 21.45 Інформ ТБ.
12.10 "Прыгоды капітана Урунгеля".
12.30 Тэлемагазін.
12.40 Гульні Добрай волі. Лёгкая атлетыка.
14.00 "Спартак". Дзеючыя асобы і... балельшчыкі". Тэлефільм.
14.40 "Верныя сябры". Маст. фільм.
16.25 "Сказ пра тое, як у Петрышулі тэатр вярнулі".
16.55 Гульні Добрай волі. Бокс.
18.55 Цыркавое прадстаўленне.
19.40 "Вяртанне залатой рыбкі". Мультфільм для дарослых.
19.50 "Вавілон XX". Маст. фільм.
21.25 Тэлемагазін.
21.30 "В. Паленаў. Хрыстос і грэшніца". Тэлефільм цыкла "Гісторыя карціны".
22.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
23.05 Ваш стыль.
23.10—0.47 Анталогія замежнага кіно. "Асабістае вызваленне" (ЗША).

### 8-ы канал

18.00 "Карусель".
18.25 СОЛТЭК. Дорэміфасолькі.
18.35 "Вальтрон".
19.00 Сямейны серыял "Швейцарскія Рабінзоны".
19.50 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе мультыплікацыйны фільм.
20.20 Foxy music (паўтор)
21.05 Беларуская асацыяцыя недзяржаўнага тэлебачання. Рэпартаж.
21.20 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.

## СУБОТА, 30 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Надвор'е.
8.30 Пяць хвілін на жарты.
8.35 "Па галоўнай вуліцы з аркестрам". Маст. фільм.
10.10 Паказвае Гомель.
11.10 Шматгалоссе. Шматнацыянальны дзіцячы ансамбль "Званочкі".
11.30 Сталіца. Тэлечасопіс.
11.50 Урокі здароўя.
12.10 Фільмы рэжысёра А. Алая. "Не плачце пра мяне".
13.05 "Музыка без межаў". Кірыл Родзін (віяланчэль).
13.40 Праспект. Інфармацыйна-аналітычная праграма.
14.10 "З якой нагоды з'яўляецца ўсмешка..."
14.25 "У Мумі-Дол прыходзіць восень". Мультфільм.
14.40 І фестываль "Афганістан баліць у маёй душы". Гала-канцэрт.
16.00 Дыялог з прыродай. Роздум эколагаў.
16.40 Акадэмічны час у Акадэмічным тэатры. Закрыццё тэатральнага сезона ў нацыянальным купалаўскім тэатры.
18.00 "Куды сыходзіць дзяцінства?" Лірыка-філасофская праграма для школьнікаў.
18.30 Вялікі збор капітанаў. Сустрэча маракоў-ветэранаў Беларусі.
19.05 "Чарапашкі ніндзя".
19.30 "Нов і К"-топ-10.
20.30 Пяць хвілін на жарты.
20.35 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.35 Пад купалам Сусвету.
21.45 "Выбраныя". Маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
0.05 "Каскад".
0.20 Відзьма-нявідзьма.

### Канал "Астанкіна"

7.00 Суботняя раніца дзелавога чалавека.
7.45 Слова пастара. Мітрапаліт Кірыл.
8.00 Покліч джунгляў.
8.30 Тэлерадыёкампанія "Мір".
9.55 Ранішняя пошта.
10.25 Медыцына для цябе.
10.55 Навіны культуры.
11.05 Смак.
11.20 Адэскай кінастудыі — 75. Маст. фільм "Светлая асоба".
12.40 Гульні Добрай волі. Бокс. Фінал. Веласпорт. Групавая гонка 125 км. Мужчыны.
14.00 Навіны (з сурдаперакладам).
14.20 "Барыс Аляксандраў". Дак. фільм.
15.10 Лабірынт. Грошы на лепшае жыццё.
15.40 "Кэтвізл". Мультсерыял.
16.05 Слава рускага танца. Таццяна Усцінава.
16.35 Тайны Старой плошчы.
17.05 У свеце жывёл.
17.50 Да і пасля.
18.40 Тэлесерыял "Б'юлаленд" (ЗША).
19.40 Добрай ночы, малышы!
20.00 Навіны плюс.
20.45 "Камісар". Тэлесерыял.
21.45 Акадэмія.
22.15 Гульні Добрай волі. Спартыўная гімнастыка. Вольная барацьба. Воднае пола. У перапынку — Навіны.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Мульці-пульці. "Зіма ў Праставашыне".
7.50 Студыя "Рост". "Дазвольце запрасіць".
8.20 Пілігрым.
9.05 Парламенцкі тыдзень.
9.50 Вінілавыя джунглі.
10.20 "Як жыць будзем?"
11.05 Кінатэатр паўторнага фільма. "Голас".
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 Тэлеэрудыт.
13.25 Футбол без граніц.
14.20 "Расія маладая". 8-я серыя.
15.15 На Гульнях Добрай волі. Барацьба.
16.20 Мультфільм "Чорная страла" (ЗША).
17.15 Вуснамі дзіцяці.
17.45 Свята кожны дзень.
17.55 Тэлеэрудыт.
18.00 "Кінограф".
19.25 "Прышпілены капрал". Маст. фільм.
21.30 Кур'ер Гульняў Добрай волі.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 Сусветная ліга па валейболу. Фінал.
23.30 Праграма "А".

### Санкт-Пецярбург

8.45 "Аўтограф на лёдзе, або Усе зоркі". Чэмпіёны свету і Алімпійскіх гульняў па фігурным катанні ў Вене (1968 г.)
9.05 Анталогія замежнага кіно. "Асабістае вызваленне" (ЗША).
10.45 Дзённік Гульняў Добрай волі.
11.55 Гульні Добрай волі. Валейбол. Жанчыны.
14.10 "Без віны вінаватыя". Маст. фільм.
15.45 "Марьяна першая". Мультфільм.
16.15 "К. Брулоў. Апошні дзень Пампеі".
16.25 Японскія сустрэчы Фаруха Рузіматава.
17.10 "Пасвячэнне ў каханне". Маст. фільм.
18.30, 21.45 Інформ ТБ.
18.55 Гульні Добрай волі. Валейбол. Жанчыны.
21.10 "Няхай жыве баль!" Музычны фільм.
22.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
23.05 Ваш стыль.
23.10—23.40 "Адам і Ева +".

### 8-ы канал

15.00 Маст. фільм "Героі Шао Ліня".
16.30 Прапаведнік Кенет Коупленд.
17.00 "Трансформеры".
17.50 Прыгодніцкі серыял "Заліў Небяспечны": "Сапраўдная дружба".
18.15 "Бітва пры Азенкуры" з цыкла "Гістарычныя падзеі".
19.25 "Кветка страсці".
21.00 СОЛТЭК. Спартыўная мазаіка.
21.35 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.
23.05 "Давайце патанцуем".

## НЯДЗЕЛЯ, 31 ЛІПЕНЯ

### Беларускае тэлебачанне

8.00 Раніца рэспублікі.
8.10 Пад купалам Сусвету.
8.20 Пяць хвілін на жарты.
8.25 Слова да чалавека.
8.55 Справы вайсковыя. У паветры і на сушы...
9.40 Беларускі тур. Падарожы, сустрэчы, адпачынак.
9.55 "Чарапашкі ніндзя".
10.20 АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі.
10.35 MTV. Лепшыя хіты.
11.05 "Еўрабачанню" — 40 год. Расказвае пісьменнік Пітэр Усцінаў.
11.55 "Арт-клуб" прадстаўляе: закрыццё першага Міжнароднага пленэра імя Марка Шагала.
13.10 Тэлебом.
14.10 Паміж намі, жанчынамі..."Роздум пасля салютаў".
14.55 Тэлекрама.
15.10 "Жаніцьба Бальзамінава". Маст. фільм.
16.35 Настальгічны дывертысмент. Гісторыя ДАВТа Беларусі.
17.45 "Гінес-шоу".
18.15 Дзелавы веснік.
18.30 "Чарапашкі ніндзя".
18.55 Запрашаем на вячоркі. Абрад "Радзіны" ў вёсцы Крывыя Талачынскага раёна.
20.00 Панарама.
20.35 Пад купалам Сусвету.
20.40 Калыханка.
21.00 Пяць хвілін на жарты.
21.05 "Мядовы месяц". Конкурсная праграма.
22.10 "Сінема" прадстаўляе.
22.15 "З кветкай у роце". Маст. фільм (Італія).

### Канал "Астанкіна"

7.15 Алімпійская раніца.
7.50 Тыраж "Спортлато".
8.00 Марафон-15.
8.30 Раным-рана.
9.00 Палігон.
9.30 Пакуль усе дома.
10.00 Хрустальны чаравічак.
10.50 "Кантрольная для дарослых". Тэлесерыял. Фільм 9-ы.
11.35 Зямля людзей.
12.05 Цыганскія песні спявае Любоў Дэметэр.
12.25 "Русскій міръ".
12.55 Шпаргалка.
13.00 "Лета ката Леапольда". Мультфільм.
13.10 "Падводная адысея каманды Кусто".
14.00, 17.15, 23.00 Навіны.
14.20 Тэлерадыёкампанія "Мір".
15.00 Жывое дрэва ремёстваў.
15.05 Ва ўсіх на вуснах.
15.35 Вакзал мары. Ю. Башмет.
16.20 Клуб падарожнікаў.
17.25 Тэлелоцыя.
17.40 "Баскетбольная ліхаманка". "Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды".
18.30 Бамонд.
18.50 На Гульнях Добрай волі.
19.15 Луі дэ Фюнес у мастацкім фільме "Вялікія канікулы" (Францыя).
21.00 Нядзеля.
21.45 Спартыўны ўік-энд.
21.55 На Гульнях Добрай волі.
22.20 Каханне з першага погляду.
23.10 Сёння. Рэлігійная праграма.

### Канал "Расія"

7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 "І чуваць было ўдалечыні..." Дак. фільм.
7.50 Здарова жывеш.
8.05 Студыя "Рост".
8.35 "Снеданне для чэмпіёнаў".
9.05 Лепшыя гульні НБА.
10.05 Аты-баты...
10.35 Дэ факта. Міжнародная праграма.
11.05 "Шурачка". Маст. фільм.
12.40 Сялянскае пытанне.
13.20 "Не высечы..."
13.35 Залатая шпора.
14.05 Белая варона.
14.50 Чэмпіянат свету па аўтагонках у класе "Формула-1". Гран-пры Германіі.
17.00 "Гуфі і яго каманда", "Чорны плашч".
18.00 Каробка перадач.
18.15 На Гульнях Добрай волі. Барацьба.
19.25 "Твар страху". Маст. фільм.
20.45 Кур'ер Гульняў Добрай волі.
21.20 У Ксюшы.
22.20 Аўтаімгненне.
22.25 Зоркі гавораць.
22.30 На Гульнях Добрай волі. Спартыўная гімнастыка. Жанчыны.

### Санкт-Пецярбург

9.00 "Гаючае слова". Праграма-набажэнства.
9.30 "Клемянціна". Мультфільм.
10.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
11.00 Нядзельны лабірынт.
12.25 Гульні Добрай волі. Валейбол. Жанчыны.
14.05 Гістарычны альманах.
14.55 Гульні Добрай волі. Сінхроннае плаванне.
16.05 "Атракцыён". Мультфільм.
16.15 "З доказамі злачынства". Фільм-спектакль.
17.55 Гульні Добрай волі. Спартыўная гімнастыка.
18.30 Інформ ТБ.
18.55 Гульні Добрай волі. Спартыўная гімнастыка.
20.10 Наша кіно. "Белае сонца пустыні".
21.35 Экспрэс-кіно.
22.00 Дзённік Гульняў Добрай волі.
23.05—23.10 Ваш стыль.

### 8-ы канал

15.00 Мастацкі фільм "Казка пра казку".
15.35 "Трансформеры".
16.40 "Грамадзянская вайна ў Англіі" з цыкла "Гістарычныя бітвы".
18.00 СОЛТЭК. Тэлефэн. Вуліца.
18.30 "Кветка страсці".
20.55 Спорт-сакрэт.
21.10 Студыя "Рэкорд" прадстаўляе маст. фільм.
22.40 Foxy music.

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

# ПРЫГОДЫ СТАТЫСТА

*Сяргей Носаў, прэс-сакратар Партыі ў падтрымку СНД, вось ужо пяць гадоў здымаецца на "Беларусьфільме" ў якасці статыста. Як вядома, большасць людзей — не героі гісторыі, а толькі маўклівыя сведкі ці непрыкметныя ўдзельнікі, масоўка. Тым не менш, як сведчаць аповеды Сяргея Носава, нават у маленькай ролі чалавек спаўна адчувае сябе артыстам.*

*На першы погляд, мы здольныя іграць іншых людзей толькі павярхоўна, з дапамогай чужой мовы, вопраткі, штучных абрысаў цела і твару. Але вонкавае падабенства паступова засвойваецца арганізмам артыста і ператвараецца ва ўнутранае. Нават калі акцёр здымае пасля спектакля з сябе пячатку чужога імя, твару і вопраткі, ён здольны яшчэ доўга бачыць свет чужымі вачыма...*

*Гульня адкрывае нам, што кожны іншы, нават самы звычайны чалавек, мае ў сваім лёсе штосьці гераічнае. Ці не таму кожная роля ўспрымаецца артыстам, як новая прыгода? І ці не ў гэтым разгадка таго, чаму людзей увогуле так вабіць гульня?*



ФІЛЬМ "Кешка і барада" яшчэ не скончаны. Фільма ніхто, натуральна, не бачыў, але ён даў нямала спажывы для пагалосак рознага кшталту.

Сюжэт ён мае просты, як і многія фільмы, што здымаюцца на абшарах былога СССР. Аднойчы да хлопчыка трапляе цудадзейная мазь будыйскага манаха, якую ён ужывае як звычайны крэм для твару. Нечакана ў яго адрастае паважная дапятроўская барада. Феномена вязуць напачатку ў шпіталь, а адтуль на прэс-канферэнцыю.

Шпітальная сцэна здымалася каля стадыёна "Дынама", у 3-й клінічнай бальніцы. Пакуль выгружалі амаль музейную кінатэхніку, удзельнікі здымак разміналі ногі ды языкі ў холе, дыхаючы цыгарэтным дымам, хто — актыўна, а хто — пасіўна.

Усе ўстрапянуліся, пачуўшы гучнае "Вох!". У дзвярах стаяла бабулька з дзяўчынкай пад руку. Абедзве ўтаропіліся ў юнага артыста ў грыме.

— Ці ж гэта не ад радыяцыі, га? — загаласіла бабуля. — З якіх мясцін будзеш, хлопчык?

— З якіх такіх мясцін, я мінчанін, — буркнуў хлапец.

— Вой! — ізноў ускрыкнула бабулька і выбегла з хола.

Але ўжо клікалі ў залу. Пачыналіся здымкі.

Абследаванне феномена здымалі ў спешцы. Нас ужо чакалі на студыі, дзе мелася разыграцца прэс-канферэнцыя. Нікому не было справы да публікі, што стоўпілася ля дзвярэй, — тым больш, што трымалася яна ціха: гледачы ўтаропіліся ў выканаўцу галоўнай ролі.

Вакол барадатага падлетка, акружанага прафесарамі ў белых халатах, бегалі статысты, якія адыгрывалі ролю фотакарэспандэнтаў. Сярод запрошаных журналістаў былі "кітайцы" ў бездакорна белых кашулях і сініх пінжаках, з "Панасонікамі" ў руках.

— Дык я што кажу... — пачуўся шэпт дамы ў гадах. — У майго суседа цешча на свае вушы чула, што дзесьці каля Рэчыцы вада зялёная ідзе са студняў!

— Вой, ды што ж гэта будзе?!

—... Сабакі разбегліся, смурод стаіць такі...

Жанчына паражагналася.

— А яблыкі такія вялізныя, есці няможна. І ў костках іхніх гэтыя... Нуклеіды, во.

— А ўсё таму, — дадала дама, — што Мішка Мечаны на царстве сядзеў! У маёй цёткі нядаўна ў павеці адна кніжка знайшлася, дык там усё прапісана, што будзе.

Жанчыны разам уздыхнулі.

— Спадарыні, цішэй! — абярнуўся тэхнік, — вы ж замінаеце!

Публіка пакінула памяшканне, але двор бальніцы ўжо гудзеў, нібы вулей.

Сцэну знялі. Удзельнікі здымачнай групы рассаджваліся ў мікрааўтобусе, паслаблялі мёртвую хватку імпартовых гальштукаў, расшпільвалі гузікі. Гаманілі.

— Я не разумею, пра што ж фільм? У чым цуд? Што ў беларуса барада вырасла?

Але акцёр не зусім меў рацыю. Феномен у фільме прысутнічаў. З ліку тых, на якія цяперашняе жыццё вельмі багатае.

* * *

У РАЙАДДЗЕЛЕ міліцыі здымалі эпізод фільма "Не было б шчасця". Сярод міліцыянераў, якія здымаліся ў фільме, толькі двое не былі імі насамрэч — акцёр, які іграў маёра, начальніка райаддзела, і я — у эпізадычнай ролі сяржанта.

Майму сяржанту неабходна было ўцягнуць падлітую прастытутку ў кабінет начальніка.

"Аблічча прафесіянала", створанае ў грымёрнай, у аддзяленні дружна забракавалі: "Што ж гэта ён выйшаў на дзяжурства без дубінкі і табельнай зброі?" І выдалі мне дубінку. Пісталета, праўда, не далі.

Пакуль ішла падрыхтоўка, прыйшоў час абеду і здымачная група паехала ў кафетэрый "Беларусьфільма". Аддзяленне знаходзілася ў некалькіх прыпынках ад майго дома. Але з'яўляцца ў горадзе ў такім выглядзе? Гэта ж не рабочы камбінезон апрануць. А раптам абман ускрыецца? Забяруць!

Але маё адзенне засталося ў касцюмернай.

Славянам ніколі не бракавала духу самазванства. Я выскачыў на вуліцу і, адбіваючы крок, пайшоў да прыпынку. Падбягаючы да тралейбуса, я заўважыў, што людзі ля дзярэй расступаюцца, каб прапусціць мяне. Я ехаў, пазіраючы на твары людзей, што чапляліся поглядам за мяне. Але ўсе глядзелі раўнадушна, і я супакоіўся і звыкся са сваёй роляй.

Дома я пазваніў у дзверы і сурова спытаў: "Грамадзянка Носава тут жыве?" Мама, адчыніўшы, войкнула: "Зусім як Толік". (Мой брат быў міліцыянерам.)

Калі вяртаўся, мяне прыпыніла старая: "Таварыш міліцыянер, дзе Савецкі РАУС?" Я старанна растлумачыў ёй, як туды дабрацца. Я быў ветлівым ахоўнікам парадку.

Здымкі ўжо пачаліся. "А мы думалі, ты збег у форме", — сказаў адзін з міліцыянераў.

Пачалося тое, дзеля чаго быў прыдуманы ўвесь гэты сыр-бор з пераапрананнем. Пляскала дзеравяшка, што абвяшчала пра чарговы дубль, і я цягнуў сімпатычную дзяўчыну, схапіўшы яе вышэй локця. Малодка з цыгарэтай у руцэ на ватных нагах ўваходзіла ў аддзяленне і прытульвалася да бар'ера, за якім сядзелі дзяжурныя. "Хлопчыкі, я прыкурыць..." "Пайшла!" — крычаў я і кідаў яе на табурэт. "Сядзі ў мяне смірна!" — замахваўся я дубінкай, тыкаў ёю ў твар "курве" і, схапіўшы яе за каўнер, прыціскаў да сцяны.

Пасля кожнага дубля рэжысёр казаў ёй: "Больш развязна!", а мне: "Больш жорстка". Яна мне шэптам: "Вы хапайце мяне за руку, не бойцеся..."

— Але я Вам так сінякоў настаўлю.

— Нічога. Гэта мая першая роля ў кіно.

Аддзяленне працягвала між тым працаваць. Сыходзілі і прыходзілі людзі, адчувалася звычайная мітусня. Але народ пачынаў гуртавацца і глядзець на тое, што адбывалася. "Нішто сабе хам!" — даносілася ў мой адрас.

Нашу сцэну, нарэшце, скончылі. Я стаяў у вестыбюлі, калі да мяне падбегла жанчына. "Маю дачку згвалцілі. Яму сорак гадоў. Ён..." Ну што мне было ёй тлумачыць... "Прайдзіце, калі ласка, вось у той пакой", — паказаў я. Я ўжо пачынаў асвойвацца ў аддзяленні. За дзень давялося пабачыць шмат чаго. Яркіх уражанняў хапала.

Здымкі скончаны, дзень дагараў у прыцемках. Я здаў дубінку, развітаўся за руку з супрацоўнікамі РАУСа. "Прыходзь працаваць", — усміхнуўся капітан, начальнік аддзялення. "Не, лепей вы да нас", — адказаў я і аддаў чэсць, перад тым як зняць фуражку.

Здымачная група рассаджвалася ў "рафіку", каб ехаць на студыю. Я падышоў разам з імі да машыны. "А я думала, Вы сапраўдны міліцыянер", — разгублена працягнула выканаўца галоўнай ролі. "Такі ж, як і Вы, несапраўдны".

Дахаты я ішоў паўз помнік Дзяржынскаму. Заўважыў, што паходка ў мяне сталася больш цвёрдай, больш нахабнай: іду проста ў натоўп, упэўнены, што людзі павінны расступіцца.

* * *

АЛЕ сапраўды глыбокае пераўвасабленне мне давялося адчуць на здымках фільма "Гладыятар па найме".

Голас брыгадзіра масоўкі, калі ён мне тэлефанаваў, быў нечакана інтымным: "Прывядзіце з сабою маладых хлопцаў".

— А ці можна ўзяць і сімпатычных дзяўчат?

— Не, нам патрэбны толькі мужчыны.

У той момант я не здагадаўся, у чым справа, але калі мы з сябрамі прыехалі на месца здымак, стала зразумела, пра што ішла размова.

Бар пансіяната "Юнацтва" быў абсталяваны пад замежны. Дзеянне фільма, як нам растлумачылі, адбываецца ў Швецыі. Па бары, дзе мітусіліся, уладкоўваючы тэхніку, майстры святла ды іншыя, шпацыравалі акцёры з нафарбаванымі вуснамі ў кідкіх апранахах.

У бары адпачывалі адны мужчыны. За выключэннем асістэнта рэжысёра Элы, непрывабнай жанчыны, да якой усе настолькі прызвычаіліся, што яе прысутнасць не заўважалі. Ёй часам таксама перападалі ролі ў масоўцы, у эпізодах, што дапаўнялі яе сціплы заробак. Эла была заслужаным салдатам "сінема". Але сёння яна была толькі асістэнтам.

Рэжысёр выступіў перад артыстамі масоўкі з прамовай: "Спадары! Так, сёння толькі спадары, без дам. Гадоў дваццаць таму ў Адэсе я быў знаёмы з цудоўным хлопцам. Разумны, эстэт, эрудыт. Ён хадзіў у пантофліках на высокіх абцасах, на танцы надзяваў руды парык з кучарашкамі. Неяк мы з ім... размаўлялі пра балет. Тады і СНІДа не было..." — рэжысёр зрабіў прыгожы жэст. Яго натхненне было даволі падагрэтае. Але гайдаўся ён прыгожа, быццам танцаваў. — "Ён праводзіў мяне дадому. І на ганку пры расставанні хацеў пацалаваць. Але, — апавядальнік развёў рукамі, — я сказаў яму: "Не дадзена мне... гэта. Што зробіш?" "Але вам сёння — дадзена", — рэжысёр абвёў нас, салдат "сінема", натхнёным позіркам.

"Значыцца, як сябе паводзім у нашым гатэлі? Разбярыцеся па парах, каму хто падабаецца. Глядзім амаль увесь час адзін на аднаго, узяўшыся за рукі. Тут будзе адна сітуацыя, увойдзе дзяўчына. На яе — ніякай увагі. Калі ўзнікнуць пытанні — да мяне ці да нашых артыстаў". На пярэднім плане стаялі два хударлявыя, зграбныя юнакі.

Пасля дзвюх-трох рэпетыцый запрошаныя статысты нядрэнна асвоіліся ў шведскім бары. Нехта пачаў імправізаваць, зазіраць у вочкі напарніку, какетліва паводзіць плячыма, уздымаючы вейкі, гладзіць па руцэ партнёра. Гэты вобраз гэтак жа пасаваў нашым людзям, як трохі раней зэкаўская уніформа. Акцёры ж дэманстравалі сапраўдны балет. Здымкі пайшлі без праблем.

Але без іх усё ж не абышлося. Была зіма, аднак усіх прасілі ўзяць з сабою летнія маечкі, кашулькі і зараз іх адзець. Час ішоў, і статысты ўжо пачыналі мёрзнуць. "Вы неўзабаве ад холада станеце блакітнымі, — сказаў рэжысёр. — Яшчэ крышачку, хлопчыкі і дзяўчынкі, хутка скончым. Пачалі!" "Кадр 61, дубль першы", — хлопнула Эла сваёй дзеравяшкай.

У бар увайшла шыкоўная маладзіца. Хада Мерылін Манро, позірк Мадоны, прапорцыі Кім Бэсінджэр. Карацей, сама сэксапільнасць. Прагажуня падышла да люстэрка, паправіла фрызуру. Пастаяла, азіраючыся навокал, падышла да стойкі, замовіла сабе "Марціні" і кактэйль, паглядаючы на наведнікаў бара.

Дама пацягвала кактэйль праз саломінку ў адзіноце. Нарэшце, не дапіўшы, яна выйшла, нават выскачыла. "Усё! Усе малайцы! Вы былі геніяльныя!" — рэжысёр запляскаў у ладкі. Масоўка, хутка апранаючыся, пайшла на выхад. У аўтобусе рассаджваліся з рогатам і кпінамі. Міма ішлі дзве тутэйшыя дзяўчыны. "Дзяўчаты, сядайце, падвязем!" "Файныя дзеўкі!" Аўтобус крануўся, і нашыя героі паехалі дахаты. Яны выціралі памаду з вуснаў, сіняву з вачэй. "Бачыла б мяне мая Алка сёння..." — хістаў галавой мажны хлопец.

Усе ехалі, перапоўненыя ўражаннямі. Вось гэта экзотыка!

Усё ж цікава пабываць хоць раз, але ў іншым "вымярэнні". Хаця асабіста я згаджаюся на гэта толькі ў кіно.

**Сяргей НОСАЎ**

*(Заканчэнне будзе)*

*На фота:* здымаецца фільм "Сівая легенда".

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

